## Дарагія чытачкі і чытачы!

Перад Вамі Агляд грамадскіх падзей 2020 году. Году вельмі няпростага, неадназначнага, але дакладна важнага і ўнікальнага.
Што адбывалася ў грамадскім сектары ў 2020 годзе? Агляд распавядае пра тыя тэндэнцыі і падзеі, якія стваралі кантэкст развіцця і існавання грамадзянскай супольнасці, шмат у чым абумовіўшы ходу і характар тых падзеяў у Беларусі 2020 года, якія цягам году напаўнялі зводкі сусветныя медыяў.

Змест Агляда складаецца з дзвюх частак — апісанне падзеяў розных сектараў грамадзянскай супольнасці і апісанне грамадскіх тэндэнцый, унікальных для 2020 году.

У першай частцы кожны з сектараў прадстаўлены ў выглядзе экспертнага інтэрв ю з адной з ключавых асобаў у сваёй сферы, а таксама прыкладамі яркіх падзей, якія ўсё ж атрымалася правесці арганізацыям грамадзянскай супольнасці.

Другая частка адзначае тэндэнцыі і змены, якія адбыліся ў грамадстве ў 2020 годзе: засвойванне арганізацыямі грамадзянскай супольнасці анлайн-прасторы, выбух актыўнасці лакальных супольнасцей, краўдфандынг і фінансаванне грамадскага сектара, феномен культурнай салідарнасці, павелічэнне ўдзелу ў грамадскім жыцці спартоўцаў, масавыя акцыі 2020га.

Мы вельмі ўдзячныя ўсім эксперткам і экспертам, якія знайшлі час і магчымасць бязвыплатна дапамагчы ў падрыхтоўцы публікацыі.

Мы вельмі ўдзячныя ўсім вам, грамадскія актывісты і актывісткі, лідары і лідаркі мясцовых супольнасцяў, усім тым, хто цягам 2020 году ствараў новыя ініцыятывы, умацоўваў інфраструктуру дабрачыннасці і збору дапамогі, ладзіў акцыі салідарнасці, выступаў публічна ў абарону грамадскіх інтарэсаў, абараняў правы людзей.

Разам мы робім Беларусь лепш.



# Юлія Міцкевіч
# «Мы адкрылі сябе новымі»

Беларусь у 2020 годзе застанецца ў памяці не толькі дзякуючы палітычным падзеям. Гэты год стаў годам сапраўднага гендарнага прарыву, лічыць праектная менеджэрка арганізацыі «Актыўным быць файна», феміністка Юлія Міцкевіч

Год прынёс надзею на тое, што змены не толькі магчымыя, яны ўжо пачаліся. Каронавірус шмат зрабіў для таго, каб валанцёрства ў Беларусі стала каштоўнасцю і каб мы зразумелі, што беларусы — нацыя, якая здольная клапаціцца і падтрымліваць. Пасля гэта пацвердзілася падчас затрыманняў удзельнікаў пратэстаў.

— ГЭТАЯ СІТУАЦЫЯ ПАКАЗАЛА, ШТО МЫ ЎСЕ — І ЖАНЧЫНЫ, І МУЖЧЫНЫ, — ДЗЕЙНІЧАЛІ РАЗАМ, І АПЫНУЛАСЯ, ШТО ДЗЕЛЯ ГЭТАГА НЕ ТРЭБА НІЧОГА РАБІЦЬ, УСЁ БЫЛО НАТУРАЛЬНА. МЫ АДКРЫЛІ СЯБЕ НОВЫМІ, — СЦВЯРДЖАЕ ЮЛІЯ МІЦКЕВІЧ.

Прэзідэнцкія выбары, а дакладней, поствыбарчы перыяд, сталі чыннікам, які найбольш паўплываў на гендарную павестку



Беларусі ў 2020 годзе. У беларускага пратэсту жаночае аблічча — гэта факт, які праявіўся не толькі ў палітычнай плоскасці і асобе экс-кандыдаткі ў прэзідэнты Святланы Ціханоўскай. Гэта і жаночыя маршы ў самых розных фарматах па ўсёй краіне, накіраваныя супраць фальсіфікацыі выбараў і супраць гвалту, і жаночая салідарнасць, і мабілізацыя

— ТОЙ УЗРОВЕНЬ ГАРЫЗАНТАЛЬНАЙ КАМУНІКАЦЫІ, ЯКІ БЫЎ НА ЖАНОЧЫХ АКЦЫЯХ, УЗРОВЕНЬ КАМАНДНАГА ПРЫНЯЦЦЯ РАШЭННЯЎ, НЕЧУВАНАЙ САЛІДАРНАСЦІ, УЗАЕМАДАПАМОГІ, ПАДТРЫМКІ, КЛОПАТУ, — УСЁ ТОЕ, ШТО СТАЛА ПОТЫМ АДМЕТНАСЦЮ ІНШЫХ АКЦЫЙ, — УЖО ІСНАВАЛА Ў АРГАНІЗАЦЫЯХ ГРАМАДЗЯНСКАЙ СУПОЛЬНАСЦІ, ДЗЕ, МІЖ ІНШЫМ, ПЕРАВАЖАЮЦЬ ЖАНЧЫНЫ. ТОЕ, ШТО ЎЖО БЫЛО Ў ГЕНДАРНЫХ, ЖАНОЧЫХ АРГАНІЗАЦЫЯХ, СТАЛА ЧАСТКАЙ АГУЛЬНАЙ ПАВЕСТКІ НА ПАЛІТЫЧНЫХ АКЦЫЯХ, ХАЦЯ ЗРАЗУМЕЛА, ШТО НЕ ЎСЕ, ХТО Ў ІХ УДЗЕЛЬНІЧАЕ, НАЛЕЖАЦЬ ДА ЖАНОЧАГА РУХУ, — ЗАЗНАЧАЕ ЮЛІЯ МІЦКЕВІЧ.

Як атрымалася, што раптам жанчыны ў Беларусі сталі такой неверагоднай сілай? Юлія Міцкевіч адказвае, што гэта адбылося не «раптам», проста гэтая сіла была нябачнай. Палітычны рух стаў для жанчын магчымасцю праявіць сябе.






— УЗМАЦНЕННЕ РОЛІ ЖАНЧЫН, ІХ УПЭЎНЕНАСЦІ Ў САБЕ СТАЛА АДНЫМ З ВАЖНЫХ РУХАВІКОЎ ПАВЕСТКІ ГЕНДАРНАЙ РОЎНАСЦІ Ў БЕЛАРУСІ, — ПАДКРЭСЛІВАЕ ЭКСПЕРТКА.

Дарэчы, менавіта дзякуючы гэтым падзеям сфарміравалася фемгрупа Каардынацыйнай рады, у якую ўваходзіць шэраг прадстаўніц феміністкай супольнасці і гендарных арганізацый Беларусі.
Але нароўні з выбухам жаночай актыўнасці, падчас пратэстаў праявіўся і іншы бок грамадска-палітычных пераўтварэнняў у краіне: менавіта жанчыны зазналі падчас іх найбольшы ціск.

— З АДНАГО БОКУ, ІХ ЗАТРЫМЛІВАЮЦЬ, САДЖАЮЦЬ НА СУТКІ, ІМ ПАГРАЖАЮЦЬ КРЫМІНАЛЬНЫМІ ТЭРМІНАМІ. ДРУГІ БОК — ГЭТА СФЕРА КЛОПАТУ, ЯКАЯ ТРАДЫЦЫЙНА ЛЯЖЫЦЬ НА ЖАНЧЫНАХ. ЯНЫ ХОДЗЯЦЬ НА АКЦЫІ, А ПОТЫМ ПРЫХОДЗЯЦЬ ДАДОМУ І ЗАЙМАЮЦЦА ХАТНЯЙ ПРАЦАЙ. У ФЕМГРУПЕ МЫ НАВАТ ПРАВЯЛІ ДАСЛЕДАВАННЕ АБ ПАТРЭБАХ ЖАНЧЫН У ПЕРЫЯД ПРАТЭСТАВАЙ АКТЫЎНАСЦІ, І ЯНО ПАКАЗАЛА, ШТО ЖАНЧЫНЫ САПРАЎДЫ ЗНАХОДЗЯЦЦА Ў ВЕЛЬМІ ЎРАЗЛІВЫМ




СТАНОВІШЧЫ ПАДЧАС ТРАНСФАРМАЦЫЙНЫХ ПРАЦЭСАЎ У КРАІНЕ. У НАС БЫЛІ ГІСТОРЫІ, КАЛІ МУЖЧЫНЫ ЎСІМ АХВЯРАВАЛІ ДЗЕЛЯ ПЕРАМОГІ, У ТЫМ ЛІКУ І ФІНАНСАМІ, І НА ЖАНЧЫН НАКЛАДАЎСЯ ДАДАТКОВЫ КЛОПАТ, КАБ ЗНАЙСЦІ, ЧЫМ КАРМІЦЬ ДЗЯЦЕЙ. НУ І ТРЭЦІ МОМАНТ — ТОЕ, ШТО НАЗЫВАЕЦЦА «ДВАЙНОЕ ПАКАРАННЕ», БО КАЛІ ЖАНЧЫНУ ЗАТРЫМЛІВАЮЦЬ, ЁЙ НЕ ТОЛЬКІ МАТАМ КАЖУЦЬ, ШТО ДУМАЮЦЬ НАКОНТ ЯЕ ЎДЗЕЛУ Ў ПРАТЭСТАХ, А ЯШЧЭ І ПРАД'ЯЎЛЯЮЦЬ, ШТО ЯНА — КЕПСКАЯ МАЦІ, У ЯЕ ЗАБЯРУЦЬ ДЗЯЦЕЙ, І ШТО ЯНА МУСІЦЬ СЯДЗЕЦЬ ДОМА І ЗАЙМАЦЦА МУЖАМ І СЯМ'ЁЙ. ЖАНЧЫН ПАЗБАЎЛЯЮЦЬ ПРАВА НА ГРАМАДСКІ ЎДЗЕЛ.

Але і ў саміх жанчын, у тых, хто цяпер прадстаўляе новую апазіцыю, яшчэ няма дакладнага асэнсавання жаночага ўдзелу ў палітыцы, канстатуе Юлія Міцкевіч. Пакуль што ён успрымаецца як вымушаная мера, і калі ўсё скончыцца, жанчыны зноў вернуцца «на свае кухні» і будуць займацца тым жа, чым і раней.

— ГЕНДАРНАЯ РОЎНАСЦЬ — ГЭТА СКРАЗНАЯ КАШТОЎНАСЦЬ, ЯКАЯ ПРЫСУТНІЧАЕ ВА ЎСІХ СФЕРАХ ЖЫЦЦЯ ЧАЛАВЕКА, І ГЭТА ЗВЯЗАНА НЕ ТОЛЬКІ З ГЕНДАРАМ, АЛЕ І З УЗРОСТАМ, САЦЫЯЛЬНЫМ СТАНОВІШЧАМ, АДУКАЦЫЯЙ І ІНШЫМІ СКЛАДНІКАМІ. АДНАК ДЗЕЛЯ ТАГО, КАБ ЖАНЧЫНЫ НЕ ВЯРНУЛІСЯ НА СВАЕ ЎМОЎНЫЯ «КУХНІ», ТРЭБА, КАБ ГЕНДАРНАЯ РОЎНАСЦЬ БЫЛА ПРЫЯРЫТЭТАМ У ПАЛІТЫЦЫ, КАБ У НОВЫХ ЛІДАРАЎ БЫЛА ПАЛІТЫЧНАЯ ВОЛЯ ЛІЧЫЦЬ ГЭТА КАШТОЎНАСЦЮ І ПРАСОЎВАЦЬ, — ПЕРАКАНАНАЯ СУРАЗМОЎЦА.

# Юлія Міцкевіч
## «Мы адкрылі сябе новымі»





Гендарная роўнасць, як і дэмакратыя, — гэта працэс, і ён адбываецца. Ён не пачаўся і не скончыўся на пратэстах, станаўленне гендарнай роўнасці — праца шматлікіх арганізацый і ініцыятыў.

Калі казаць пра грамадскія падзеі ў гэтай сферы ў 2020 годзе, можна адзначыць W-day, які праходзіў 2 — 13 сакавіка ў Мінску. Ён уключаў серыю мерапрыемстваў, прысвечаных вясноваму святу гендарнай барацьбы (ці святу роўнасці палоў) у супрацьвагу ператворанаму ў «дзень цукерак, кветак і сардэчак» Міжнароднаму жаночаму дню. Тэматычныя майстар-класы, гурткі, лекцыі ў афлайн- і анлайн-фармаце, кінапрагляды ў межах W-day ладзіла ініцыятыва «Актыўным быць файна» («АБФ») сумесна з каледжам ECLAB, выданнем «Студэнцкая думка», арганізацыяй «Радзіслава», праваабарончым цэнтрам «Вясна».

У 2020 годзе Офіс еўрапейскай экспертызы і камунікацыі запусціў вялікую праграму — Woman Playlists (Плэйлісты для жанчын). Гэта навучанне для жанчын, якое складаецца з плэйлістоў, кожны з якіх — гэта асобны ўзровень жаночага лідарства. Адзін такі плэйліст складаецца з розных магчымасцяў (трэкаў): вэбінары, трэнінгі, воркшопы, відэа, тэксты. Можна выбіраць упадабаныя з іх і ствараць асабісты плэйліст.

Напрыканцы лістапада ініцыятыва «Тэндэр на гендар» зладзіла майстэрню форум-тэатра «За адчыненымі дзвярыма». Пры дапамозе актывісцкіх практык працы з целам, пачуццямі і пражытым вопытам удзельнікі шукалі новыя стратэгіі і спосабы ўзаемадзеяння са светам. Па выніках працы майстэрні ў снежні адбыўся форум-спектакль. Апроч таго ў межах ініцыятывы «Тэндэр на гендар» адбыўся шэраг вэбінараў на тэму сексу, пачуцця віны, цялеснасці і актывізму.
Яшчэ адна жаночая ініцыятыва Minsk Girls Gang цягам мінулага года зладзіла некалькі Girls Gang party — дабрачынных вечарынак для дзяўчат. Усе атрыманыя сродкі перадалі ГА «Радзіслава» — прытулку для жанчын, якія пацярпелі ад гвалту.

Вельмі запатрабаванымі сталі жаночыя групы падтрымкі,



якія «АБФ» ладзіла ў Магілёве. Гэта быў шэраг сустрэч жанчын, падчас якіх яны рабілі нешта сваімі рукамі, камунікавалі, абмяркоўвалі хвалюючыя тэмы, а таксама атрымлівалі псіхалагічныя інструменты барацьбы з трывогай і іншымі дэструктыўнымі адчуваннямі і эмоцыямі.

Там жа, у Магілёве, пачаў працу гендарны шведскі гурток. Падобны гурток «Гендарнае расследаванне» паспяхова працуе ў Гомелі, а таксама ў іншых рэгіёнах Беларусі. Сутнасць такіх гурткоў у тым, што роўныя дзеляцца сваімі ведамі і ўменнямі з роўнымі, тут няма выкладчыкаў і навучэнцаў. Як можна здагадацца з назвы, такі метад навучання быў распрацаваны ў Швецыі.

Яшчэ некалькі значных рэгіянальных падзей у сферы абароны правоў жанчын і супрацьстаяння гвалту адбыліся на хвалі пандэміі каронавіруса. Калі беларусы пачалі сыходзіць на аддаленую працу і ў самаізаляцыю, стала зразумела, што для




жанчын, якія пакутуюць ад хатняга гвалту, заставацца ў сем'ях стала небяспечна. Каб вырашыць гэтую праблему барысаўскае грамадскае аб'яднанне «Правінцыя» адкрыла ў Барысаве і Пінску шэлтары для таго, каб яны маглі схавацца там на некаторы час.

Магілёўская ініцыятыва «Новыя рэгіёны» стварыла праект MOGILOVE — праект аб Магілёве і пра квір-людзей у ім. Тут распавядаюцца асабістыя гісторыі пра станаўленне і (не)прыняцце герояў і гераінь сябе як ЛГБТ-людзей і пра тое, як іх (не)прымалі ў сям'і і грамадстве. Таксама ў праекце расказваецца пра ўзаемаадносіны квір-людзей з горадам і асобнымі яго часткамі. Гісторыі можна паглядзець як у фармаце фільма, так і прачытаць на сайце ініцыятывы.

— У БЕЛАРУСІ ВЕЛЬМІ МОЦНЫЯ ГЕНДАРНЫЯ АРГАНІЗАЦЫІ І МНЕ ЗДАЕЦЦА, ШТО ТОЙ ІМПУЛЬС, ЯКІ ДАЛІ ПАДЗЕІ 2020 ГОДУ, ПАСПРЫЯЕ ДАЛЕЙШАМУ РАЗВІЦЦЮ, — УПЭЎНЕНАЯ ЮЛІЯ МІЦКЕВІЧ.



# ПРАЕКТ «FEMSTANDUP»



АКТЫВІСТКІ АНЯ ФІЛІСТОВІЧ І МАША КОЛБ
МІНСК
СТУДЗЕНЬ 2020

ФЕМСТЕНДАП BY
FEMSTANDUP.BY
FEMSTANDUP.BY


РОЗГАЛАС У МЕДЫЯ


КРЭАТЫЎ


УДЗЕЛ УРАЗЛІВЫХ ГРУП

**ПРА ФЕМІНІЗМ, МЕНСТРУАЦЫЮ, ФОБІІ ДЫ МУЖЧЫН — СМЕШНА І БЕЗ СЭКСІЗМУ. 23 СТУДЗЕНЯ 2020 У ПРАСТОРЫ LO-FI SOCIAL CLUB АДБЫЎСЯ ПЕРШЫ Ў БЕЛАРУСІ ЖАНОЧЫ СТЭНДАП. ПУБЛІЧНЫ ВЫСТУП ДЗЯЎЧАТ — ГЭТА ТРЭЦЯЯ І ФІНАЛЬНАЯ ЧАСТКА ПРАЕКТА «FEMSTANDUP», У РАМКАХ ЯКОГА ЎДЗЕЛЬНІЦЫ ГЛЯДЗЕЛІ НУМАРЫ ВЯДОМЫХ КАМІКЕС, А ТАКСАМА НА АДМЫСЛОВЫМ ВОРКШОПЕ АД ПІЦЕРСКАЙ СТЭНДАПЭРКІ ТУЯНЫ ХАРОВІЦ ТРЭНІРАВАЛІСЯ ПІСАЦЬ ЖАРТЫ.**

## АЎДЫТОРЫЯ

З-за добрай працы са СМІ, шматлікіх анонсаў і ўнікальнасці ідэі мерапрыемства на фінальны івэнт праекта зарэгістравалася ў чатыры разы больш людзей, чым чакалі арганізатаркі. Больш за 220 гледачоў завіталі паслухаць жарты 10 розных камікес (сярод іх былі як актывісткі і феміністкі, так і школьныя настаўніцы). Амаль усе дзяўчаты выступалі ўпершыню, таму для ўсіх гэта быў новы досвед. Таксама з аншлагам прайшоў майстар-клас рэзідэнткі стэндап-клуба «Hophead» Туяны Харовіц. Вучыцца жартаваць да яе прыйшло каля 40 чалавек.

## МЭТА ПАДЗЕІ

Праз «FemStandUp» арганізатаркі імкнуліся заснаваць і рэпрэзентаваць феміністкі дыскурс на беларускай стэндап-сцэне. Хацелі дапамагчы жанчынам раскрыць свой камедыйны патэнцыял і публічна прадэманстраваць яго, а таксама стварыць пляцоўку, на якой удзельніцы маглі б стаць больш смелымі і ўпэўненымі. Мэта мерапрыемства мела і тэрапеўтычны складнік: рэфлексія свайго асабістага вопыту — для камікес, салідарнасць праз смех — для публікі.

## ПЕРАДУМОВЫ

Ідэя стварыць камфортную для камікес пляцоўку, дзе ўдзельніцы маглі б не сутыкацца з сэксізмам і дыскрымінацыяй, з’явілася ў Ганны Філістовіч, якая працуе ў Цэнтры прасоўвання правоў жанчын «Яе правы». Актывістка заўважыла, што каляжанкі па сектары, калі распавядаюць пра асабісты і актывісцкі вопыт на групавых тэрапіях, часам падаюць свае гісторыі з гумарам. Такі падыход выклікае не толькі ўсмешкі, але і дае палёгку спікерцы. Ганна зразумела: у жанчын павінна з’явіцца больш магчымасцяў, каб выказвацца камічна.



## ВЫНІКІ

У Беларусі мерапрыемства такога фармату праводзілася ўпершыню. Для першай спробы, на думку арганізатарак, усё прайшло ідэальна. Акрамя добрага фінальнага івэнта — дарэчы, яго можна паглядзець у запісе на YouTube, — праект «FemStandUp» здолеў сфарміраваць кам’юніці камікес, якія выступалі на фемстандапе і цяпер падтрымліваюць сувязь: перыядычна збіраюцца анлайн, каб тэставаць новыя жарты і, дзякуючы калектыўнаму розуму, зрабіць свежы матэрыял больш смешным.

**«Калі вы жадаеце арганізоўваць стэндапы, то пракансультуйцеся з дасведчанымі людзьмі. Было багата нюансаў, пра якія мы даведаліся толькі пасля размовы з Туянай Харовіц. Акрамя Туяны, хочацца падзякаваць прасторы Lo-Fi за дапамогу ў падрыхтоўцы, валанцёркам ды ўсім, хто рабіў публікацыі, распавядаў пра івэнт у сацыяльных сетках ды проста падтрымліваў нас».**





**Аня Філістовіч і Маша Колб**
суарганізатаркі



# Валерый Журакоўскі
# «Грамадзянская супольнасць хутчэй за дзяржаву рэагуе на сацыяльныя праблемы і лепш з імі спраўляецца»

**Ад крызісу, які распачаўся ў Беларусі ў 2020 годзе, найперш пакутуюць уразлівыя групы людзей, якім неабходная сацыяльная дапамога. Як пацярпела сацыяльная сфера і чаго змаглі дасягнуць людзі і арганізацыі ў неспрыяльных умовах палітычнага крызісу, распавядае менеджэр праграмнага накірунку Міжнароднага асветніцкага грамадскага аб'яднання "АКТ" Валерый Журакоўскі.**

Асноўныя кліенты сацыяльных арганізацый — сталыя людзі, людзі з інваліднасцю і хранічнымі захворваннямі, малазабяспечаныя і некаторыя іншыя катэгорыі — сталі таксама і найбольш уразлівымі да інфекцыі каронавіруса групамі. З аднаго боку, ва ўмовах пандэміі COVID-19 яны як ніколі мелі патрэбу ў сацыяльных паслугах і дапамозе, а з іншага — павінны былі выконваць рэжым ізаляцыі і абмежаванне кантактаў для зніжэння рызык захварэць у цяжкай форме. Такая сітуацыя стала асноўным выклікам для сацыяльных арганізацый — як аказаць звыклыя віды дапамогі ва ўмовах ізаляцыі?

Дадатковым выклікам стаў пошук неабходных рэсурсаў на сацыяльную дзейнасць. Па-першае, з пачаткам пандэміі адзінаразова спатрэбілася вялікая колькасць дадатковых



рэсурсаў на супрацьэпідэміялагічныя меры і дапамогу пацярпелым ад каронавіруса, а па-другое, палітычны крызіс, звязаны з выбарамі, зрабіў фандрайзінг рызыкоўнай сферай дзейнасці: былі закрытыя дзве краўдфандынгавыя платформы («Вулей» і «МолаМола»), да атрымальнікаў замежнай бязвыплатнай дапамогі прыйшлі фінансавыя праверкі, былі вымушаныя пакінуць краіну арганізатары фондаў салідарнасці.

Але нягледзячы на гэта, сацыяльная сфера ў нялёгкім 2020-м адзначылася і сваімі дасягненнямі. Найбольш яркае з іх — актыўнасць грамадзянскай супольнасці ў адказ на эпідэмію COVID-19. Па ўсёй Беларусі арганізаваліся акцыі па зборы дабрачыннай дапамогі і фінансавых сродкаў для сферы аховы здароўя, а таксама валанцёрская дапамога медыкам і найбольш неабароненым групам грамадзян. Каля дзесяці тысяч грамадзян сабралі каля 5 млн долараў ЗША дабрачынных сродкаў і ўключыліся ў валанцёрскую дапамогу па барацьбе з эпідэміяй, для дапамогі медыкам і пацярпелым. Сацыяльныя арганізацыі аператыўна змянілі формы сваёй





працы — дастаўка прадуктаў і сродкаў першай неабходнасці да дзвярэй тым, хто меў у гэтым патрэбу, рэгулярная тэлефонная падтрымка і псіхалагічная дапамога адзінокім і пажылым людзям, арганізацыя анлайн навучання і сустрэч па інтарэсах і г.д.

Яшчэ адным важным дасягненнем стала адданасць людзей сваёй місіі нягледзячы навельмі неспрыяльныя ўмовы. Напрыклад, у 2020 годзе актывіст з Ліды калясачнік Саша Аўдзевіч адкрыў дзве кавярні пад агульнай назвай «Інклюзіўны барыста», якія цалкам даступныя для людзей з інваліднасцю. Больш за тое, усе работнікі кавярні маюць інваліднасць, але гэта не замінае ім выдатна выконваць свае працоўныя абавязкі. Напрыклад, дырэктар установы Васіль Паўлікаў — першы ў Беларусі чалавек з сіндромам Даўна, які не проста намінальна насіць бэйдж менеджэра, а па-сапраўднаму кіруе бізнесам. І гэта ва ўмовах, калі ў Беларусі і па ўсім свеце рэстараны і кавярні закрываліся або цярпелі страты з-за пандэміі.



ВАЛЕРЫЙ ЖУРАКОЎСКІ ЗАЗНАЧАЕ, ШТО МОЖНА НАЗВАЦЬ УПЛЫВОВАЙ ПАДЗЕЯЙ ІНІЦЫЯТЫВЫ ГА «БЕЛАДДІІМІ» («ГІД ПА ЖЫЦЦІ»), НАКІРАВАНЫЯ НА РАЗВІЦЦЁ САЦЫЯЛЬНЫХ ПАСЛУГ ДЛЯ ПРАСОЎВАННЯ НЕЗАЛЕЖНАГА ПРАЖЫВАННЯ І ІНКЛЮЗІІ ЛЮДЗЕЙ З ІНВАЛІДНАСЦЮ Ў ГРАМАДСТВЕ. АДНАК ГЭТАЯ МАШТАБНАЯ І ВАЖНАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ ПРАЙШЛА ПРАКТЫЧНА НЕЗАЎВАЖАНАЙ НА ФОНЕ ІНШЫХ ПАДЗЕЙ.

Такіх, напрыклад, як беспрэцэдэнтны пераслед Гродзенскага дзіцячага хоспіса імя святога Губерта: праверкі міліцыі, санэпідэмстанцыі, дэпартамента фінансавых расследаванняў, ціск на супрацоўнікаў і спонсараў. Акрамя таго, дабрачынная арганізацыя, якая дапамагае 70 сем'ям з невылечна хворымі дзецьмі і існуе толькі на ахвяраванні, пазбавілася двух памяшканняў. А дырэктарка хоспіса Вольга Вялічка была вымушаная пакінуць краіну з-за сваёй грамадзянскай пазіцыі.

Яшчэ адной значнай падзеяй сталі маршы людзей з інваліднасцю супраць гвалту і парушэнняў правоў чалавека ў Беларусі. Затрыманні людзей з інваліднасцю супрацоўнікамі праваахоўных органаў на гэтых маршах паказалі вельмі аднабокае разуменне канцэпцыі «інклюзія» з боку органаў улады.

З УЛІКАМ СІТУАЦЫІ, ЯКАЯ СКЛАЛАСЯ Ў 2020 ГОДЗЕ, АСНОЎНЫ ВЫКЛІК ДЛЯ САЦЫЯЛЬНАГА СЕКТАРА — ЗАХАВАННЕ СВАЙГО САЦЫЯЛЬНАГА КАПІТАЛУ:

# Валерый Журакоўскі

## «Грамадзянская супольнасць хутчэй за дзяржаву рэагуе на сацыяльныя праблемы і лепш з імі спраўляецца»




“САЦЫЯЛЬНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ АКАЗАЛАСЯ АСНОЎНАЙ КАШТОЎНАСЦЮ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСТВА, ЯКАЯ ДАПАМАГАЕ ПЕРААДОЛЬВАЦЬ КРЫЗІСЫ ЯК ПРЫРОДНЫЯ, ТАК І ПАЛІТЫЧНЫЯ. ГЭТА ВЕЛЬМІ АБНАДЗЕЙЛІВАЯ НАВІНА ДЛЯ САЦЫЯЛЬНАГА СЕКТАРА АРГАНІЗАЦЫЙ ГРАМАДЗЯНСКАЙ СУПОЛЬНАСЦІ”, — ПАДСУМОЎВАЕ ВАЛЕРЫЙ ЖУРАКОЎСКІ.

ЛЮДЗЕЙ І ПАСЛУГ. КАЛІ Ў 2020 ГОДЗЕ ІНСТРУМЕНТАМІ ПАДАЎЛЕННЯ ГРАМАДЗЯНСКАЙ АКТЫЎНАСЦІ БЫЎ ГВАЛТ, АДМІНІСТРАЦЫЙНЫ І КРЫМІНАЛЬНЫ ПЕРАСЛЕД, ТО Ў 2021 ГОДЗЕ ДАДАДУЦЦА ЗВЫЧАЙНЫЯ Ў ПЕРЫЯД ПАЛІТЫЧНЫХ КРЫЗІСАЎ БЛАКАВАННІ ПАСТУПЛЕННЯЎ ЗАМЕЖНАЙ БЯЗВЫПЛАТНАЙ ДАПАМОГІ, ЗАЗНАЧАЕ ВАЛЕРЫЙ ЖУРАКОЎСКІ.

Пры гэтым ён адзначае тэндэнцыю да зніжэння сваёй актыўнасці ў вялікай частцы сацыяльных арганізацый. Яны перасталі рабіць новыя спробы прыцягнуць рэсурсы па прычыне занадта, на іх думку, высокай рызыкі для такой дзейнасці.

Агулам, на думку эксперта, 2020 год паказаў, што грамадзянская супольнасць хутчэй рэагуе на сацыяльныя праблемы, што ўзнікаюць, і лепш з імі спраўляецца, чым дзяржава з усімі яе рэсурсамі. Аднак сацыяльны сектар уразлівы. Калі ствараюцца неспрыяльныя ўмовы для прыцягнення неабходных рэсурсаў, пакутуюць атрымальнікі сацыяльнай дапамогі.



# ВАЛАНЦЁРСКАЯ ІНІЦЫЯТЫВА BYCOVID19

## ДАПАМОГА ЎРАЧАМ БЕЛАРУСІ!



ВАЛАНЦЁРСКАЯ ІНІЦЫЯТЫВА BYCOVID19

УСЯ БЕЛАРУСЬ

КРАСАВІК-ЛІПЕНЬ 2020

BYCOVID19

ГРАМАДСКАЯ КАРЫСЦЬ

СУПРАЦА НДА І БІЗНЭСУ

УДЗЕЛ ВАЛАНЦЁРАЎ

**ПЕРШАЯ ХВАЛЯ КАРОНАВІРУСА ПАКАЗАЛА: БЕЛАРУСЬ НЕ ГАТОВАЯ ДА БАРАЦЬБЫ З COVID-19, І СПРАВА ТУТ НЕ Ў ПРАФЕСІЯНАЛІЗМЕ ЎРАЧОЎ, А Ў БАНАЛЬНЫМ НЕДАХОПЕ СРОДКАЎ ІНДЫВІДУАЛЬНАЙ АБАРОНЫ. ПРАБЛЕМУ ВЫРАШАЛІ ПРАКТЫЧНА ЎСЁЙ КРАІНАЙ: АРГАНІЗАЦЫІ, ПРАДПРЫМАЛЬНІКІ ДЫ ПРОСТА АКТЫЎНЫЯ ЛЮДЗІ ПАЧАЛІ ДАПАМАГАЦЬ МЕДЫКАМ. І ЎСЁ ГЭТА ВЫРАСЛА Ў САМУЮ МАШТАБНУЮ АЙЧЫННУЮ ВАЛАНЦЁРСКУЮ ІНІЦЫЯТЫВУ — BYCOVID19.**

### ЯК ЗРАБІЛІ

На сайце ініцыятывы ўрачы пакідалі заяўкі на неабходныя для працы СІА (сродкі індывідуальнай абароны). Пасля каманда ByCovid19 кантактавала з адміністрацыяй медыцынскіх установаў, вырашала бягучыя пытанні, займалася каардынацыяй і пошукам аптымальных магчымасцяў для куплі і бязвыплатнай перадачы сродкаў абароны. У выніку гатовыя партыі максімальна аператыўна развозіліся па ўсёй краіне на транспарце валанцёраў. Важна адзначыць, што ўсе закупкі рабіліся за грошы, сабраныя простымі людзьмі (праз пляцоўку MolaMola) ды бізнес-структурамі.

### МЭТА ПАДЗЕІ

Увесну 2020 года дзяржаўная сістэма аховы здароўя не спраўлялася з пандэміяй каронавіруса. Таму грамадства было вымушана ўзяць справу ў свае рукі: жыхары Беларусі аб’ядналі свае намаганні, каб тэрмінова забяспечыць лекараў неабходнымі сродкамі абароны, а ініцыятыва ByCovid19, у сваю чаргу, пачала займацца размеркаваннем гэтай валанцёрскай энергіі.



## СУПРАЦА

Ініцыятыва такіх маштабаў была арганізавана ў краіне ўпершыню. Валанцёрамі і валанцёркамі сталі людзі розных прафесій і розных узростаў з усіх рэгіёнаў Беларусі: хтосьці займаўся каардынаваннем, хтосьці купляў СІА, хтосьці шыў маскі або распрацоўваў схемы лагістыкі. Падтрымлівалі працу ByCovid19 таксама прадпрымальнікі, арганізацыі і СМІ. Так, арт-прастора «Галерэя Ў» выдзеліла памяшканне пад склады і офіс, а ў абласных гарадах былі створаны рэгіянальныя хабы. Бізнэс-структуры дапамагалі транспартам, рэкламай, юрыдычнымі і бухгалтарскімі кансультацыямі, пералічвалі грошы на праграмы ініцыятывы альбо наўпрост закрывалі заяўкі ад медыцынскіх установаў.



## ВЫНІКІ

За тры месяцы працы медыкам было перадана больш за 450 000 СІА і больш за 1500 адзінак апаратуры. Апараты і прыборы да гэтага часу працуюць, а аднаразовыя СІА абаранілі і абараняюць тысячы людзей. Жыхары ўсёй краіны атрымалі ўнікальны досвед каардынацыі агульных намаганняў: збору і размеркавання сродкаў, стварэння лакальных ініцыятыў, узаемадзеяння з рознымі структурамі. Дзяржаўныя структуры, у сваю чаргу, атрымалі досвед працы з грамадскімі ініцыятывамі і дабрачыннымі арганізацыямі.

**«У валанцёрскай ініцыятыве працавалі людзі ўсіх прафесій, усіх узростаў, якія жывуць ва ўсіх рэгіёнах краіны. 99% з іх упершыню ўдзельнічалі ў нейкай грамадскай актыўнасці. Унікальнымі былі суарганізацыя грамадства, гатоўнасць дзяліцца грашыма і ўкладаць асабісты рэсурс (час, прафесійныя веды і г.д.) для грамадска важнай справы. Высокая эфектыўнасць і выніковасць дзейнасці ByCovid19 былі дасягнутыя за кошт уцягнутасці валанцёраў і якаснай пабудовы працоўных працэсаў».**



**Андрэй Стрыжак**
арганізатар,
каардынатар





# Таццяна Нядбай
# «Культура павінна быць і на вайне»

Адначасова няпросты і феерычны — такім стаў 2020-ты для беларускай культуры. Пра тое, з якімі выклікамі яна сутыкнулася сёлета, распавядае паэтка, перакладчыца, намесніца старшыні Беларускага ПЭН-цэнтра Таццяна Нядбай.

Безумоўна, асноўнымі чыннікамі, якія паўплывалі на культурнае жыццё Беларусі ў 2020 годзе, сталі пандэмія каранавіруса і грамадска-палітычны крызіс, звязаны з прэзідэнцкімі выбарамі, а таксама паслявыбарчымі пратэстамі і рэпрэсіямі.

— КАЛІ МЫ КАЖАМ ПРА ПАНДЭМІЮ, ТО ГАЛОЎНЫМ ЯЕ НАСТУПСТВАМ СТАЎ СЫХОД З АФЛАЙНАВАЙ ПРАСТОРЫ. І ТУТ ЦІКАВА, ШТО ДАЛЁКА НЕ ЎСЕ АРГАНІЗАЦЫІ ЗМАГЛІ ХУТКА ЗАРЫЕНТАВАЦЦА І ЗНАЙСЦІ СЯБЕ Ў НОВАЙ СІТУАЦЫІ, ПЕРАЙСЦІ Ў ЭФЕКТЫЎНЫ АНЛАЙН. АЛЕ ЎВОГУЛЕ ПАНДЭМІЯ СПРАВАКАВАЛА ТОЕ, ШТО ЯНЫ СТАЛІ ЭКСПЕРЫМЕНТАВАЦЬ З НОВЫМІ ФАРМАТАМІ, А ГЭТАМУ ПАСПРЫЯЛІ ТАКСАМА КАМПАНІІ КШТАЛТУ «ЗРОБІМ ЛЕПШ!».



У выніку грамадска-палітычнага крызісу можна канстатаваць беспрэцэдэнтны ціск на культуру і практычна руйнаванне створанай высілкамі незалежных сіл інфраструктуры і поля існавання незалежнай культуры, фактычна зачыстку.

— МЫ ВЕЛЬМІ ДОЎГА, УСЕ МІНУЛЫЯ ГАДЫ, НЕ МАЮЧЫ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПАДТРЫМКІ І Ў СІТУАЦЫІ ВЕЛЬМІ АБМЕЖАВАНЫХ МАГЧЫМАСЦЯЎ ЗНЕШНЯЙ І ЎНУТРАНАЙ СПОНСАРСКАЙ ПАДТРЫМКІ НАМАГАЛІСЯ АДБУДАВАЦЬ АЛЬТЭРНАТЫЎНАЕ ІСНАВАННЕ ПРЫ ДАПАМОЗЕ КРАЎДФАНДЫНГАВЫХ ПЛЯЦОВАК. ЗБОЛЬШАГА ГЭТА ЎДАВАЛАСЯ, ХАЦЯ, БЕЗУМОЎНА, НЕ ЎСЕ ДЗЕЯЧЫ КУЛЬТУРЫ — ДОБРЫЯ МЕНЕДЖЭРЫ (І НЕ ПАВІННЫ ІМІ БЫЦЬ). У НАС БЫЛО ДАСТАТКОВА ШМАТ НАПРАЦОВАК МАГЧЫМАСЦІ ЗАБЯСПЕЧЫЦЬ САМАФІНАНСАВАННЕ НЕКАТОРЫХ АСПЕКТАЎ КУЛЬТУРЫ, АЛЕ Ў ЧЭРВЕНІ, З БЛАКАВАННЕМ ПЛЯЦОЎКІ «УЛЕЙ», ЯНЫ ФАКТЫЧНА БЫЛІ ЗНІШЧАНЫЯ І ЦЯПЕР ЧАС ВЫБУДОЎВАННЯ НОВЫХ.

Рэпрэсіі ў дачыненні «Белгазпрамбанка» і Віктара і Эдуарда Бабарыкаў сталі вялікім ударам па культуры, адзначае Таццяна Нядбай. Калі ціск набыў масавы характар, творцы выбухнулі «Культпратэстам» — гэта шэраг заяваў, зваротаў і твораў, якія музыкі, літаратары, тэатралы і іншыя культурныя дзеячы публікавалі ў сацсетках пад хэштэ-






гам #культпратэст, дэманструючы такім чынам сваю нязгоду з фальсіфікацыяй выбараў і гвалтам, які іх суправаджаў.

— ПАДЧАС «КУЛЬТПРАТЭСТУ» ДЗЕЯЧЫ, ЯКІЯ «ПРАЧНУЛІСЯ» (ПА ІХ УЛАСНЫМ ПРЫЗНАННІ), ЗАЯВІЛІ ПРА СВАЮ ГРАМАДЗЯНСКУЮ ПАЗІЦЫЮ І ПРА ТОЕ, ШТО ЯНЫ БОЛЬШ НЕ БУДУЦЬ СУПРАЦОЎНІЧАЦЬ З ДЗЯРЖАЎНЫМІ ЎСТАНОВАМІ І ЗЛАЧЫННАЙ РЭПРЭСІЎНАЙ СІСТЭМАЙ.

Многія з гэтых людзей доўгі час, ведаючы аб тым, што адбываецца ў краіне, заставаліся апалітычнымі, намагаючы захаваць сваю аўдыторыю. І гэта — нармальнае жаданне займацца творчасцю ў сваёй краіне, а не быць змушаным пераходзіць у праграмісты, інжынеры ці з'язджаць з краіны, падкрэслівае Таццяна. Але, калі мяжа абсурду і рэпрэсій дасягнула таго ўзроўню, якога ўжо немагчыма было стрываць, яны здолелі згуртавацца і выказаць сваё стаўленне да падзей у грамадстве. І аб'яднанне — істотны момант у даволі атамізаваным беларускім грамадстве. Потым мы пабачым дваровыя аб'яднанні і будзе зразумела, што гэта тэндэнцыя — важная і незваротная.




Сярод суб'ектаў такіх аб'яднанняў у сектары Таццяна Нядбай называе як асобных творцаў, так і арганізацыі — намаганні таго ж ПЭНа ў спробе стварыць у сферы культуры кааліцыйнасць, каб супольна глядзець на сітуацыю, агучваць пазіцыю і выпрацоўваць скаардынаваныя адказы на сітуацыю і схемы дзеянняў. Адным з вынікаў такой супрацы і абмену інфармацыяй, апроч іншага, стала арганізацыя магчымасці рэзідэнцыі для пацярпелых ад рэпрэсій дзеячаў культуры.

— ТВОРЦЫ ЎДЗЕЛЬНІЧАЛІ Ў МІРНЫХ ПРАТЭСТАХ І ЯК ШАРАГОВЫЯ ГРАМАДЗЯНЕ, І ЯК ДЗЕЯЧЫ КУЛЬТУРЫ, ЯКІЯ ВЫКОНВАЮЦЬ СВАЕ ПРАФЕСІЙНЫЯ АБАВЯЗКІ — З ПЕРФОРМАНСАМІ, ВЕРШАМІ, ЛЕКЦЫЯМІ, ДВАРОВЫМІ ВЫСТУПАМІ. РОЗНЫЯ ФАРМАТЫ ЎДЗЕЛУ Ў ЗМЕНАХ І СПРЫЯННЯ ГЭТЫМ ЗМЕНАМ ВЫВЕЛІ ПРАДСТАЎНІКОЎ СФЕРЫ КУЛЬТУРЫ НА ПЕРАДАВУЮ І, БЕЗУМОЎНА, ПАСТАВІЛІ ІХ У АДЗІН ШЭРАГ РАЗАМ З ІНШЫМІ ГРУПАМІ, ЯКІЯ ПАДВЯРГАЮЦЦА ПЕРАСЛЕДУ ЗА СВАЮ ПРАФЕСІЙНУЮ ДЗЕЙНАСЦЬ, — НАПРЫКЛАД, ЖУРНАЛІСТАМІ І ПРАВААБАРОНЦАМІ. ЯШЧЭ ДА ПРАТЭСТАЎ І БЕСПРЭЦЭДЭНТНЫХ РЭПРЭСІЙ БЕЛАРУСКІ ПЭН-ЦЭНТР ЗВЯРНУЎ УВАГУ НА АДСТУТНАСЦЬ ПРАВААБАРОНЧАГА СКЛАДНІКА Ў КУЛЬТУРНАЙ СФЕРЫ І РАСПАЧАЎ СІСТЭМНЫ МАНІТОРЫНГ ПАРУШЭННЯ ПРАВОЎ У СФЕРЫ КУЛЬТУРЫ.

За перыяд снежня 2019 — лістапада 2020 гг. зафіксавана 485 такіх выпадкаў, з іх 9% выпадкаў склалі парушэнні культурных правоў, 82% — грамадзянскіх і палітычных, яшчэ 9% — сацыяльна-эканамічных. Мы ўважліва

# Таццяна Нядбай «Культура павінна быць і на вайне»




вывучаем і аналізуем сабраную інфармацыю. У хуткім часе на сайце ПЭНа будуць апублікаваныя вынікі гадавой працы, а пакуль што можам прапанаваць увазе чытачоў першыя дадзеныя. - адзначае Таццяна.
Калі больш падрабязна аналізаваць культурніцкае жыццё апошняга года, то варта дзяліць яго на дзве часткі — да лета і пасля лета. Адной з самых яскравых і насычаных падзей першай паловы года Таццяна Нядбай называе фестываль інтэлектуальнай кнігі «Прадмова», суарганізатарам якога быў Беларускі ПЭН-цэнтр. Прамацыйныя сустрэчы фестываля прайшлі ў рэгіёнах,але ўласна фестываль быў перанесены.

— СПАЧАТКУ МЫ ПЛАНАВАЛІ ПРАВЕСЦІ ЯГО (ФЕСТЫВАЛЬ У МІНСКУ — РЭД.) У КРАСАВІКУ, ПАСЛЯ ПЕРАНЕСЛІ НА ВОСЕНЬ У СПАДЗЕВЕ, ШТО СІТУАЦЫЯ З ПАНДЭМІЯЙ ПАЛЕПШЫЦЦА. УВОСЕНЬ ВАГАЛІСЯ, ПРАВОДЗІЦЬ ФЕСТЫВАЛЬ ЦІ ПЕРАНОСІЦЬ НА НАСТУПНЫ ГОД. ПЕРАМАГЛА ІДЭЯ ПРАВОДЗІЦЬ З МАКСІМАЛЬНАЙ ЗАСЦЯРОГАЙ І НАВЫКАМІ, ЯКІЯ МЫ ЗАЙМЕЛІ ЗА ПЕРШЫЯ ПАЎГАДЫ ПАНДЭМІІ. КАНЕШНЕ, НАМ НЕ ХАЦЕЛАСЯ, КАБ ГЭТА ВЫГЛЯДАЛА ЯК БАЛЯВАННЕ ПАДЧАС ЧУМЫ ШТОСЬЦІ, ШТО АДЦЯГВАЕ ЎВАГУ АД ЖАДАННЯ ЗМЯНІЦЬ СІТУАЦЫЮ Ў КРАІНЕ. АЛЕ ГЭТА БЫЎ ТОЙ САМЫ ВЫПАДАК, КАЛІ ВЫСВЕТЛІЛАСЯ, ШТО І НА ВАЙНЕ КУЛЬТУРА ПАВІННА БЫЦЬ ТАКСАМА. НАВЕДВАЛЬНАСЦЬ ФЕСТЫВАЛЯ НАС УРАЗІЛА, НАМ КАЗАЛІ, ШТО ЛЮДЗІ ССУМАВАЛІСЯ ПА КУЛЬТУРЫ І ЎВОГУЛЕ ПА НАРМАЛЬНАСЦІ.

«Прадмова» стала адной з галоўных культурных падзей і ў рэгіёнах. Згодна з фарматам фестываля, фінальная 4-дзённая імпрэза праходзіць у Мінску, а перад гэтым адбываюцца сустрэчы з літаратарамі ў рэгіёнах. Сёлета яны праходзілі ў Гродна, Віцебску, Брэсце і Бабруйску. Апроч таго, у рэгіёнах адбываліся, фактычна, тыя ж натхнёныя пратэстамі падзеі, што і ў Мінску: дваровыя канцэрты, салідарнасць акцёраў драмтэатра ў Гродна і інш. Межы паміж Мінскам і рэгіёнамі сёлета амаль зніклі — гэта тычыцца і пратэстаў творцаў, і рэпрэсій у дачыненні да іх. Гэтаму сціранню межаў, безумоўна, паспрыяў і выбух анлайнавых мерапрыемстваў.
Калі казаць пра другое паўгоддзе... Вельмі важнай падзеяй, якую суразмоўца таксама без ваганняў адносіць да ліку культурных, стала вяртанне нацыянальнага бел-чырвона-белага сцяга. Яшчэ год таму пераважнай часткай грамадства ён успрымаўся як маргінальны, але раптам стаў асацыявацца са свабодай. Такім чынам, абсалютна нечакана адбыўся «народны рэферэндум» па выбары сімвалу незалежнай Беларусі і гэта ўспрымаецца як сапраўдны цуд.

Нельга не адзначыць учынак «дыджэяў перамен» Улада Сакалоўскага і Кірыла Галанава, якія на дзяржаўным мерапрыемстве ў Мінску на знак пратэсту супраць фальсіфікацыі выбараў уключылі песню Віктара Цоя. За гэта яны адправіліся на 10 сутак у ізалятар, але грамадскасць у рэкордныя тэрміны сабрала для іх сродкі і гэтая салідарнасць уразіла не менш!

Сёлета дзеячы культуры праявілі такую самаарганізацыю, што далі зразумець дзяржаве: яе падтрымка ім не надта патрэбная (незалежныя творцы яе практычна і не бачылі), галоўнае — каб не заміналі. Аднак нельга забываць пра тое, што «падтрымка дзяржавы» — гэта сродкі з з нашых падаткаў, то бок, нашыя агульныя, а значыць, культура, якая не згаджаецца з уладай, мае на яе поўнае права.
Тым не менш, пытанне фінансавання застаецца, бадай, адным з галоўных выклікаў для культурнага сектара. З надыходам пандэміі музыкі аказаліся пазбаўленыя магчымасці выступаць, а значыць, засталіся без заробку, не лепшая сітуацыя і ў іншых сегментах культуры. Выказванне грамадзянскай пазіцыі і рэпрэсіі таксама фактычна закрываюць магчымасць жыць з творчай дзейнасці, бо ва ўладаў адладжаны механізм рэпрэсій — і адкрытых, і непублічных.



— Выклік цяпер — фізічная і эканамічная бяспека людзей.

МНОГІЯ ДЗЕЯЧЫ КУЛЬТУРЫ ЧАСТА ЖЫВУЦЬ НА МЯЖЫ БЕДНАСЦІ, А ЦЯПЕР ШМАТ ХТО — НАВАТ У ГАЛЕЧЫ, — КАНСТАТУЕ ТАЦЦЯНА. — АЛЕ ІХ ПАДТРЫМКА — ГЭТА НЕ СІТУАЦЫЯ МІЛАСЦІНЫ, А МАГЧЫМАСЦЬ АРГАНІЗАЦЫІ СТЫПЕНДЫЙ ДЛЯ ТВОРЦАЎ, КАБ ЯНЫ І НАДАЛЕЙ МАГЛІ ЗАЙМАЦЦА СВАІМ ПАКЛІКАННЕМ І ПРАФЕСІЙНАЙ ДЗЕЙНАСЦЮ.

Агулам 2020 год для культурнай сферы яна акрэслівае як «няпросты, феерычны, натхняльны, але без эйфарыі».

— ЁН АДНАЧАСОВА ЗДЫМАЎ І НАКЛАДАЎ НА НАС НЕЙКІЯ АБМЕЖАВАННІ. МЫ ТАК ДАЎНО ЧАКАЛІ ЗМЕНАЎ І ПРАЦАВАЛІ НА ІХ, ШТО НЕМАГЧЫМА НЕ НАТАЛЯЦЦА ІМІ, КАЛІ ЯНЫ АДБЫВАЮЦЦА. ВЯДОМА, ЛЮБЫЯ ЗМЕНЫ — ГЭТА СКЛАДАНЫ ПРАЦЭС, НІХТО НА СПОДАЧКУ НЕ ПРЫНЯСЕ ПРЫГОЖЫ ВЫНІК, ГЭТА НЕ ЦЯГНІК, У ЯКІМ МОЖНА ЗАСНУЦЬ І ПРАЧНУЦЦА НА ПАТРЭБНАЙ СТАНЦЫІ: ТРЭБА ПРАЙСЦІ І П(Е)РАЖЫЦЬ КОЖНЫ ПЕРАГОН. СТАНОВІШЧА КУЛЬТУРЫ СЁЛЕТА ПАГОРШЫЛАСЯ Ў ПЛАНЕ ЭКАНОМІКІ, БЯСПЕКІ, ТВОРЧАЙ РЭАЛІЗАЦЫІ. АЛЕ, БЕЗУМОЎНА, ПАЛЕПШЫЛАСЯ Ў ПЛАНЕ АДКРЫЦЦЯ СЯБЕ ЯК СУПОЛЬНАСЦІ І СВЕТАПОГЛЯДНЫХ ЗМЕНАЎ, ЯКІЯ, СПАДЗЯЮСЯ, НЕАДВАРОТНЫЯ, ХАЦЯ НАПЕРАДЗЕ НАС ЧАКАЕ ЯШЧЭ ШМАТ ВЫКЛІКАЎ.









# МОВА ФЭСТ



ГА "АРТ СЯДЗІБА", ГК "ГОДНА"
МІНСК
22 ЛЮТАГА 2020

MOVAFEST.BY
HODNA.BY
ARTSIADZIBA.BY


АХОП АЎДЫТОРЫІ


СУПРАЦА НДА І БІЗНЕСУ


КРЭАТЫЎ

**ВЫСТУП ГУРТА VOLSKI, НАСТОЛКІ, СУВЕНІРЫ ДЫ ДЫСКУСІІ НАКОНТ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ІДЭІ — ГЭТА ЎСЁ «МОВА ФЭСТ». 22 ЛЮТАГА НА ПЛЯЦОЎЦЫ КУЛЬТУРНАГА ХАБА «ОК16» АДБЫЛОСЯ МАШТАБНАЕ І ЎНІКАЛЬНАЕ ДЛЯ БЕЛАРУСІ СВЯТА. ПАД АДНЫМ ДАХАМ САБРАЛАСЯ РАЗАМ БОЛЬШ ЗА 50 КАМПАНІЙ, ІНІЦЫЯТЫЎ І ТВОРЧЫХ КАЛЕКТЫВАЎ З УСЁЙ КРАІНЫ, КАБ ГОДНА АДЗНАЧЫЦЬ МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ РОДНАЙ МОВЫ.**

## ЯК ЗРАБІЛІ

На шасці тэматычных пляцоўках фестывалю адбываліся моўныя квэсты, майстар-класы, паэтычная вечарыны, гульні, забавы і танцы. Пакуль маленькіх гасцей запрашалі на дзіцячую праграму, бацькоў чакалі тэматычныя дыскусіі ды лекцыі. Акрамя гэтага можна было наведаць стэнд Асамблеі НДА з прэзентацыямі грамадскіх ініцыятыў, паўдзельнічаць у віктарынах, набыць кнігі або рэчы ад беларускіх вытворцаў, паеці вулічную ежу ці паслухаць выступы як маладых, так і ўжо вядомых музыкаў.

## МЭТА ПАДЗЕІ

З'яўленне такога буйнога свята, прысвечанага беларускай мове, ініцыявала «Арт Сядзіба». Арганізатары перш за ўсё хацелі паказаць шырокі спектр выкарыстання беларускай мовы ў розных сферах жыцця і расказаць пра яе папулярызацыю за апошнія 10 гадоў. Акрамя таго, каманда фестывалю бачыла, што святкаванне Міжнароднага дня роднай мовы стала ўжо сапраўднай народнай традыцыяй, а ў грамадства ёсць запыт на айчынную культуру — людзі хочуць слухаць беларускую музыку, чытаць беларускія кнігі і набываць прадукты з нацыянальнай сімволікай.

## СУПРАЦА

Уваход на мерапрыемства быў вольным, бо імпрэзу цалкам падтрымалі бізнэсоўцы. Так, генеральным партнёрам фэсту стала кампанія «Аліварыя», таксама далучыліся букмекерская кантора LEON, банк «Дабрабыт», кампанія realt.by, крама Symbal.by. Усе гэтыя спонсары дапамаглі з вырашэннем фінансавых пытанняў, прадстаўлялі прома-прадукцыю, рабілі відэазапрашэнні. Акрамя таго, працавалі з «Мова Фэстам» блогеры, — напрыклад, Ганна Бонд у сваім інстаграме прапанавала падпісантам узгадаць цікавыя беларускія словы, падзяліцца імі і перадаць эстафету далей, —прадстаўнікі грамадскіх ініцыятыў і шэраг буйных СМІ, якія садзейнічалі ў распаўсюдзе інфармацыі і запрашалі гасцей.

## ВЫНІКІ

«Мова Фэст» наведала больш за 10 000 чалавек, а ахоп інтэрнэт-аўдыторыі, якая даведалася пра мерапрыемства, наогул пераваліў за мільён карыстальнікаў. У арганізатараў атрымалася аб'яднаць вакол адной тэмы вялікую колькасць вельмі розных людзей: актывістаў, інтэлігенцыю, дзяцей і дарослых, а таксама натхніць бізнэсы і ініцыятывы пачаць выкарыстоўваць беларускую мову ў сваёй працы.









**«Амаль усё задуманае — атрымалася, месцамі нават лепш, чым планавалася. Таму можам параіць не палохацца рабіць вялікія праекты, нават калі падаецца, што іх немагчыма рэалізаваць. Спадзяемся, што гэта не апошні буйны фестываль, прысвечаны беларускай мове».**

**Уладзіслаў Лепяшынскі,**
івэнт-менеджэр,
спецыяліст па камунікацыях



# ГРАМАДСКАЯ КАМПАНІЯ «ГОДНА»




КАМАНДА «БНР100»
МІНСК
2020-2021

HODNA.BY
BNR100.BY
HODNABY@GMAIL.COM


АХОП АЎДЫТОРЫІ


УПЛЫЎ НА РАЗВІЦЦЁ СЕКТАРА


КРЭАТЫЎ

**«ГОДНА» — ГЭТА ГРАМАДСКАЯ КАМПАНІЯ, ЯКАЯ ПРЫСВЕЧАНА ВЫВУЧЭННЮ, РАЗВІЦЦЮ І ДАЛЕЙШАМУ ФАРМАВАННЮ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ СВЯДОМАСЦІ ПРАЗ ПАДТРЫМКУ І ЗАПУСК НАЦЫЯНАЛЬНААРЫЕНТАВАНЫХ ПРАЕКТАЎ У СУЧАСНЫХ ФАРМАТАХ.**





## ПЕРАДУМОВЫ

Ідэя кампаніі «Годна» ўзнікла ў 2019 годзе як адказ на запыт грамадства больш ведаць і разумець сваю гісторыю, карані, традыцыі, адметнасці, якія характарызуюць беларускую нацыю і ўплываюць на яе далейшае развіццё.

## МЭТА ПАДЗЕІ

Асноўная мэта кампаніі — мацаваць незалежнасць краіны, свядомасць і адказнасць грамадства за лёс дзяржавы. Акрамя таго, арганізатары, намагаюцца зрабіць так, каб жыхары Беларусі адчулі патрэбу ў нацыянальнай ідэнтычнасці ды сваёй годнасці, даведаліся больш пра ментальнае, эстэтычнае і моўнае ўвасабленне нацыянальнай ідэі, далучыліся да пабудовы мадэрнай і свядомай нацыі, свабодна прымалі рашэнні і рабілі выбар, а таксама зразумелі, што беларусы — сучасны народ, якому не патрэбная дзяржаўная ідэалогія постсавецкага ўзору.

## ПРАДУКТЫ КАМПАНІІ

Нягледзячы на тое, што кампанія яшчэ працягваецца, ужо цяпер у скарбонцы «Годна» шмат паспяховых праектаў і ініцыятыў. Напрыклад, кампанія стала адным з ініцыятараў нацыянальнага даследвання «Каштоўнасці і нацыянальная ідэнтычнасць беларусаў», распачала штотыднёвы музычны праект «Спяваем Годна», зрабіла серыю відэарасповедаў пра гісторыю народа і краіны «Годная Беларусь», запусціла праект «Трымайся Годна», які з дапамогай простых ролікаў і парад дапамагаў беларусам адаптавацца да пандэміі каронавіруса. А яшчэ быў праведзены адукацыйны анлайн-фестываль «Вышка», выдадзеныя спеўнікі і кніга «Беларуская нацыянальная ідэя», арганізаваны Дзень Волі, на ўласным ютуб-канале запушчаныя праграмы «Годны двор», «Годна» і «Годна News».

## ВЫНІКІ

Вынікі працы кампаніі «Годна» дэманструюць, што сучасную беларускую нацыю ствараюць не проста беларусы, а беларусы годныя, дынамічныя, якія адчуваюць выклікі новага свету, валодаюць сучаснымі сродкамі камунікацыі, упэўнена глядзяць у будучыню і пры гэтым стаяць на грунце беларускіх каштоўнасцяў і здольныя аб'яднаць вакол іх беларускае грамадства.
У планах кампаніі паспрабаваць правесці ў 2021 годзе вялікі фестываль «Годна», прысвечаны ініцыятывам і праектам беларусаў, якія змяняюць краіну да лепшага, а таксама ствараць новыя і цікавыя відэапраекты, прысвечаныя беларускай музыцы і культуры, вандроўкам па Беларусі, даследванням нацыянальнай ідэнтычнасці і грамадскай актыўнасці.





**«Мы спрабуем шукаць цікавыя і новыя мультымедыйныя фарматы, праз якія папулярызуем разнастайныя думкі і погляды адносна фармавання і развіцця беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці. За 2020 год нашыя праекты ва ўсіх сацыяльных сетках ахапілі больш за мільён чалавек, а відэа паглядзелі больш за 5 мільёнаў разоў. Сітуацыя з каронавірусам крыху змяніла нашыя планы, бо мы рыхтавалі разнастайныя афлайн-мерапрыемствы: форумы, фестывалі, адукацыйныя школы, але ў выніку мы сканцэнтравалі сваю працу на мультымедыйных праектах, якія былі прадстаўлены ва ўсіх папулярных сацыяльных сетках, у тым ліку Tik Tok»**



**Павел Белавус,**
каардынатар кампаніі



# Валянцін Стэфановіч «Беларусы ўпершыню адчулі сябе грамадзянскай нацыяй»

**Для сферы правоў чалавека 2020 год стаў годам самага цяжкага і вострага крызісу ў беларускай гісторыі. Шмат хто зведаў гвалт і катаванні, трапіў пад арышт, атрымаў штраф, некалькі чалавек загінула. Але ў той жа час сёлета адбыліся глыбінныя змены ў грамадстве, якія даюць надзею, што ў новай Беларусі правы чалавека стануць найвышэйшай каштоўнасцю.**

Яшчэ ў «дакавідным» лютым у Мінску, Брэсце і Магілёве прайшоў шэраг мерапрыемстваў з фотавыставай «Open your eyes: no room for discrimination», прысвечаны дыскрымінацыі. Імпрэзы ладзілі праваабарончая арганізацыя Human Constanta і інтэрсекцыянальная ЛГБТК + ініцыятыва з Магілёва «Новыя Рэгіёны».

1 сакавіка ў свеце адзначаецца Zero Discrimination Day альбо Дзень нулявой дыскрымінацыі. Гэта штогадовы дзень, які быў ініцыяваны ААН і ён накіраваны на дасягненне роўнасці ўсіх людзей перад законам не толькі на паперы, але і на практыцы. Галоўнай тэмай Zero Discrimination Day-2020 стала нулявая дыскрымінацыя ў дачыненні да жанчын і дзяўчат. З гэтай нагоды па ініцыятыве Цэнтра «Жывая Бібліятэка» сем беларускіх арганізацый правялі свае мерапрыемствы ў Мінску і Маладзечна. Сярод іх — Беларуская праваабарончая школа, кінадыскусійны праект «Пасля тытраў» ад РГМА «Грамадзянскі форум», ECLAB, MAKEOUT, NSNL, World of Youth і праваабарончая арганізацыя Human Constanta.



Увесну праваабарончы фокус у Беларусі перамясціўся на праблему COVID-19. Палітыка ўрада на пачатку года адносна інфекцыі (ігнараванне праблемы, падтасоўванне статыстыкі па захворваннях, неналежная забяспечанасць медыкаў і людзей сродкамі індывідуальнай абароны) стала своеасаблівым штуршком да выспявання незадаволенасці людзей, якая пазней вылілася ў пратэсты.

А потым выбухнуў галоўны чыннік, які паўплываў сёлета на сітуацыю з правамі чалавека — прэзідэнцкія выбары. У Беларусі традыцыйна электаральныя кампаніі наўпрост звязаныя з правамі чалавека і прыводзяць да пагаршэння сітуацыі з імі, бо падчас выбараў звычайна ў Беларусі назіраецца ўзмацненне рэпрэсій.





— СЁЛЕТНІЯ ВЫБАРЫ ІСТОТНА АДРОЗНІВАЛІСЯ АД ПАПЯРЭДНІХ ЭЛЕКТАРАЛЬНЫХ КАМПАНІЙ, ЯКІЯ І РАНЕЙ ТАКСАМА ВЫКЛІКАЛІ ПЭЎНЫЯ КРЫЗІСЫ Ў ГРАМАДСТВЕ. АЛЕ 2020 ГОДЗЕ ВЫБАРЫ АДБЫВАЛІСЯ НА ФОНЕ ГЛЫБІННЫХ ЗМЕНАЎ У ГРАМАДСТВЕ. МЫ ГЭТА НЕДААЦАНІЛІ, — прызнаецца эксперт Праваабарончага цэнтра «Вясна» Валянцін Стэфановіч.

— Абмяркоўваючы планы на год, мы думалі, што, хутчэй за ўсё, гэта будуць такія ж кволыя, нецікавыя выбары, бо ўсе перадумовы для гэтага былі. Але ўжо першыя месяцы кампаніі паказалі, што запыт на перамены ўпершыню ахапіў большасць грамадства.

Гэта ўбачылі не толькі праваабаронцы, але і ўлады, таму рэпрэсіі пачаліся літаральна са старту выбарчай кампаніі, хаця раней іх фокус змяшчаўся на поствыбарчы перыяд.

— УЛАДЫ З САМАГА ПАЧАТКУ СПРАБАВАЛІ ГАСІЦЬ МАГЧЫМЫЯ ВЫСТУПЫ, І ЎСІХ ПАТЭНЦЫЙНА НЕБЯСПЕЧНЫХ ЛЮДЗЕЙ — КАНДЫДАТАЎ У ПРЭЗІДЭНТЫ, СЯБРОЎ ІХ ІНІЦЫЯТЫЎНЫХ ГРУП, БЛОГЕРАЎ — ІЗАЛЯВАЛІ ЯШЧЭ НА ЭТАПЕ ЗБОРУ ПОДПІСАЎ. ДА ВЫБАРАЎ УЖО БЫЛО КАЛЯ 40 ПАЛІТВЯЗНЯЎ.



На гэтым фоне беларускія праваабаронцы незадоўга да выбараў выпусцілі супольны зварот да ўладаў, у якім прасілі ўстрымацца ад гвалту, забяспечыць людзям права на свабоду мірных сходаў. Але таго, што адбылося пасля выбараў, у краіне яшчэ не было. Міліцыя выкарыстала супраць мірных дэманстрантаў непрапарцыйна жорсткі гвалт і спецсродкі. Валянцін Стэфановіч называе гэта катастрофай.

— - УПЕРШЫНЮ Ў СУЧАСНАЙ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ БЫЛІ ЗАБІТЫЯ ЎДЗЕЛЬНІКІ ПРАТЭСТАЎ. ГРАМАДСКАСЦІ ВЯДОМА ЯК МІНІМУМ ПРА ЧАТЫРЫ СМЕРЦІ ПАДЧАС ПАДАЎЛЕНЬНЯ ПРАТЭСТАЎ (АЛЯКСАНДР ТАРАЙКОЎСКІ, АЛЯКСАНДР ВІХОР, ГЕНАДЗЬ ШУТАЎ, РАМАН БАНДАРЭНКА). ВІНОЎНЫЯ Ў ГІБЕЛІ ГЭТЫХ АСОБАЎ ЗАСТАЮЦЦА НЕПАКАРАНЫЯ. ГЭТА
ПАЧАТАК ВЕЛЬМІ СУР'ЁЗНАГА КРЫЗІСУ З ПРАВАМІ ЧАЛАВЕКА, ЯКІ ЎЗМАЦНЯЕЦЦА. У НАС І РАНЕЙ ПРАВАВАЯ СІСТЭМА БЫЛА НЕІДЭАЛЬНАЯ, АЛЕ ТОЕ, ШТО АДБЫВАЕЦЦА ЦЯПЕР — ГЭТА ПОЎНЫ КАЛАПС, НІЯКІХ ПРАВАВЫХ ІНСТРУМЕНТАЎ НЕ ЗАСТАЛОСЯ, — гаворыць праваабаронца

Праваабарончы цэнтр «Вясна» і Беларускі Хельсінкскі камітэт зладзілі сёлета традыцыйную кампанію назірання «Праваабаронцы за свабодныя выбары». Гэта была незалежная кампанія па назіранні, ніякім чынам не

# Валянцін Стэфановіч
## «Беларусы ўпершыню адчулі сябе грамадзянскай нацыяй»

звязаная з ніводным са штабоў кандыдатаў. Разам з тым узніклі і новыя ініцыятывы па назіранню за выбарамі, магчыма, пэўным чынам афіляваныя са штабамі: «Голас», «Сумленныя людзі». Яны заклікалі да больш актыўнага ўдзелу ў выбарчым працэсе, напрыклад, запрашалі людзей пасля закрыцця ўчасткаў для галасавання прыходзіць і чакаць выніковых пратаколаў. Дзякуючы гэтым ініцыятывам удалося ўбачыць, што сістэма дала збой, «накруціўшы» лічбы на датэрміновым галасаванні і не чакаючы яўкі і актыўнасці выбаршчыкаў у асноўны дзень.
Разам з грамадзянскай і палітычнай актыўнасцю Валянцін Стэфановіч адзначае рост салідарнасці, які адбыўся сёлета ў беларускім грамадстве. Спачатку яна праявілася ў працы валанцёраў і грашовых ахвяраваннях беларусаў на сродкі абароны для медыкаў падчас першай хвалі каронавіруса, затым — у салідарнасці з рэпрэсаванымі.

— КАБ НЕ ГЭТАЯ САЛІДАРНАСЦЬ, БЫЛО Б ЗНАЧНА ЦЯЖЭЙ. ТУТ І КАМПАНІІ ЗБОРАЎ СРОДКАЎ У ІНТЭРНЭЦЕ, І СТВАРЭННЕ ДВАРОВЫХ ЧАТАЎ, ДЗЕ ЛЮДЗІ САМІ СКІДВАЮЦЦА НА ДАПАМОГУ СВАІМ ПАЦЯРПЕЛЫМ СУСЕДЗЯМ, І ПРАФЕСІЙНЫЯ СУПОЛЬНАСЦІ (ЛЕКАРЫ, НАСТАЎНІКІ, ПСІХОЛАГІ, ЮРЫСТЫ). РАНЕЙ ГЭТАГА НЕ БЫЛО Ў ТАКІХ МАШТАБАХ, І ГЭТА ВЕЛЬМІ ЗАХАПЛЯЕ. УВОГУЛЕ, НАШАЕ ГРАМАДСТВА ПРАДЭМАНСТРАВАЛА, ШТО ЯНО ВЕЛЬМІ СУЧАСНАЕ, АДУКАВАНАЕ. БЕЛАРУСЫ ЎПЕРШЫНЮ АДЧУЛІ СЯБЕ ГРАМАДЗЯНСКАЙ НАЦЫЯЙ, АСЭНСАВАЛІ ВАЖНАСЦЬ СВАІХ ПРАВОЎ.

Праваабарончыя арганізацыі ў 2020 годзе працягвалі займацца сваімі традыцыйнымі тэмамі: рэпрэсіі, катаванні і іншыя праблемы ў сферы правоў чалавека ў Беларусі існавалі і раней. Але ім удалося вельмі хутка змабілізавацца, каб адказваць на новыя нечаканыя выклікі. Кааліцыя беларускіх праваабаронцаў вельмі актыўна працавала на міжнародным узроўні, дзякуючы іх дзейнасці былі запушчаныя ўсе магчымыя міжнародныя механізмы.

— АЛЕ ПРАКТЫКА ПАКАЗАЛА, ШТО ГЭТЫХ МІЖНАРОДНЫХ МЕХАНІЗМАЎ ЗАМАЛА. БЕЛАРУСЬ НЕ ЎВАХОДЗІЦЬ У РАДУ ЕЎРОПЫ, МЫ ПАЗБАЎЛЕНЫЯ ШМАТЛІКІХ МАНІТОРЫНГАВЫХ МЕХАНІЗМАЎ У ЯЕ МЕЖАХ. НА НАС НЕ РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА КАМПЕТЭНЦЫЯ СТРАСБУРГСКАГА СУДА, МІЖНАРОДНАГА КРЫМІНАЛЬНАГА ТРЫБУНАЛА. ЦЯПЕР АКТЫЎНА АБМЯРКОЎВАЕЦЦА ВЫКАРЫСТАННЕ ЎНІВЕРСАЛЬНАЙ ЮРЫСДЫКЦЫІ. І Ў ЛІТВЕ Ў ЯЕ МЕЖАХ УЖО ЎЗБУДЖАНАЯ КРЫМІНАЛЬНАЯ СПРАВА ПА ФАКТАХ КАТАВАННЯЎ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДЗЯНІНА МАКСІМА ХАРОШЫНА — ГЭТА ДОБРЫ ПРЭЦЭДЭНТ.

Унутры краіны валанцёры «Вясны» працягваюць займацца дакументаваннем катаванняў людзей, якіх затрымліваюць падчас акцый пратэсту, наведваюць суды і назіраюць за працэсамі, складаюць інфармацыю пра затрыманні і пераслед. Першым вынікам гэтай працы стаў даклад аб па-





рушэннях правоў чалавека ў поствыбарчы перыяд у рамках Маскоўскага механізму АБСЕ, які быў запушчаны дзякуючы актыўнай працы беларускіх праваабаронцаў з міжнароднымі партнёрамі.

У падрыхтоўцы даклада прымалі ўдзел беларускія праваабарончыя арганізацыі ў партнёрстве з Сусветнай арганізацыяй супраць катаванняў (OMCT) і Міжнароднай федэрацыяй за правы чалавека (FIDH). Факты гвалту і катаванняў дакументуюць і эксперты Міжнароднага камітэту па расследаванні катаванняў, якія таксама ўжо выпусцілі некалькі прамежкавых справаздач.

Напачатку снежня прайшла анлайн-прэзентацыя даклада «Беларусь, жнівень 2020: «правасуддзе» для пратэстоўцаў». Ён асвятляе парушэнні стандартаў справядлівага судовага разбіральніцтва над удзельнікамі мірных пратэстаў супраць фальсіфікацый вынікаў выбараў. Даклад падрыхтавалі праваабарончы цэнтр «Вясна» і эксперты Беларускага Дома правоў чалавека імя Барыса Звозскага пры падтрымцы Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека і Сусветнай арганізацыі супраць катаванняў.

Апроч таго, выйшаў выніковы даклад па назіранні за выбарамі кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары», дзе апісваецца ў тым ліку і поствыбарчы перыяд і змяшчаюцца рэкамендацыі па зменах у выбарчае заканадаўства. Таксама штомесяц праваабаронцы «Вясны» робяць агляды сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі. У студзені 2021 году выйшаў гадавы агляд.

У снежні з’явіўся адмысловы сайт, прысвечаны беларускім палітвязням. Ён таксама быў створаны на базе сайта права-абарончага цэнтра «Вясна». Сумесна з Amnesty International адбываюцца акцыі салідарнасці з беларускімі палітвязнямі на міжнародным узроўні. У межах кампаніі салідарнасці #WeStandBYyou, арганізаванай швейцарска-нямецкай праваабарончай арганізацыяй «Libereco — Партнёрства за правы чалавека», дэпутаты Бундэстага і швейцарскага парламенту становяцца «хроснымі» беларускіх палітзняволеных.

Упершыню за многія гады ў Беларусі праявілі актыўнасць рабочыя, якія выходзілі на маршы супраць фальсіфікацыі выбараў і супраць гвалту, спрабавалі ладзіць страйкі, спрабавалі стварыць структуры незалежных прафсаюзаў, за што траплялі пад арышты, штрафы, звальненні. Праблемамі парушэння правоў працоўных займаецца і «Беларускі Хельсінкскі камітэт».

Нечуваныя рэпрэсіі разгарнуліся пасля выбараў у дачыненні да незалежных журналістаў. Больш за 211 журналістаў былі арыштаваныя і больш за 300 былі затрыманыя. Некаторыя з іх усё яшчэ знаходзяцца ў турме. Маніторынгам пераследу калег і дапамогай ім займаецца ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў».

Не абышлося без ціску і на саміх праваабаронцаў: сёлета 18 «вясноўцаў» патрапілі пад рэпрэсіі, з іх двое дасюль знаходзяцца ў СІЗА па крымінальных справах: валанцёр Андрэй Чапюк і каардынатарка Валанцёрскай службы ПЦ «Вясна» Марфа Рабкова.

Апроч «тушэння поствыбарчага пажару» працягваецца праца праваабаронцаў у галіне адмены смяротнага пакарання ў Беларусі. Сёлета ў кастрычніку ў пяты раз (праўда, анлайн) адбыўся фестываль «Рок за жыццё». Фестываль праводзіўся падчас Тыдня супраць смяротнага пакарання ў Беларусі, які прайшоў пад слоганам «Смяротнае пакаранне — элемент сістэмы гвалту». Фестываль ладзіцца ў межах кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі».

— ГЭТА ЎСЁ СПРАВЫ АДНАГО ШЭРАГУ — ГЭТА ДЗЯРЖАЎНЫ ГВАЛТ. КАТАВАННІ Ў ЦІПЕ І СМЯРОТНАЕ ПАКАРАННЕ ЎЗАЕМАЗВЯЗАНЫЯ, ЯНЫ — З’ЯВЫ АДНАГО

# ДЗЕНЬ НУЛЯВОЙ ДЫСКРЫМІНАЦЫІ «ZERO DISCRIMINATION DAY»



ЦЭНТР РАЗВІЦЦЯ ЭФЕКТЫЎНАЙ КАМУНІКАЦЫІ «ЖЫВАЯ БІБЛІЯТЭКА»

МІНСК, МАЛАДЗЕЧНА

1 САКАВІКА 2020

HUMANLIBRARY.BY

HUMANLIBRARYBY



АХОП АЎДЫТОРЫІ



СУПРАЦА ПАМІЖ НДА



ПРАВЫ І СВАБОДЫ ЧАЛАВЕКА

**БОЛЬШ ЗА 100 ЎДЗЕЛЬНІКАЎ ДЫ ЎДЗЕЛЬНІЦ, 8 МЕРАПРЫЕМСТВАЎ І 2 ГАРАДЫ — ПА ІНІЦЫЯТЫВЕ «ЖЫВОЙ БІБЛІЯТЭКІ» СЕМ БЕЛАРУСКІХ АРГАНІЗАЦЫЙ, ДЛЯ ЯКІХ НЕДЫСКРЫМІНАЦЫЯ З'ЯЎЛЯЕЦЦА ВАЖНАЙ КАШТОЎНАСЦЮ І НАКІРУНКАМ ПРАЦЫ, АБ'ЯДНАЛІСЯ РАЗАМ 1 САКАВІКА 2020 ГОДА, КАБ ПРАВЕСЦІ ZERO DISCRIMINATION DAY — ШТОГАДОВЫ ДЗЕНЬ, НАКІРАВАНЫ НА ПАВЫШЭННЕ РОЎНАСЦІ ЎСІХ ЛЮДЗЕЙ ПЕРАД ЗАКОНАМ І НА ПРАКТЫЦЫ. У 2020 ГОДЗЕ ГАЛОЎНАЙ ТЭМАЙ ПАДЗЕІ СТАЛА НУЛЯВАЯ ДЫСКРЫМІНАЦЫЯ Ў ДАЧЫНЕННІ ДА ЖАНЧЫН І ДЗЯЎЧАТ.**

## ЗМЕСТ

Агулам падзеі Дня нулявой дыскрымінацыі наведала больш за 100 чалавек, а створаныя на тэму дыскрымінацыі артыкулы дазволілі ахапіць яшчэ большую аўдыторыю. Zero Discrimination Day уключаў майстэрню форум-тэатра, уводны курс па правах чалавека, сацыяльную гульню «Іншы погляд», кінадыскусійны праект «Пасля Тытраў» ад РГМА "Грамадзянскі форум", арт-майстэрню ECLAB «8 сакавіка», кінаклуб MAKEOUT, сустрэчу-прэзентацыю «Што такое злачынствы на глебе нянавісці», воркшоп к ZeroDiscriminationDay ды сацыяльную гульню Limit:2.0.

## ЯК ЗРАБІЛІ

Было вырашана арганізаваць Дзень талакой — запрасіць усіх зацікаўленых стаць часткай святкавання Zero Discrimination Day. У выніку 8 розных арганізацый правялі 8 мерапрыемстваў у Мінску і Маладзечна. Так, да ўдзелу далучыліся Беларуская Праваабарончая Школа, кінадыскусійны праект «Пасля Тытраў» ад РГМА "Грамадзянскі форум", ECLAB, MAKEOUT, праваабарончая арганізацыя Human Constanta, грамадскае аб'яднанне NSNL и культурнаасветніцкая ўстанова World of Youth. Важна адзначыць, што ўсе арганізацыі ладзілі мерапрыемствы самастойна.



## ВЫНІКІ

Арганізатары і арганізаткі засталіся задаволенымі вынікамі Дня нулявой дыскрымінацыі. Нягледзячы на кароткі тэрмін падрыхтоўкі, падзеі Zero Discrimination Day наведала шмат людзей, якія раней не прысутнічалі на падобных мерапрыемствах. Госці набылі новыя веды і навыкі, а каманда «Жывой Бібліятэкі» атрымала для сябе карысны фідбэк ад удзельнікаў, які спатрэбіцца пра падрыхтоўцы Zero Discrimination Day у 2021 годзе.





**«Для нас падзея стала і поспехам, і выклікам. У кароткі час трэба было правесці шмат камунікацый і аб'яднаць у адно „мерапрыемства" разнастайныя падзеі. І ў нас гэта атрымалася! Мы задаволеныя дасягнутымі вынікамі і тым, што змаглі далучыць 7 арганізацый да сваёй ініцыятывы! Наступным разам нам хацелася б значна раней пачаць запрашэнне арганізацый да ўдзелу ў Дні, а дакладней у Тыдні, бо ў 2021 годзе плануем ужо Тыдзень Нулявой дыскрымінацыі, распрацаваць агульны стыль падзеі і вылучыць больш часу на прасоўванне. Хочацца выказаць падзяку камандзе, без якой не атрымалася б арганізаваць Zero Discrimination Day, а таксама партнёрам, якія паверылі ў ідэю».**

**Марына Штрахава,**
старшыня Праўлення Цэнтра «Жывая Бібліятэка»



# СУПРАЦЬ ВІРУСА ЗА ПРАВЫ




ПРАВААБАРОНЧАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ HUMAN CONSTANTA

АНЛАЙН-МЕРАПРЫЕМСТВА

МАЙ 2020

HUMANCONSTANTA.BY

HUMANCONSTANTA

HUMANCONSTANTA



ГРАМАДСКАЯ КАРЫСЦЬ



СУПРАЦА ПАМІЖ НДА



КРЭАТЫЎ

**ВОСЕМ МАСТАКОЎ І МАСТАЧАК, ВОСЕМ АХОЎНЫХ МАСАК І АДНА ПРАВААБАРОНЧАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ. АКЦЫЯ КАМАНДЫ HUMAN CONSTANTA «СУПРАЦЬ ВІРУСА ЗА ПРАВЫ» СТАЛА ВЫДАТНЫМ СПОСАБАМ НАГАДАЦЬ ПРА ТОЕ, НАКОЛЬКІ ВАЖНЫ БАЛАНС БАРАЦЬБЫ З ЭПІДЭМІЯЙ COVID-19 І ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА.**

## ПЕРАДУМОВА

Каронавірус, з якім сутыкнулася чалавецтва ў 2020 годзе, змяніў звыклы парадак жыцця ўсяго свету. Пад удар трапіла не толькі сістэма аховы здароўя, але і дэмакратычныя прынцыпы. Каранцін, як вымушаная мера, безумоўна, неабходны для паўстрымання эпідэміі, але недапушчальна «ізаляваць» правы чалавека. Менавіта таму праваабаронцы з Human Constanta вырашылі прыцягнуць увагу да патэнцыйных і актуальных парушэнняў правоў чалавека і абмежаванняў свабод.

## МЭТА

Каб падкрэсліць праблемы, якія з'явіліся з пачаткам пандэміі COVID-19 у Беларусі, арганізатары і арганізатаркі прыдумалі размяшчаць важныя мэсэджы на масках. Яны не толькі заклікалі карыстацца гэтымі сродкамі абароны, але і адкрылі новую пляцоўку для праяваў актыўнасці, а таксама паднялі важныя грамадскія пытанні. Да прыкладу, маскі «распавядалі» пра праблемы людзей з парушэннямі зроку, праблемы адсутнасці інфармацыі пра каронавірус, фінансавае становішча, цэнзуру або дыскрымінацыю.

## ЯК ЗРАБІЛІ

Каманда прапанавала мастакам і мастачкам намаляваць канцэпцыю «сваёй маскі» і неяк апісаць яе. Ідэю падтрымалі Сяргей Шабохін, Жанна Гладко, Аляксей Лунёў, Яна Кучынская, Уладзімір Грамовіч, Алеся Жыткевіч, Яна Шостак і Марына Наўрушкіна. Галоўная мэта — зрабіць не проста малюнак на тканіне, а творча асэнсаваць правы чалавека падчас пандэміі. Пасля ўсе эскізы былі перанесеныя на тканіну, а пашытыя маскі раздалі лідарам і лідаркам меркаванняў, якія публічна выказвалі свае думкі па акрэсленых тэмах у анлайне.




## ВЫНІКІ

Арганізатары адзначаюць, што падчас эпідэміі варта асабліва сур’ёзна ставіцца да фундаментальных правоў чалавека. Барацьба з каронавірусам — не падстава ад іх адмаўляцца. Усе тыя абмежаванні, якія прымаюцца ў розных краінах, павінны быць прапарцыйнымі і абмежаваныя па часе. У межах акцыі «Супраць віруса за правы» мастакі звярнулі ўвагу на пытанні цэнзуры і доступу да праўдзівай інфармацыі, чалавечай годнасці і каштоўнасці жыцця, салідарнасці і права на выбар. Усе матэрыялы акцыі дасяжныя пад хэштэгам #ПротивВирусаЗаПрава.












**«На жаль, у 2020 годзе мы бачылі вельмі шмат прыкладаў, калі правы чалавека прыносілі ў ахвяру карацінам, сачэннем за людзьмі, абмежаванням ў перасоўваннях. Мала хто клапоціцца аб далейшым уплыве ўведзеных абмежаванняў. Сваёй акцыяй мы хацелі пераасэнсаваць правы чалавека падчас пандэміі».**



**Яна Ганчарова,**
спецыялістка па камунікацыі




# Ганна Дапшэвічутэ

# «Моладзевы сектар у моцным такім надрыве»

2020-ы год стаў для адукацыйнага і моладзевага сектара выпрабаваннем на гнуткасць, хуткасць і псіхалагічную вытрымку. Але маладосць не спыніць, і гэтак жа не спынілася праца НДА, актывістаў і валанцёраў, якія штодня адукоўвалі, падтрымлівалі, ладзілі акцыі і змагаліся за лепшую будучыню. Нягледзячы на ціск з боку дзяржавы і складанасці пандэміі.

Першай гучнай падзеяй 2020-га года стаў пачатак падрыхтоўкі закона «Аб валанцёрскай дзейнасці». Моладзевы сектар, які мае моцную сувязь з валанцёрскім рухам, сустрэў ініцыятыву з недаверам, і хутка Беларускі нацыянальны моладзевы савет «РАДА» разгарнуў адвакатыўную кампанію супраць закона «Аб валанцёрскай дзейнасці». Цягам кампаніі быў праведзены аналіз стану валанцёрскага сектара і працэса напісання закона, каманда экспертаў узяла ўдзел у грамадскім абмеркаванні закона, таксама прайшла шырокая інфармацыйная кампанія. У выніку «РАДА» сумесна з Цэнтрам прававой трансфармацыі Lawtrend звярнулася да Міністэрства юстыцыі і Генеральнай пракуратуры — як ні дзіўна, менавіта гэтыя органы адказваюць за распрацоўку закона «Аб валанцёрскай дзейнасці» — з просьбай замарозіць распрацоўку праекта як мінімум да таго часу, пакуль не будзе прааналізаваны валанцёрскі досвед падчас каранавіруснага крызісу.



— НАМ СКАЗАЛІ: «НЕ ХВАЛЮЙЦЕСЯ, УСЁ ДОБРА, УСЁ ЎЛІЧАНА» — І НА ГЭТЫМ УСЁ. ПРАЦЭС РАСПРАЦОЎКІ ПРАЦЯГНУЎСЯ ДАЛЕЙ, — распавядае генеральная сакратарка Беларускага Нацыянальнага Моладзевага Савета «РАДА» Ганна Дапшэвічутэ.

Тым часам пандэмія COVID-19 паставіла крыж на асноўных фарматах працы моладзевых ініцыятыў: афлайн-трэнінгах, міжнародных абменах, фестывалях, адкрытых лекцыях і г. д. Пачаўся паўсюдны пераход на дыстанцыйную працу, які менавіта для моладзевага сектара апынуўся не надта складаным.

— ПРАБЛЕМ НЕПАСРЭДНА З ПЕРАХОДАМ У АНЛАЙН НЕ БЫЛО: УСЕ І ТАК ДАСТАТКОВА ПРАГРЭСІЎНЫЯ, ЗНАЁМЫЯ З СУЧАСНЫМІ ТЭХНАЛОГІЯМІ. СКЛАДАНЕЙ БЫЛО З КРОПКІ ГЛЕДЖАННЯ АСАБІСТАЙ ПЕРАБУДОВЫ: СЯДЗЕЦЬ ДОМА ЎВЕСЬ ДЗЕНЬ, НІКУДЫ НЕ ВЫХОДЗІЦЬ. ПСІХАЛАГІЧНЫЯ ПЫТАННІ ЗНАЧНА БОЛЬШ СКЛАДАНЫЯ, ЧЫМ ПЫТАННІ, ЯК ФІЗІЧНА ПЕРАЙСЦІ Ў АНЛАЙН, — гаворыць Ганна.





Каб падтрымаць НДА падчас эпідэміялагічнага крызісу «РАДА» разам з культурным цэнтрам «Корпус», «Радыё Плато» і камандай відэаапаратараў запусцілі ініцыятыву COvision — анлайн-пляцоўку, праз якую каманда спецыялістаў дапамагала іншым ініцыятывам ствараць якасны аўдыё- і відэакантэнт. Досвед працы падчас пандэміі сектар рэфлексаваў і асэнсоўваў напрацягу ўсяго года. Для прадстаўнікоў НДА прайшоў шэраг мерапрыемстваў, сярод якіх анлайн-канферэнцыя для абмену досведам сярод НКА Усходняга партнёрства ў крызіс ад моладзевай супольнасці NSNL, воркшоп «(Не)даступны анлайн: што рабіць?», анлайн-канферэнцыя «НГО Внутряшка». UNDP in Belarus сумесна з Офісам еўрапейскай экспертызы і камунікацый стварылі «Дапаможнік для НКА: як жыць і працаваць у анлайне».

— У ГЭТЫМ СЭНСЕ ВЕЛЬМІ ДАПАМАГАЕ ГНУТКАСЦЬ ГРАМАДСКАГА СЕКТАРА, — тлумачыць Ганна поспехі калег. — НІХТО НЕ ПРАЦУЕ Ў ФАРМАЦЕ «ТАК, У НАС ЁСЦЬ ПЭЎНЫЯ ПАКАЗЧЫКІ, ТРЭБА ВЫКОНВАЦЬ». МЫ РАЗУМЕЕМ, ШТО МЕНАВІТА ЗАРАЗ ТРЭБА, І РОБІМ ГЭТА. ТАКСАМА І НАШЫЯ ПАРТНЁРЫ ГЭТА РАЗУМЕЮЦЬ, ЯК УНУТРЫ КРАІНЫ, ТАК І ЗА ЯЕ МЕЖАМІ. НІКОМУ НЕ ПАТРЭБНА ТЛУМАЧЫЦЬ ДЗЕСЯЦЬ РАЗОЎ, ЧАМУ НЕШТА НЕ АДБУДЗЕЦЦА ЦІ БУДЗЕ ВЫГЛЯДАЦЬ ЗУСІМ ПА-ІНШАМУ, І ЧАМУ ЗАМЕСТ НЕЙКАГА ЗАПЛАНАВАНАГА МЕРАПРЫЕМСТВА АДБУДЗЕЦЦА ГРУПА ПСІХАЛАГІЧНАЙ ПАДТРЫМКІ.



Паралельна пад лозунгам «ха-ха, я тут умру» прайшла акцыя Моладзевага блоку, прымеркаваная да студэнцкага байкоту супраць адмовы беларускіх ВНУ прызнаваць сур'ёзнасць і небяспечнасць эпідэміялагічнай сітуацыі і пераходзіць на дыстанцыйную форму навучання. У адказ на рэпрэсіі, якія ўзмацніліся падчас выбарчай кампаніі, моладзевыя арганізацыі пачалі ладзіць ініцыятывы па падтрымцы палітвязняў, адной з самых яскравых з іх стаў конкурс дызайну паштовак і канвертаў, абвешчаны Задзіночаннем беларускіх студэнтаў сумесна з Беларускай праваабарончай школай у межах «Майстэрні паштовак салідарнасці». Ад 9-га жніўня, калі выбухнула грамадская незадаволенасць сумленнасцю апублікаваных вынікаў прэзідэнцкіх выбараў, моладзевыя арганізацыі пачалі выпускаць звароты ў падтрымку пратэстоўцаў, сярод якіх было шмат моладзі. Адным з іх стаў зварот «РАДЫ» у сувязі з сітуацыяй пасля прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі. 20-га жніўня асветніцкая ўстанова «Цэнтр прававой трансфармацыі» распачала кампанію «Беларусь без прымусу», накіраваную супраць прымусовага сяброўства і падтрымкі арганізацый, якія прапагандуюць «праўладную» ідэалогію, у лік якіх трапіў БРСМ.

# Ганна Дапшэвічутэ
## «Моладзевы сектар у моцным такім надрыве»

З 1-га верасня ў палітычныя працэсы яшчэ актыўней уключылася студэнцтва. У ВНУ пачалі ладзіцца розныя фарматы акцый, на маршах з'явіліся асобныя студэнцкія калоны. Хутка былі створаныя «Сумленны ўніверсітэт» і «Студэнцкая ініцыятыўная група» — моладзевыя ініцыятывы, накіраваныя на каардынацыю студэнцкага пратэсту і падтрымкі ягоных удзельнікаў. З боку ўлады распачаліся жорсткія рэпрэсіі супраць моладзі, моладзевых актывістаў і арганізацый. Падзеі 12 лістапада атрымалі назву чорнага чацвярга: супрацоўнікі КДБ прыйшлі з ператрусамі да сямі студэнтаў і моладзевых актывістаў: Аланы Гебрэмарыям, Ксеніі Сырамалот, Ягора Канецкага, Касі Будзько, Яны Арабейкі і іншых. Некаторыя патрапілі ў СІЗА КДБ па абвінавачанні ў арт. 342 КК РБ, частка была вымушаная тэрмінова пакінуць краіну, каб пазбегнуць арышту. Тым жа днём у офіс ЗБС спрабавалі ўварвацца невядомыя без апазнавальных знакаў. У сувязі з гэтымі падзеямі моладзевы савет «РАДА» апублікаваў заяву супраць ціску на моладзь і моладзевыя арганізацыі Беларусі. Адным з наступстваў рэпрэсіўнай палітыкі ў дачыненні да сектара сталі складанасці з прыцягненнем новых людзей, нягледзячы на агульны пад'ём моладзевай актыўнасці. Перад арганізацыямі і ініцыятывамі ўзняліся новыя выклікі: захаваць высокую актыўнасць людзей і дапамагчы ім сканцэнтраваць энергію на дасягненне сваіх мэтаў.

Што тычыцца міжнароднага супрацоўніцтва, нягледзячы на ізаляцыю, у якой апынулася Беларусь праз эпідэміялагічны і палітычны крызіс, за 2020-ы год адносіны паміж беларускім моладзева-адукацыйным сектарам і еўрапейскім адно палепшыліся. 22-га лістапада European Youth Forum уручыў ганаровую прэмію Youth Rights Awards Беларускаму нацыянальнаму моладзеваму савету «РАДА» як прадстаўнікам беларускай моладзі, каб падкрэсліць іх дасягненні ў 2020-ым годзе. Мела месца і паўсядзённая падтрымка на ўзроўні «парасонавых» арганізацый.

— КАЛІ ПАЧАЎСЯ КРЫЗІС, НАШЫЯ ПАРТНЁРЫ І ЕЎРАПЕЙСКІЯ СЯБРЫ ПАЧАЛІ ВЕЛЬМІ МОЦНА ЗА ЎСІМ САЧЫЦЬ, ДАПАМАГАЦЬ, ПІСАЦЬ ПЕРШЫМІ, КАЛІ БАЧЫЛІ ЯКІЯ-НЕБУДЗЬ ПРАБЛЕМЫ, ПАДТРЫМЛІВАЦЬ ЛЮБЫЯ НАШЫЯ ПРОСЬБЫ І ПРАПАНОВЫ, — распавядае Ганна. — Напрыклад, калі трэба было тэрмінова распаўсюдзіць якуюсьці інфармацыю (заявы «РАДЫ» наконт тых падзей, якія









у нас здараліся), яны распаўсюджвалі гэта ў лічаныя хвіліны па ўсіх месцах, куды толькі маглі, пісалі пра сваю пазіцыю, пісалі ў свае МЗСы і пасольствы, выкарыстоўвалі ўсе ўзроўні працы, якія былі ім даступныя. І такая салідарнасць і падтрымка была ўва ўсім.



Падводзячы вынікі, гадавыя планы адукацыйных і моладзевых НДА часткова здзейсніліся: прайшлі (гэтым годам пераважна ў анлайн-фармаце) традыцыйныя штогадовыя адукацыйныя праграмы для моладзі «Акадэмія першых» і «Школа маладых рэфарматараў» ад Цэнтра новых ідэй, але не адбыліся RADA AWARDS, Валанцёрскі фэст і шэраг іншых мерапрыемстваў.

— СЕКТАР, КАНЕШНЕ, У МОЦНЫМ ТАКІМ НАДРЫВЕ, АЛЕ ЎСЁ РОЎНА ПРЫСУТНІЧАЕ ВЯЛІКАЯ ПЛЫНЬ САЛІДАРНАСЦІ, І ГЭТА ДАПАМАГАЕ ВЫЖЫВАЦЬ, — падсумоўваючы, дзеліцца меркаваннем Ганна.



— ШТО Б ДРЭННАГА НІ ЗДАРАЛАСЯ, ЯК ТОЛЬКІ ІНФАРМАЦЫЯ ПРА ГЭТА З'ЯЎЛЯЕЦЦА, КАЛІ ПРАБЛЕМУ ЎВОГУЛЕ МОЖНА ВЫРАШЫЦЬ, ЯНА БУДЗЕ ВЫРАШАНА ЗА 5 ХВІЛІН. МНЕ ПАДАЕЦЦА, ШТО НА ГЭТАЙ САЛІДАРНАСЦІ МЫ І ПЕРАЖЫЛІ ГОД, І ЯШЧЭ ШМАТ ШТО ПРЫЙДЗЕЦЦА ПЕРАЖЫЦЬ, АЛЕ, ДЗЯКУЮЧЫ ЁЙ, МЫ З УСІМ СПРАВІМСЯ.

# ЛЯТУЧЫЯ ЛЕКЦЫІ



ЛЯТУЧЫ ЎНІВЕРСІТЭТ
МІНСК І ІНШЫЯ ГАРАДЫ БЕЛАРУСІ
ВЕРАСЕНЬ-СНЕЖАНЬ 2020

FLY-UNI.ORG
DP.FLY-UNI.ORG
LIATUCHY

ГРАМАДСКАЯ КАРЫСЦЬ
АХОП АЎДЫТОРЫІ
ПРАВЫ І СВАБОДЫ ЧАЛАВЕКА

**АДМЕТНАСЦЮ 2020 ГОДА СТАЛІ ДВАРОВЫЯ АКТЫЎНАСЦІ, КАЛІ ЛЮДЗІ ПА ЎСЁЙ БЕЛАРУСІ ПАЧАЛІ ЗБІРАЦЦА ПА ВЕЧАРАХ РАЗАМ, РАЗМАЎЛЯЦЬ ПРА АКТУАЛЬНЫЯ ПАДЗЕІ, ПІЦЬ ГАРБАТУ ДЫ ЛАДЗІЦЬ ІМПРЭЗЫ. ЛЯТУЧЫ ЎНІВЕРСІТЭТ ПАДТРЫМАЎ ГЭТЫ РУХ І Ў ВЫНІКУ З'ЯВІЛІСЯ «ЛЯТУЧЫЯ ЛЕКЦЫІ» – АДКРЫТЫЯ СУСТРЭЧЫ З ВЯДОМЫМІ Ў СВАІХ СФЕРАХ ДЗЕЙНАСЦІ ЭКСПЕРТАМІ І ЭКСПЕРТКАМІ. «ЛЯТУЧЫЯ ЛЕКЦЫІ» СТАЛІ ВОДГУКАМ ІНТЭЛЕКТУАЛЬНАЙ СУПОЛЬНАСЦІ НА АБУДЖЭННЕ ГРАМАДСКАЙ АКТЫЎНАСЦІ Ў КРАІНЕ.**

## МЭТА ПАДЗЕІ

Каманда Лятучага ўніверсітэта пабачыла патрэбу ў змястоўнай камунікацыі падчас сустрэч дваровых супольнасцей, а таксама жаданне людзей пашыраць свае веды ў розных галінах айчыннай інтэлектуальнай спадчыны: гісторыі, палітыцы і культуры. Акрамя таго, арганізатары і арганізаткі імкнуліся далучыць да грамадзянскай адукацыі тых, хто ў 2020 годзе спрычыніўся да дэмакратычных зменаў у Беларусі.

## ФАРМАТ ПАДЗЕІ

Арганізатары прапаноўвалі чатыры блокі лекцый: «Грамадства, палітыка, эканоміка», «Гісторыя і памяць», «Культура, мастацтва, спадчына», «Прыродазнаўчыя навукі». Звычайна сустрэчы складаліся з выступу лектара на 30-40 хвілін, а потым пачыналіся пытанні і абмеркаванні. Мясцовыя жыхары рыхтаваліся да сустрэч: ладзілі чаяванні і рабілі адмысловыя падарункі. З 22 верасня па 3 снежня 2020 года адбылося 113 адкрытых «Лятучых Лекцый», з іх 92 прайшлі ў Мінску, 21 — па-за межамі сталіцы. Лекцыі наведала прыкладна 5000 чалавек, большасць з якіх, дарэчы, упершыню ўдзельнічала ў падзеях Лятучага ўніверсітэта.

## ЯК ЗРАБІЛІ

Назіраючы за тым, як жыхары двароў шукаюць спевакоў, экскурсаводаў ды літаратараў на сустрэчы, Лятучы ўніверсітэт, які мае шырокія сувязі з навукоўцамі і інэлектуаламі, вырашыў прапанаваць супольнасцям свае магчымасці. Так быў распрацаваны спіс лекцый, з якога людзі ўжо самі выбіралі тэмы, што іх зацікавілі. Замовы былі рознымі, але, па словах арганізатараў, асноўны інтарэс падзяліўся паміж актуальнымі падзеямі і магчымасцю абмеркаваць тое, што адбываецца зараз, і гісторыяй краіны. А самай запатрабаванай стала лекцыя Уладзіміра Мацкевіча “Што такое грамадзянская супольнасць”.







## ВЫНІКІ

«Лятучыя лекцыі» сталі для слухочоў крыніцай карысных ведаў і пазнаёмілі вялікую колькасць людзей з беларускімі інтэлектуаламі і навукоўцамі. З дапамогай лекцый Лятучага дваровыя супольнасці сталі больш згуртаванымі і абазнанымі, атрымалі цікавыя веды ад выбітных лектараў. Некаторыя ідэі і пытанні, якія абмяркоўваліся падчас сустрэч, пасля сталі актыўна выкарыстоўвацца супольнасцямі. А самі лекцыі зрабіліся прыкладам якаснай і своечасовай грамадзянскай адукацыі.

**«Гэты быў унікальны досвед і ўнікальная падзея, сугучная паўстанню грамадзянскай актыўнасці і свядомасці ў 2020 годзе: мы адчулі рух насустрач, прагу да ведаў і мыслення і нашу здольнасць наталіць гэтую прагу. Мы вельмі ўдзячныя ўсім, хто паспрыяў таму, каб гэтыя лекцыі сталіся магчымымі».**





**Таццяна Вадалажская**
каардынатарка Лятучага ўніверсітэта



# Марына Дубіна
# «Мы адзначаем рост узроўня экасвядомасці»

З пункту гледжання сусветнай экалогіі 2020 год быў вельмі супярэчлівы. Дзякуючы каранавіруснаму запаволенню прамысловасці і падарожжаў ачысцілася паветра, але тым часам аб'ёмы непрыдатных для перапрацоўкі адкідаў дасягнулі каласальных памераў. Беларусь — частка агульнай карціны, але мае і лакальныя асаблівасці.

Для экалагічнага сектара год пачаўся станоўча. 13 студзеня была апублікаваная пастанова Савета міністраў Рэспублікі Беларусь "Аб паэтапным памяншэнні ўжытку пластыкавых пакункаў", а Міністэрствы антыманапольнага рэгулявання і аховы здароўя пачалі распрацоўку заканадаўчай базы, якая юрыдычна замацуе права пакупнікоў набываць тавары ў сваю тару. Павялічыўся збор з вытворцаў за пластыкавыя пакункі і вырабы.
Цэнтр экалагічных рашэнняў Ecoidea.by працягнуў распачатую ў мінулым годзе серыю размоваў з экспертамі Ecoidea Talks, аднак хутка быў вымушаны прыпыніць сустрэчы праз пандэмію каронавіруса.
Галоўным выклікам, які паставіла перад экалагічнымі НДА пандэмія, стала не адмова ад жывых сустрэч. Каронавірус справакаваў бум ужытку аднаразовага пластыка, перш за ўсё сродкаў гігіены (маскі, пальчаткі, бахілы) і побытавых рэчаў



(кубачкі, кантэйнеры, пакункі). Некаторыя гандлёвыя сеткі ўвялі нефармальную забарону набываць прадукты ў асабістую тару.
Экаарганізацыі распачалі інфармацыйныя кампаніі, накіраваныя на дапамогу людзям адаптавацца да пандэміі з мінімальнай шкодай для прыроды. Напрыклад, Цэнтр экалагічных рашэнняў запусціў хэштэг #карантинвэкостиле, пад якім дапамагаў людзям праводзіць жыццё ў самаізаляцыі экалагічна.

— З ПАЧАТКАМ ПАНДЭМІІ Ў ІНТЭРНЭЦЕ З'ЯВІЛАСЯ МНОСТВА ФОТАСВЕДЧАННЯЎ З ПТУШКАМІ, ЯКІЯ ЗАБЛЫТАЛІСЯ Ў МЕДЫЦЫНСКІХ МАСКАХ, — УЗГАДВАЕ МАРЫНА ДУБІНА, ВЫКАНАЎЧАЯ ДЫРЭКТАРКА ГРАМАДСКАГА АБ'ЯДНАННЯ "ЭКАДОМ".

А 23 чэрвеня ў Маскоўскім і Фрунзенскім раёнах Мінска вада нечакана стала непрыдатнай для карыстання. На вуліцах з'явіліся цыстэрны з вадой ад мясцовых уладаў, але больш эфектыўнай стала дзейнасць нізавых ініцыятыў, якія вельмі хутка арганізавалі дапамогу пацярпелым раёнам. Інцыдэнт






так і не быў належным чынам расследаваны, але па наяўнай інфармацыі праблема мусіла быць звязаная хутчэй з тэхнікай, чым з экалогіяй.

— У НАС УВОГУЛЕ НЯШМАТ ЭКА-НДА І Я НЕ ВЕДАЮ ТАКОЙ, ЯКАЯ ПРАЦАВАЛА Б З ПРАБЛЕМАЙ ПІТНОЙ ВАДЫ Ў ГАРАДАХ, — КАМЕНТУЕ МАРЫНА. — ЁСЦЬ ТЫЯ, ХТО ПРАЦУЕ З ПРАБЛЕМАЙ ПІТНОЙ ВАДЫ Ў СЕЛЬСКАЙ МЯСЦОВАСЦІ (НАПРЫКЛАД, З ЗАБРУЖДАВАННЕМ КАЛОДЗЕЖАЎ НІТРАТАМІ). А Ў ГОРАДЗЕ ЗА ГЭТА МУСЯЦЬ АДКАЗВАЦЬ ВОДАКАНАЛ І САНСТАНЦЫЯ. КАЛІ Б ДЗЯРЖАВА НЕСЛА РЭАЛЬНУЮ АДКАЗНАСЦЬ ПЕРАД ГРАМАДЗЯНАМІ І БЫЛА СУМЛЕННАЙ, СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ РАСПАЧАЎ БЫ СПРАВУ.

З праблемай водных рэсурсаў і распаўсюду экалагічнага ладу жыцця былі звязаныя экападзеі 2020 года. Так, 1 ліпеня ГА “Ахова птушак Бацькаўшчыны” (АПБ) і ГА “Багна” зладзілі водны паход па Прыпяці і яе прытоках “Прыпяць, дай пяць!”. Мэтай экасплава была неабходнасць падкрэсліць значнасць



гэтай воднай сістэмы для прыроды Палесся ў незарэгуляваным, некранутым выглядзе і прыцягнуць увагу да будаўніцтва воднага шляху Е40, які пагражае рэгіёну. 21 мая пасля сустрэчы з прадстаўнікамі кааліцыі “Стоп Е40” ЕБРР адмовіўся фінансаваць будаўніцтва шляху.
5 ліпеня і 2 жніўня пад эгідай Ecoidea.by прайшлі эксурсіі па мясцовых экаадказных гаспадарках, якія вырошчваюць арганічныя суніцы і грэчку.
14 верасня з мэтай ачысціць вадаём, даследваць яго стан і распавесці аб яго праблемах Ecoidea.by запусціла чэлендж «Дапамажы сабе і рацэ!»

Ужо праз тыдзень, 21 верасня, Ecoidea.by і АПБ абвясцілі аб пачатку сямідзённага велачэленджа #экодвиж, прымеркаванага да Дня без аўтамабіля.
У кастрычніку Мінскі міжнародны адукацыйны цэнтр імя Ёханэса Раў і Ecoidea.by распачалі адукацыйны курс па ўстойлівай арганізацыі мерапрыемстваў «Events for Future»
Важная экалагічная праблема сучаснай Беларусі — пабудова і запуск Беларускай атамнай электрастанцыі.
Запуск БелАЭС адбыўся 7 лістапада без адпаведнай ліцэнзіі, што супярэчыць сусветнай практыцы. Праз 3 дні вытворчасць электраэнергіі на станцыі была часова прыпыненая. Цягам усяго году Беларуская антыядзерная кампанія змагалася за спыненне будаўніцтва: пісала звароты і заявы, асвятляла праблемы ў СМІ, камунікавала з Міністэрствам энергетыкі, ладзіла акцыі.

— СПЫНІЦЬ БУДАЎНІЦТВА НЕ АТРЫМАЛАСЯ, АЛЕ ГЭТА НЕ ЗНАЧЫЦЬ, ШТО НАДЗЕІ НЯМА, — РЭФЛЕКСУЕ МАРЫНА.— ЁСЦЬ НЕКАЛЬКІ ПРЫКЛАДАЎ, КАЛІ ЦАЛКАМ ПАБУДАВАНЫЯ АЭС ТАК І НЕ ЗАПУСКАЛІСЯ.

# Марына Дубіна «Мы адзначаем рост узроўня экасвядомасці»

ТРЭБА ЎВАЖЛІВА ПРААНАЛІЗАВАЦЬ РЫЗЫКІ І ЭКАНАМІЧНЫ СКЛАДНІК, БО МОЖА АПЫНУЦЦА ТАК, ШТО ЗАКРЫЦЬ АЭС БУДЗЕ БОЛЬШ ПРЫБЫТКОВА, ЧЫМ УВЕСЦІ Ў ЭКСПЛУАТАЦЫЮ. А пытанне бяспекі можна пракаментаваць словамі Андрэя Ажароўскага, фізіка-ядзершчыка з Расіі: “БелАЭС пачынае нагадваць рускую рулетку: можа забіць, хаця вельмі верагодна, што гэтага не адбудзецца. Верагоднасць ядзернай катастрофы маленькая, але наступствы будуць такія вялікія, што нават маленькую верагоднасць дапусціць нельга”.
Канец 2020 года таксама вызначыўся цікавымі і важнямі экападзеямі. Так, Камітэт па выкананні Орхускай Канвенцыі пачаў разглядаць справу па будаўніцтве акумулятарнага завода ў Брэсце.

Дзякуючы ініцыятыве “Прырода без фармацэўтычных адкідаў” ужо ў 13 гарадах Беларусі ўсталяваляваныя спецыяльныя кантэйнеры для пратэрмінаваных лекаў.
16 лістапада “Белінвестбанк” выпусціў «ЭкаЛагічную карту», якая дазваляе карыстальнікам падтрымліваць Цэнтр экалагічных рашэнняў Ecoidea.by і атрымліваць бонусы за ахвяраванні цэнтру, зніжкі на тавары і паслугі ў экакрамах, а таксама запрашэнні на эксклюзіўныя мерапрыемствы цэнтра.

— У БІЗНЭСА ПРАЦЯГВАЕ РАСЦІ ЦІКАЎНАСЦЬ ДА ТЭМЫ ЭКАЛОГІІ Ў РАМКАХ РАЗВІЦЦЯ КАМПАНІЙ ПА КАРПАРАТЫЎНА-САЦЫЯЛЬНАСЙ АДКАЗНАСЦІ. НАПРЫКЛАД, А1 ДАЎ СПРАВАЗДАЧУ АБ ЭКАЛАГІЧНАЙ ПАЛІТЫЦЫ КАМПАНІІ НА 2021-2025 ГАДЫ, — КАМЕНТУЕ МАРЫНА.

Цягам года ГА “ Ахова птушак Бацькаўшчыны” быў зладжаны шэраг крэатыўных акцый і ініцыятыў, у ліку якіх пошукі дзікага хамяка, адсочванні птушак і іншых жывёл, “Крэйдавая батаніка” і мноства школ бёрдвотчараў, а 21 мая, дзякуючы кааперацыі паміж АПБ і А1, у некаторых птушак з’явіліся асабістыя нумары, куды можна патэлефанаваць і паслухаць іхнія спевы.
У які бок змянілася экалагічная сітуацыя ў Беларусі за 2020 год?

**— Нешта стала лепей: людзі менш ездзяць і лётаюць, а гэта ідзе на карысць навакольнаму асяроддзю. Вырубка лясоў — шкодзіць. Але сур’ёзна экалагічная сітуацыя зменіцца да лепшага толькі пры змене сітуацыі ў краіне, калі здолее і будзе працаваць права, суды. Калі ў грамадзян з’явіцца рэальная магчымасць уплываць на прыняццё рашэнняў, — адзначае Марына Дубіна.**



# ФЕСТЫВАЛЬ «НОЧ ВАЎКОЎ»



ГА “АХОВА ПТУШАК БАЦЬКАЎШЧЫНЫ”

В. КАМЯНЮКІ (БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА)

1-2 ЛЮТАГА 2020

PTUSHKI.ORG VOUK.BY VOUK.BY VOUKBY VOUKBY



КРЭАТЫЎ



ГРАМАДСКАЯ КАРЫСЦЬ



АХОП АЎДЫТОРЫІ

**1 І 2 ЛЮТАГА АДБЫЛАСЯ НЕЗВЫЧАЙНАЯ ПАДЗЕЯ – ТРАНСГРАНІЧНАЯ “НОЧ ВАЎКОЎ”. УСЕ ВЫХОДНЫЯ СТО ПЯЦЬДЗЯСЯТ УДЗЕЛЬНІКАЎ ШУКАЛІ Ў БЕЛАВЕЖСКАЙ ПУШЧЫ СЛЯДЫ ДРАПЕЖНІКА, СЛУХАЛІ ЛЕКЦЫІ, НАВЕДВАЛІ ЭКСКУРСІІ, КІНАПАКАЗ І ТЭАТРАЛЬНУЮ ПАСТАНОЎКУ. ФЕСТЫВАЛЬ САБРАЎ МЯСЦОВЫХ ЖЫХАРОЎ, ШКОЛЬНІКАЎ ДЫ АМАТАРАЎ ДЗІКАЙ ПРЫРОДЫ З ПОЛЬШЧЫ І БЕЛАРУСІ, А ТАКСАМА ЗДОЛЕЎ АБ’ЯДНАЦЬ БЕЛАРУСКУЮ І ПОЛЬСКУЮ ЧАСТКІ НАШАГА АГУЛЬНАГА ЗНАКАМІТАГА ЛЕСУ.**

## МЭТА ПАДЗЕІ

Арганізатары фестывалю намагаліся разбурыць стэрэатыпы і міфы, якія існуюць у свядомасці людзей у дачыненні да ваўкоў, а яшчэ паказаць, што грамадства шмат у чым памыляецца наконт гэтага звера. Акрамя таго, каманда спрабавала растлумачыць паводзіны жывёлы, каб праз асвету паменшыць колькасць канфліктаў “чалавек - воўк”, а таксама павялічыць супольнасць “адвакатаў” драпежніка ды аматараў дзікай прыроды.

## СУПРАЦА

Ідэя правесці трансгранічную “Ноч ваўкоў” у 2020 годзе належыць ГА “Ахова птушак Бацькаўшчыны” (АПБ), а менавіта супрацоўнікам Прыродаахоўнага праекта для Белавежскай пушчы. Партнёрамі падзеі выступілі беларускі Нацыянальны парк “Белавежская пушча” і польскі Белавежскі нацыянальны парк, які праводзіў падобныя фестывалі раней. Польскія партнёры забяспечылі фестываль транспартам і сваімі гідамі. Адбылася падзея таксама дзякуючы дапамозе каманды Асацыяцыі нацыянальных паркаў Польшчы.






## ВЫНІКІ

«Ноч ваўкоў» — першае падобнае мерапрыемства на тэрыторыі Нацыянальнага парку "Белавежская пушча". Фестываль разбурыў шмат міфаў і стэрэатыпаў, аб'яднаў шэраг прыродаахоўных арганізацый і ініцыятыў, сабраў неабыякавых да лёсу драпежніка людзей, а таксама стаў пляцоўкай, на якой госці і спікеры змаглі абмяняцца досведам ды даведацца пра нешта новае. Інфармацыя, атрыманая ўдзельнікамі падчас мерапрыемства, стане падмуркам у будучых кампаніях супраць татальнага знішчэння ваўкоў.







**«Мы атрымалі мноства ўдзячных водгукаў, а некаторыя ўдзельнікі фестываля сталі актыўнымі абаронцамі ваўкоў і чытачамі сайта vouk.by. Акрамя таго, мы здабылі сяброў, якія зараз дапамагаюць рэалізоўваць задачы праекта. Аднак у наступны раз мы б хацелі ахапіць больш новых людзей, незнаёмых з АПБ і нашымі іншымі праектамі.»**

**Ірына Кашпей,**
менеджэр Прыродаахоўнага праекта для Белавежскай пушчы





# Вадзім Саранчукоў
# «Мясцовая супольнасць займаецца развіццём сапраўднага самакіравання»

Для Беларусі 2020 год прайшоў пад эгідай абуджэння рэгіёнаў, малых гарадоў і асобных раёнаў і дамоў. «Людзі зразумелі, што падзеі адбываюцца і жыццё віруе не толькі ў Мінску, а побач з іх дамамі, дварамі, вуліцамі», — адзначае намеснік старшыні БНФ, гарадзенец Вадзім Саранчукоў.

Сярод найбольш значных падзей 2020 года варта адзначыць фармаванне дваровых супольнасцей. На месцы вольных дваровых суполак і чатаў, якія выбухнулі ў жніўні, увосень з'явіліся калектыўныя органы тэрытарыяльнага грамадскага самакіравання (КОТэГСы). Гэта добраахвотныя аб'яднанні жыхароў з мэтай добраўпарадкавання тэрыторыі, дабрачыннасці, вырашэння агульных пытанняў і паляпшэння адносін паміж суседзямі.

«ТОЕ, ШТО АДБЫЛОСЯ, ГЭТА ВЫХАД ЗА СВАЁ КОЛА,» — лічыць Вадзім, які і сам прымаў удзел у дзейнасці дваровых супольнасцей у сваім горадзе.

— «ЛЮДЗІ ПАЧАЛІ ЗНАЁМІЦЦА З СУСЕДЗЯМІ, РАЗМАЎЛЯЦЬ, АБМЯРКОЎВАЦЬ І, МНЕ ПАДАЕЦЦА, ПАЧАЛІ ДУМАЦЬ, ШТО МЕНАВІТА АД ІХ ЗАЛЕЖЫЦЬ БУДУЧЫНЯ СВАІХ ГАРАДОЎ. ДВАРОВАЯ АКТЫЎНАСЦЬ — ГЭТА НЕ ТОЛЬКІ НЕГАТЫЎНАЯ ПАВЕСТКА, КАБ СУПРАЦЬСТАЯЦЬ ГВАЛТОЎНЫМ ДЗЕЯННЯМ. ГЭТА СПРОБЫ ВЫРАШЫЦЬ, ЯКІМ ЧЫНАМ ПАВІННА РАЗВІВАЦЦА ТЭРЫТОРЫЯ, НА ЯКОЙ ЖЫВУЦЬ ЛЮДЗІ. ЗАРАЗ АДБЫВАЕЦЦА АКУРАТ ТОЕ, НА ШТО АРЫЕНТАВАЛІСЯ ЛЮДЗІ, ЯКІЯ ПІСАЛІ ЗАКОН АБ МЯСЦОВЫМ САМАКІРАВАННІ ЯШЧЭ Ў ПАЧАТКУ 90-Х. МНЕ ПАДАЕЦЦА, ШТО ЗАРАЗ МЯСЦОВАЯ СУПОЛЬНАСЦЬ ЗАЙМАЕЦЦА РАЗВІЦЦЁМ САПРАЎДНАГА САМАКІРАВАННЯ, ЯКОЕ І ПАВІННА БЫЦЬ У НАШАЙ КРАІНЕ».



Новыя аб'яднанні грамадзян хутка апынуліся цэнтрамі культурнага жыцця. У дварах праходзілі канцэрты з удзелам беларускіх музыкаў (Лявона Вольскага, Nizkiz, Lear), паказы спектакляў «Гісторыі Хармса» Беларускага Свабоднага тэатру і жывая трансляцыя прэм'еры спектакля «Тутэйшыя» ад незалежнай тэатральнай групы «Купалаўцы», шэраг праглядаў кіна- і дыяфільмаў. Па запрашэннях жыхароў падарожнічаў па раёнах і жылых комплексах Мінска лекторый «Лятучага ўніверсітэта». Шмат дзе адбыліся бясплатныя кірмашы і дабрачынныя барахолкі, суботнікі і нават фестывалі гістарычнай рэканструкцыі і сяброўскія футбольныя матчы.





У выніку на перспектывы развіцця рэгіёнаў і лакальных супольнасцей Вадзім глядзіць аптымістычна: «ВАЖНАЯ ЗАДАЧА, ЯКАЯ СТАІЦЬ ПЕРАД РЭГІЯНАЛЬНЫМІ АКТЫВІСТАМІ НА БЛІЖЭЙШЫ ЧАС — ЗРАБІЦЬ НАШ ГОЛАС НЕ АСОБНЫМ ВЫКАЗВАННЕМ ГРОДНА ЦІ БРЭСТА, А АГУЛЬНЫМ ГОЛАСАМ З СУПОЛЬНЫМІ ЗАЦІКАЎЛЕНАСЦЯМІ І КАРЫСЦЯМІ, КАБ ПРАСОЎВАЦЬ ІХ НА ДЗЯРЖАЎНЫМ УЗРОЎНІ».

Ён перакананы, што актывізм, які праявіў сябе ў 2020 годзе, ужо нікуды не знікне, бо людзі зразумелі, што могуць самі вырашаць праблемы. Кола рэгіянальных актывістаў, лічыць ён, будзе далей развівацца і пашырацца, а ўзаемадапамога будзе толькі расці.

**Дзейнасць некамерцыйных арганізацый (НКА) у рэгіёнах**

Каранавірусны 2020 год стаў для рэгіянальных НКА не толькі цяжкім выпрабаваннем, але і надзвычай спрыяльным часам для выхаду на прынцыпова новы ўзровень. Вымушаны анлайн сцёр геаграфічныя межы ўнутры Беларусі, стварыўшы агульную прастору, дзе мясцовыя ініцыятывы аднолькава бачныя і дасяжныя для жыхароў кожнай часткі краіны, кожнага населенага пункта.



**Магілёў**

Для Магілёва 2020 год стаў прадуктыўным і разнастайным. У сярэдзіне лютага ў горадзе прайшоў уводны курс па правах чалавека. Увесь год актыўна дзейнічала ЛГБТ+ ініцыятыва «Новыя рэгіёны»: каманда ладзіла лекцыі і воркшопы, арганізоўвала бясплатную псіхалагічную падтрымку, а 28-30 жніўня і 25-27 верасня недалёка ад Магілёва прайшлі квір-летнікі. Зладзіў некалькі праглядаў Кінаклуб 451F. Улетку паспяхова закрыла пяты сезон Школа гарадскіх ініцыятыў «Цяпліца». 10 лістапада, у Сусветны дзень супраць смяротнага пакарання, каманда MAYDAY — валанцёрская група «Магілёўскай вясны» — правяла крэатыўную акцыю з абвядзеннем крэйдай уяўных целаў на вуліцах, каб прыцягнуць увагу да дзяржаўных забойстваў. Напрыканцы лістапада Цэнтр гарадскіх ініцыятыў распачаў серыю мерапрыемстваў пад агульнай назвай «Тыдзень моладзі». А грамадзянская ініцыятыва «Захаваем Пячэрскі лесапарк» урэшце дамаглася сваёй мэты: дзякуючы яе дзейнасці, да канца 2021 года будзе скончана працэдура абʼяўлення Пячэрскага лесапарка заказнікам.

**Гродна**

22 мая ў рамках экалагічнай ініцыятывы "УРА Гродна!" праводзіўся адкрыты гарадскі форум экалагічных ідэй

# Вадзім Саранчукоў
# «Мясцовая супольнасць займаецца развіццём сапраўднага самакіравання»

«Гродна: разам па шляху ўстойлівага развіцця». Для маладых гарадзенцаў прайшоў курс па развіцці прадпрымальніцкіх ініцыятыў «YOUthCAN». Для моладзі з Гродна, Мінска, Маладзечна і Слоніма адкрылася інклюзіўная школа «Крок насустрач». У ліпені прайшоў урачысты выпускны Школы сацыяльнага прадпрымальніцтва Good Impact. 24 снежня цэнтр дадатковай адукацыі дарослых «Студыя карысных кампетэнцый» адсвяткаваў шасцігоддзе. За апошні год «Студыя карысных кампетэнцый» правяла мноства культурных і адукацыйных мерапрыемстваў: Школу здаровага даўгалецця, Школу сучаснай журналістыкі, моўныя сустрэчы Tandem Evenings. Працягваў плённую працу «Універсітэт Залатога Веку».

**Віцебск**

Віцебск у 2020-м прыняў штогадовае міжнароднае актывісцкае мерапрыемства InspiredBY. Культурная пляцоўка «Віцебск для мяне» запусціла медыяпраект Vitebsk ON, быў арганізаваны воркшоп «Рэвіталізацыя Вялікай Любавіцкай сінагогі г. Віцебска». Шматлікія трэнінгі і паседжанні кніжнага клуба былі зладжаны ініцыятывай «Навука па-за сабой у Віцебску». 9 чэрвеня запусцілася экаініцыятыва «Чыстая горка — бяспечныя прыборкі». Не спыняла сваёй дзейнасці віцебская моладзевая квір-ініцыятыва Closet Free: актывісты і актывісткі ініцыятывы зладзілі грамадзянскую кампанію #СДАУ, праводзілі трэнінгі, кінапаказы і сустрэчы ўзаемнай псіхалагічнай падтрымкі. 27 лістапада ініцыятыва «Віцебск — горад, які вучыцца» правяла форум для мясцовых НДА ў сферы экалогіі, прадпрымальніцтва, інклюзіі і культуры. А ў наваполацкай арт-прасторы «Terra Кот» за год адбыўся шэраг кінапаказаў, трэнінгаў, семінараў і турніраў па настольных гульнях.

**Брэст**

На пачатку года ў Брэсце, дзякуючы намаганням Клубнага дома, адбыўся камп'ютарны курс BEEsmart. Апроч курсаў, Клубны дом правёў дабрачынны забег «Бегма ад дэпрэсіі 2020», «Тыдзень псіхічнага здароўя», прымеркаваны да аднайменнага міжнароднага дня, форум-спектакль «Рэзюмэ»





і музычны джэм, а ў жніўні забяспечваў бясплатную псіхалагічную падтрымку. Напрыканцы году Клубны дом адсвяткаваў пяцігоддзе. 1-2 мая адбыўся III Брэсцкі велапрабег прадпрымальнікаў. Таксама ў Брэсце прайшлі грамадская гульня «Біржа ідэй» і конкурс гарадскіх ідэй Regeneration.

**Гомель**

У снежні гамельчукі наведалі анлайн-маркет мясцовай ежы з тэматычным лекторыем. Увесь год вёў гурткі і кінапрагляды мясцовы філіял ініцыятывы «Актыўным быць файна». Гомельскае «Таварыства беларускай мовы» (ТБМ) напрыканцы зімы зладзіла дзіцячы лагер «Мова дзяцей», а ў сярэдзіне лета — аднайменны сямейны экалагічны пікнік. А паміж гэтымі падзеямі было шмат трэнінгаў, гурткоў размоўнай беларускай мовы і кінапраглядаў. 24 кастрычніка ТБМ сумесна з ініцыятывай «Eve's daughters» правялі ў Гомелі восеньскі фры-маркет. Напрацягу 2020-га ладзіў інклюзіўныя спектаклі Тым Тэатр, працаваў Эматыўны тэатр асацыяцый (Э.Т.А.) пры цэнтры анкадапамогі «Мерыдыян надзеі».

**Бабруйск**

У лютым да жыхароў Бабруйска прыязджала з семінарам Школа гарадскіх ініцыятыў «Цяпліца», а ў снежні ў рамках праграмы развіцця моладзі «Далучайся» было арганізавана ток-шоў на тэму праблем у адукацыі ва ўмовах COVID-19. Цягам году нефармальны студэнцкі цэнтр «Эвалюцыя» прымаў на сваёй пляцоўцы сацыяльную гульню «Іншы погляд», прававы квэст-квіз «Чужы сярод сваіх» і творчыя вячоркі, ладзіў гульнявыя аўторкі, адукацыйныя мерапрыемствы і гарадскі пешаходны квэст.

У падтрымку лакальных актывістаў і актывістак МГА «ЕўраБеларусь» і Лятучы ўніверсітэт зладзілі Школу для рэгіянальных ініцыятыў «Public space. Мой горад — мая прастора», а Беларускі дом у Варшаве і Цэнтр гарадскіх ініцыятыў абвясцілі аб пачатку Акадэміі рэгіянальных лідараў. У межах праекта «Веліч роднай мовы» ад кампаніі А1 у Мінску, Брэсце, Віцебску, Гродна, Гомелі і Магілёве з'явіліся скульптуры з літар, якія разам складаюць слова «мова». Вандравалі па рэгіёнах моўныя курсы «МоваНанова», гурткі «Актыўным быць файна» (АБФ) і мерапрыемствы цэнтра «Жывая бібліятэка».

З кожным годам беларускае грамадства ўсё больш пераканаўча даказвае, што выказванне, быццам бы за межамі Мінска нічога не адбываецца, — дакучны стэрэатып. Нягледзячы на складанасці і перашкоды, трэці сектар развіваецца і буйнее ў рэгіёнах, глыбей усведамляе саміх сябе і актыўна ўключаецца ў агульны кантэкст, змяняючы як будучыню, так і непасрэдна сучаснасць нашай краіны.






# INSPIRED
# BYРЭГІЁН




МГА «NSNL»
РЭГІЁНЫ БЕЛАРУСІ
З 2018 ГОДА

INSPIREDBELARUS. COM
INSPIREDBYREGION@GMAIL. COM
INSPIREDBELARUS










**МАЕЦЕ КЛАСНУЮ ІДЭЮ І ЖАДАЕЦЕ ЗМЯНІЦЬ СВЕТ ДА ЛЕПШАГА? ЗВЯРНІЦЕ ЎВАГУ! ВОСЬ УЖО ТРЭЦІ ГОД МОЛАДЗЕВАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ «NSNL» ЛАДЗІЦЬ INSPIREDBYРЭГІЁН — ВЯЛІКІ ПРАЕКТ, ЯКІ СТВАРАЕ МАГЧЫМАСЦІ ДЛЯ ЗНАЁМСТВА, АБМЕНУ ВОПЫТАМ І РАЗВІЦЦЯ СУПРАЦЫ ПАМІЖ МЯСЦОВЫМІ АКТЫВІСТАМІ І АКТЫВІСТКАМІ. ВАЖНА АДЗНАЧЫЦЬ: ЛЮДЗІ ТУТ НЕ ПРОСТА ЗБІРАЮЦЦА РАЗАМ, А ВЫРАШАЮЦЬ ВАЖНЫЯ ЛАКАЛЬНЫЯ ПЫТАННІ І ПРАБЛЕМЫ.**

## МЭТА ПАДЗЕІ

Транслюючы каштоўнасці гендарнай роўнасці і экалагічнага падыходу, праект InspiredByРэгіен даў магчымасці для развіцця рэгіёнаў праз пошук ідэй і правядзенне рэгіянальных мерапрыемстваў, фармат якіх выбіралі самі актывісткі і актывісты. Акрамя таго, InspiredByРэгіен стаў пляцоўкай для абмеркавання і вырашэння мясцовых праблем і пытанняў, а таксама лакацыяй для знаёмства, абмену вопытам і супрацы паміж ініцыятывамі і грамадствам.

## ПЕРАДУМОВЫ

Каманда штогадовага міжнароднага мерапрыемства InspiredBY заўважыла, што актывісты з аднаго горада, якія імкнуцца да адной і той жа мэты — зрабіць свой горад лепш, — не заўсёды знаёмыя адзін з адным і часта не працуюць разам. З гэтага назірання нарадзілася ідэя палепшыць камунікацыю і супрацу паміж імі, а рашэннем стаў праект InspiredByРэгіён.

## ЗМЕСТ

За тры гады працы InspiredByРэгіён быў праведзены шэраг мерапрыемстваў у розных гарадах краіны, вынікам якіх сталі разнастайныя лакальныя праекты. Напрыклад, школьнікі Барысава цяпер больш думаюць пра экалогію і, замест запуску балонікаў на выпускныя, саджаюць дрэвы, у Пінску з'явілася новая ініцыятыва ПРАВ_ДА, у Оршы мясцовая супольнасць намагаецца змяніць да лепшага парк, а ў Гродна паднялі пытанне «ляжачых паліцэйскіх». У выніку актывісты пачалі супрацоўнічаць, праводзіць сумесныя мерапрыемствы і прасоўваць свае ініцыятывы з дапамогай адзін аднаго, а да InspiredByРэгіён далучыліся партнёры з усёй Беларусі: YMCA Брэст і Мінск, цэнтры «Адкрыццё», «Струмок», «Задзвіжка», Цэнтр экалагічнага і сацыяльнага развіцця, Цэнтр адпачынку «Партал», партыя БНФ, супольнасць «Актыўнае бацькоўства», ініцыятыва «Распісныя пернікі Міёршчыны», Клуб дзелавых жанчын горада Пінска , «Першы крок» з Мазыра і ініцыятыва «Праўда».

## ВЫНІКІ

На сённяшні момант у InspiredByРэгіён прыняло ўдзел больш за 500 чалавек. Арганізатары і арганізаткі заўважаюць, што ў выніку шмат людзей пачалі разумець сілу супрацы, а вялікая колькасць партнёраў жадае рэалізаваць InspiredByРэгіён у сваіх гарадах. Акрамя таго, каманда імкнецца працаваць у так званых «месцах, у якіх нічога не адбываецца»: шукаюць там актывістаў і наўпрост зараджаюць мясцовую супольнасць энергіяй для развіцця і паляпшэння сваіх гарадоў.







**«Праект рэалізуецца дзякуючы таму, што мы ўмеем адаптавацца да розных сітуацый і маем гнуткі падыход да працы. Мы развіваемся самі, развіваем нашае партнёрства і сапраўды цэнім тыя каштоўнасці, якія транслюем. Мы верым у сілу супрацы і сумеснай працы. InspiredByРэгіён — гэта праект магчымасцяў і праект, які натхняе людзей».**

**Вікторыя Макаранка,**
каардынатарка





# Андрэй Бастунец «Сёння права нас не абараняе, сёння мы абараняем права»

Для беларускай медыясферы 2020 год стаў самым цяжкім за ўвесь час існавання. Але ён паказаў устойлівасць і салідарнасць незалежнай прэсы.

Калі ў свеце асноўным вектарам, які ўплываў на ўсе сферы грамадскага жыцця, у тым ліку на сродкі масавай інфармацыі, стала пандэмія каронавіруса, то ў Беларусі ўздзеянне пандэміі было меншым, бо яе перакрыла палітычная сітуацыя ў краіне, гаворыць Андрэй Бастунец, старшыня Беларускай асацыяцыі журналістаў.

Палітычны крызіс, які спарадзіў ціск на грамадзянскую супольнасць і дэмакратычны сектар агулам, не абмінуў і незалежныя СМІ.

Андрэй Бастунец адзначае сістэмнасць гэтага ціску. У першую чаргу ён звяртае ўвагу на пераслед журналістаў. Агулам у 2020 годзе ў Беларусі журналістаў затрымлівалі больш за 470 разоў. У дачыненні да супрацоўнікаў СМІ зафіксавана больш за 60 выпадкаў гвалту. За 2020 год па адміністрацыйных і крымінальных справах журналісты правялі за кратамі 1200 содняў — гэта больш за 3 гады. Некаторыя супрацоўнікі медыя і зараз застаюцца ў зняволенні.




Яшчэ адзін напрамак ціску — праблемы з акрэдытацыяй у прадстаўнікоў замежных СМІ. Спачатку не далі кароткатэрміновыя акрэдытацыі замежным карэспандэнтам, якія збіраліся асвятляць выбары ў Беларусі, потым пазбавілі акрэдытацый больш за 10 карэспандэнтаў, якія былі стала акрэдытаваныя ў нашай краіне, а неўзабаве і ўвогуле ўсіх замежных журналістаў.

Трэці напрамак — блакаванне распаўсюду інфармацыі як у друкаваным выглядзе, так і ў інтэрнэце. У першыя паслявыбарчыя дні ў Беларусі наогул быў адключаны інтэрнэт. Апроч таго, з блакіроўкай сутыкнуліся дзясяткі незалежных медыярэсурсаў, і гэтае становішча працягваецца і дасюль. Яны вымушаны былі пераходзіць на «люстэркі» альбо актыўна працаваць у сацсетках.

— ГЭТА, ДАРЭЧЫ, ПРЫВЯЛО ДА ПАВЫШЭННЯ ЛІЧБАВАЙ АДУКАЦЫІ ГРАМАДЗЯНАЎ І ВЯЛІКАГА РОСТУ ПАПУЛЯРНАСЦІ МЭСЕНДЖАРА TELEGRAM, — зазначае Старшыня БАЖ.

У 2020 годзе 5 друкаваных выданняў прыпынілі ці спынілі выхад у друкаванай форме пасля таго, як дзяржаўныя прадпрыемствы адмовіліся іх друкаваць ці распаўсюджваць.







— ПЕРАСЛЕД НЕЗАЛЕЖНЫХ СМІ ПРЫВОДЗІЦЬ ДА ВЫНІКУ, СУПРАЦЬЛЕГЛАМУ ТАМУ, ЯКІ ЧАКАЮЦЬ УЛАДЫ. ЗАМЕСТ ТЫХ РЭСУРСАЎ, ЯКІЯ ПРЫТРЫМЛІВАЛІСЯ ЖУРНАЛІСЦКІХ СТАНДАРТАЎ І АДКАЗНА СТАВІЛІСЯ ДА ПРАВЕРКІ ІНФАРМАЦЫІ, СТАЛІ АКТЫЎНА РАЗВІВАЦЦА ТЭЛЕГРАМ-КАНАЛЫ, ЯКІЯ НЕ ЗАЎСЁДЫ ВЕРЫФІКУЮЦЬ ЗВЕСТКІ І ПРАЦУЮЦЬ ПА СТАНДАРТАХ ПРАФЕСІЙНАЙ ЭТЫКІ. І ГЭТА ЦАЛКАМ ПРАДКАЗАЛЬНЫ ПРАЦЭС, — заўважае Андрэй Бастунец.

Што да пандэміі, то ў Беларусі журналісты адразу сутыкнуліся з праблемай доступу да інфармацыі, якая тычыцца каронавіруса. Міністэрства аховы здароўя ў пэўны перыяд проста перастала праводзіць брыфінгі па гэтай тэме, а лічбы па захворваннях і смерцях, якія публікавала ведамства, выклікалі сумневы.

— У МЕДЫЯЎ, ЯКІЯ СПРАБАВАЛІ ПРАВОДЗІЦЬ УЛАСНЫЯ РАССЛЕДАВАННІ І ПУБЛІКАВАЛІ ІНФАРМАЦЫЮ, УЗНІКАЛІ ПРАБЛЕМЫ. ТАК БЫЛО З ВЫДАННЕМ «МЕДЫЯ-ПАЛЕССЕ», ЯКОЕ АТРЫМАЛА ВЯЛІКІ ШТРАФ ЗА РАСПАЎСЮД ІНФАРМАЦЫІ НАКОНТ COVID-19 У РЭГІЁНЕ, ЯКАЯ НІБЫТА МОЖА НАНЕСЦІ ШКОДУ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ ІНТАРЭСАМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ. ПРЫ ГЭТЫМ У ТОЙ САМЫ ЧАС У РЭДАКЦЫІ ПАМЁР АДЗІН З ВЯДУЧЫХ ЖУРНАЛІСТАЎ, І ЁСЦЬ ПАДАЗРЭННІ, ШТО ЯГО СМЕРЦЬ ЗВЯЗАНАЯ З КАРОНАВІРУСАМ. АЛЕ ГЭТА НЕ ПЕРАШКОДЗІЛА СУДУ АШТРАФАВАЦЬ РЭДАКЦЫЮ НА БУЙНУЮ СУМУ.



Пандэмія прымусіла журналістаў перайсці на аддаленую працу. Унесла свае абмежаванні і закрыццё межаў, многія журналісты страцілі магчымасць рабіць замежныя матэрыялы.

Яшчэ адзін чыннік, які паўплываў на развіццё беларускай медыясферы ў 2020 годзе, — фінансавы. Ён звязаны з двума папярэднімі, бо тыя ж друкаваныя СМІ страцілі магчымасць прадавацца і даходзіць да сваіх чытачоў. У інтэрнэт-выданнях адзначаецца спад рэкламы і, адпаведна, даходу ад яе.

Але медыяполе Беларусі часткова здолела адаптавацца да гэтых праблем: аддаленая праца прывяла да засваення новых формаў і інструментаў.

— ZOOM-КАНФЕРЭНЦЫІ СТАЛІ ЧАСТКАЙ ЖЫЦЦЯ. КАЛІ РАНЕЙ БАЖ ЛАДЗІЛА ШМАТ АФЛАЙН-МЕРАПРЫЕМСТВАЎ, ТО З ПАЧАТКАМ ПАНДЭМІІ МЫ МІНІМІЗАВАЛІ ТАКІЯ ПАДЗЕІ. АЛЕ АГУЛЬНАЯ КОЛЬКАСЦЬ СЕМІНАРАЎ, ТРЭНІНГАЎ І КАНФЕРЭНЦЫЙ ВЫРАСЛА, БО Ў ПРАЦЫ АНЛАЙН ЁСЦЬ СВАЕ ПЛЮСЫ: НА ZOOM-КАНФЕРЭНЦЫЮ МОЖНА ЗАПРАСІЦЬ ТЫХ ТРЭНЕРАЎ, ЯКІХ МЫ НЕ МАГЛІ Б ЗАПРАСІЦЬ ПРЫЕХАЦЬ У БЕЛАРУСЬ, І ВЫДАТКІ НА ТАКІЯ КАНФЕРЭНЦЫІ ЗНАЧНА МЕНШЫЯ.

# Андрэй Бастунец

## «Сёння права нас не абараняе, сёння мы абараняем права»

«Дзякуючы», здавалася б, такім не надта станоўчым з явам, як каронавірус і палітычны крызіс, беларусы засвоілі шэраг тэхнічных сродкаў, VPN і проксі-сервісаў і значна папоўнілі сваімі шэрагамі аўдыторыю Telegram.
Гаворачы пра найбольш значныя падзеі года ў сферы медыя, Андрэй Бастунец зазначае, што тут адбыўся шэраг стратаў.

— РАНЕЙ МЫ ШТОГОД ПРАВОДЗІЛІ КУЛЬТУРНІЦКІ ФЕСТЫВАЛЬ «БАЖЫНКІ», АЛЕ СЁЛЕТА ВЫМУШАНЫЯ БЫЛІ АД ЯГО АДМОВІЦЦА ПРАЗ КАРОНАВІРУС. У ГЭТЫМ ГОДЗЕ БАЖ АДЗНАЧЫЛА 25-ГОДДЗЕ. У СІТУАЦЫІ, КАЛІ ЎСЕ ЗНАХОДЗІЛІСЯ ПАД ЦІСКАМ, БЫЎ НЕ ЧАС ДЛЯ СВЯТАЎ, АЛЕ МЫ ПРАВЯЛІ ПАСЯДЖЭННЕ РАДЫ І ЎРУЧЫЛІ ЎЗНАГАРОДЫ ПЕРАМОЖЦАМ КОНКУРСУ «ВОЛЬНАЕ СЛОВА» — ГЭТА ЗНАЧНАЯ ПАДЗЕЯ Ў ЖУРНАЛІСЦКАЙ СУПОЛЬНАСЦІ. А ЯШЧЭ Ў 2020 ГОДЗЕ БАЖ АТРЫМАЛА ЎЗНАГАРОДУ ЎРАДАЎ ВЯЛІКАБРЫТАНІІ І КАНАДЫ ЗА ДЗЕЙНАСЦЬ У ГАЛІНЕ СВАБОДЫ ВЫКАЗВАННЯЎ. Я ВЕДАЮ, ШТО БЫЛО БОЛЬШ ЗА 60 НАМІНАНТАЎ, І ГЭТА ГОНАР, ШТО НАС АДЗНАЧЫЛІ.

Апроч таго, Андрэй Бастунец узгадвае шматлікія адукацыйныя праграмы і трэнінгі БАЖ, у тым ліку ў сферы бяспекі журналістаў. Таксама сёлета адбыўся шэраг сустрэч у межах English speaking news club. Гэта адкрытыя дыскусійныя сустрэчы журналістаў, падчас якіх яны абмяркоўваюць актуальныя падзеі па-ангельску.

— МЫ СПРАБАВАЛІ ВЫРАШАЦЬ ПРАБЛЕМЫ КАЛЕГАЎ: ГЭТА БЫЛІ І АКЦЫІ САЛІДАРНАСЦІ З ЗАТРЫМАНЫМІ ЖУРНАЛІСТАМІ, І ПРАВАВАЯ ДАПАМОГА. ГЭТЫ ГОД БЫЎ АДМЕТНЫМ МЕНАВІТА РОСТАМ САЛІДАРНАСЦІ З ЖУРНАЛІСЦКАЙ СУПОЛЬНАСЦЮ. ПРЫЧЫМ ГЭТА ІНІЦЫЯВАЛІ САМІ ЖУРНАЛІСТЫ: ЯНЫ СТАЯЛІ ПАД РАУСАМІ, ДЗЕ ЗНАХОДЗІЛІСЯ ІХ ЗАТРЫМАНЫЯ КАЛЕГІ, НАВЕДВАЛІ СУДЫ, ПАДПІСВАЛІ ПРАТЭСТНЫЯ ЛІСТЫ, — узгадвае Старшыня БАЖ.
Падзеі, якія адбываліся ў Мінску, у той ці іншай ступені адгукаліся і ў рэгіёнах. Сітуацыя там адметная тым, што ў гарадах і мястэчках, дзе дзесяцігоддзямі не праходзіла ніякіх акцый, летам і ўвосень 2020-га ўспыхнулі грамадска-палітычныя падзеі і журналісты, якія іх асвятлялі, таксама трапілі пад рэпрэсіі.
Напрыканцы года ціск абрынуўся на беларускі Прэс-клуб, на





яго заснавальніцу і шэраг супрацоўнікаў завялі крымінальныя справы, цяпер журналісты ў СІЗА. А найбуйнейшы медыяпартал tut. by пазбавілі статуса СМІ.

Усе гэтыя чыннікі прывялі да таго, што беларускія СМІ сталі больш шырока выкарыстоўваць кантэнт грамадства — фота і відэа з акцый пратэсту, на якіх журналісты пазбаўлены прававой магчымасці прысутнічаць.

— УВОГУЛЕ, ВЫКАРЫСТАННЕ ГРАМАДСКАГА КАНТЭНТУ — ГЭТА СУСВЕТНАЯ ПРАКТЫКА, АЛЕ ЯЕ МАШТАБ У БЕЛАРУСІ ЗНАЧНА БОЛЬШЫ Ў ПАРАЎНАННІ З ІНШЫМІ КРАІНАМІ, — гаворыць Андрэй Бастунец.

У звязку з палітычнымі падзеямі ў Беларусі ўзнікла шэраг новых праектаў і ініцыятыў: гэта фонд дапамогі пацярпелым журналістам Mediasol, праекты па дакументаванні гісторый рэпрэсаваных August 2020 і 23.34., той жа Прэс-клуб пры дапамозе калегаў стварыў «Белую кнігу», у якой гаворка таксама ідзе пра пацярпелых ад рэспрэсій супрацоўнікаў СМІ. Напэўна, не засталося ніводнага незалежнага СМІ, якое б не інтэрв юіравала людзей, якія трапілі пад ціск уладаў. БАЖ таксама займаецца анкетаваннем пацярпелых журналістаў. Андрэй Бастунец падкрэслівае, што, нягледзячы на прававы дэфолт у краіне, праца па дакументаванні рэпрэсій цяпер надзвычай важная.

— УЖО ЦЯПЕР ЁСЦЬ СПРОБЫ ЗАДЗЕЙНІЧАЦЬ УНІВЕРСАЛЬНУЮ ЮРЫСДЫКЦЫЮ І ЗАВЕДЗЕНА НЕКАЛЬКІ СПРАВАЎ У ЛІТВЕ, ПОЛЬШЧЫ, МАГЧЫМА, БУДУЦЬ І ІНШЫЯ. ЯШЧЭ ВЕЛЬМІ ВАЖНА, ШТО ПАДЧАС ДАКУМЕНТАВАННЯ ФІКСУЕЦЦА НЕ ТОЛЬКІ САМ ФАКТ ЦІСКУ, АЛЕ І ТАКІЯ РЭЧЫ, КШТАЛТУ ХТО БЫЎ СУДДЗЁЙ, ХТО СКЛАДАЎ ПРАТАКОЛ І Г.Д. ГЭТА ЎСЁ БУДЗЕ ВЕЛЬМІ ЗНАЧНЫМ, КАЛІ СІТУАЦЫЯ Ў КРАІНЕ ПАЛЕПШЫЦЦА.

Пакуль галоўным выклікам для медыясферы застаецца дэфолт права, паколькі прававымі сродкамі ні асобныя журналісты, ні агулам СМІ не могуць супрацьстаяць відавочна незаконным дзеянням.

— МЫ БАЧЫМ, ШТО ЎЛАДЫ ПАКУЛЬ НЕ ЗБІРАЮЦЦА ПЕРАХОДЗІЦЬ АД ГВАЛТУ ДА НАРМАЛЬНАГА СУІСНАВАННЯ З ГРАМАДСТВАМ. А ПАКОЛЬКІ СМІ З ЯЎЛЯЮЦЦА ГОЛАСАМ ГРАМАДСТВА, ЯНЫ СУТЫКАЮЦЦА З ГЭТАЙ ПРАБЛЕМАЙ. АДПАВЕДНА ЎЗРАСТАЕ ПСІХАЛАГІЧНАЯ НАПРУЖАНАСЦЬ СЯРОД ЖУРНАЛІСТАЎ, СТРЭС, ДЭПРЭСІЯ, ВЫГАРАННЕ. ВЫЙСЦЕ З ГЭТАГА — ВА ЎЗАЕМАДАПАМОЗЕ І САЛІДАРНАСЦІ. ПАКОЛЬКІ СЁННЯ ПРАВА НАС НЕ АБАРАНЯЕ — СЁННЯ МЫ АБАРАНЯЕМ ПРАВА.

Андрэй Бастунец, які ўжо 25 гадоў назірае за сітуацыяй у галіне медыя, гаворыць, што 2020 год для яе быў самым цяжкім. «З такім сістэмным ціскам на журналістаў мы яшчэ не сутыкаліся — пры тым, што ў Беларусі заўжды былі праблемы ў галіне свабоды выказвання. Пандэмія і эканамічныя праблемы яшчэ больш узмацнілі агульнае напружанне. Але ў той жа час мінулы год паказаў устойлівасць і салідарнасць беларускай незалежнай прэсы і — што вельмі значна — падтрымку яе грамадствам. Бо мы не заўсёды адчувалі гэту падтрымку: свабода выказвання падчас апытанняў раней не разглядалася прыярытэтнай. Але сёння мы бачым, што дзейнасць незалежных журналістаў і медыяў вельмі высока ацэньваецца і падтрымліваецца грамадзянамі. І гэта — вельмі значна».



# АКАДЭМІЯ ПРЭС-КЛУБА



АДУКАЦЫЙНАЯ ПЛЯЦОЎКА «АКАДЭМІЯ ПРЭС-КЛУБА»

МІНСК

САКАВІК-СНЕЖАНЬ 2020

ACADEMY.PRESS-CLUB.BY

PRESS.CLUB.ACADEMY



АХОП АЎДЫТОРЫІ



УПЛЫЎ НА РАЗВІЦЦЁ СЕКТАРА



АХОП АЎДЫТОРЫІ

**АКАДЭМІЯ ПРЭС-КЛУБА — ГЭТА НЕФАРМАЛЬНАЯ АДУКАЦЫЙНАЯ ПЛЯЦОЎКА, ЯКАЯ ГРУНТУЕЦЦА НА МІЖНАРОДНЫХ МЕДЫЙНЫХ І АДУКАЦЫЙНЫХ СТАНДАРТАХ І НАКІРАВАНАЯ АПЕРАТЫЎНА АДКАЗВАЦЬ НА ВЫКЛІКІ СУЧАСНАГА РЫНКУ. ТУТ З ДАПАМОГАЙ АНЛАЙН І АФЛАЙН МЕРАПРЫЕМСТВАЎ ЖУРНАЛІСТЫ МОГУЦЬ АТРЫМАЦЬ НОВЫЯ НАВЫКІ, А МЕНЕДЖЭРЫ ПАЛЕПШЫЦЬ ЯК СВАЕ ВЕДЫ, ТАК І ВЕДЫ СВАІХ СУПРАЦОЎНІКАЎ.**

## МЭТА

Ініцыятыва стварыць новую нефармальную адукацыйную пляцоўку выходзіла ад беларускага Прэс-клуба. Праз правядзенне медыяхакатона і медыяінкубатара Акадэмія імкнулася дапамагчы незалежным журналістам і пачаткоўцам-медыйшчыкам, аб'яднаным у каманды, рэалізаваць свае праекты. Такім чынам, на рынку павінны з'явіцца якасныя і сучасныя выданні, падкасты ды відэапрадукты.

## ЯК ЗРАБІЛІ

На медыяхакатон Акадэміі Прэс-клуба, які прайшоў 23-24 кастрычніка ў Мінску, сабралося 15 каманд з 22 праектамі. Паўтары дні медыйшчыкі разам з экспертамі працавалі над формай і зместам сваіх ідэй. У выніку на фінальным пітчынгу ўдзельнікамі было прадстаўлена 17 дапрацаваных праектаў, сем з якіх працягнулі працу ў Інкубатары Акадэміі Прэс-клуба.



## ЗМЕСТ

Першы дзень хакатона пачаўся з лекцый аб стартапах ад прадстаўніка MTS StartUP Hub Антона Kулічкіна і асабістай гісторыяй поспеху ад дырэктара probusiness.io Віталя Валянюка. Выступоўцы параілі ўдзельнікам быць гнуткімі і бесперапынна мяняцца — шукаць і асвойваць новыя платформы на рынку. На другі дзень адбыўся майстар-клас ад заснавальніцы MeetnGreetMe і праграмнай дырэктаркі Еўрапейскага бізнес-інкубатара Demium Startups Алены Шкаруба, дзе яна распавядала пра сакрэты паспяховага пітчынгу. Акрамя таго на хакатоне прайшлі індывідуальныя кансультацыі ад вядомых медыяэкспертаў і медыяэкспертак.




## ВЫНІКІ

Сем праектаў перайшлі ў інкубатар Акадэміі Прэс-клуба, дзе над імі працягваюць працаваць каманды. Гэта інтэрнэт-часопіс для аўдыторы 45 + «Дарослыя людзі», медыяпраект «Раёны_кварталы», анлайн-шоу пра рэгіёны «Вялікі Гасцінец», анлайн-часопіс аператыўнага аналізу «Лідары меркаванняў», свабодны часопіс пра беларускую культуру «Dadalog». А яшчэ некалькі праектаў атрымалі спецпрызы ад інвестараў і Прэс-клуба.





**«Інкубатар яшчэ ў працэсе, таму складана казаць пра канчатковыя вынікі, але хакатон, на маю думку, атрымаўся. Якасцю прапанаваных праектаў па большай частцы эксперты і арганізатары засталіся задаволенымі. Ды і людзі былі вельмі зацікаўленыя ў рэалізацыі ідэй. У нас не было мэты прыцягнуць аўдыторыю „ў свае шэрагі“, мы проста хацелі ім дапамагчы».**



**Сяргей Якупаў,**
праграмны дырэктар Акадэміі Прэс-клуба



# Грамадскія арганізацыі асвойваюць анлайн

Пандэмія каронавіруса, з якой сутыкнулася сусветная супольнасць у пачатку 2020 года, унесла значныя карэктывы ў паўсядзённае жыццё кожнага чалавека. Каранцін, самаізаляцыя, локдаўн — гэта толькі некаторыя маркеры «новай рэальнасці». Не засталіся ў баку і арганізацыі трэцяга сектара: у існуючых умовах грамадзянская супольнасць была вымушана мяняць свае планы і карэктаваць механізмы дзейнасці. А пераход у лічбавую прастору, хуткая адаптацыя ды пошук альтэрнатыўных формаў узаемадзеяння з аўдыторыяй і камандай часта станавіліся адзінай магчымасцю, каб працягваць працаваць і развівацца.

Нягледзячы на тое, што афіцыйнага лакдаўну ў Беларусі не было, амаль усе грамадскія арганізацыі ў 2020 годзе бачылі неабходнасць сыходзіць у лічбавую прастору і асвойваць анлайн-інструменты. Нават тыя НДА, якія, па розных прычынах, заўсёды працавалі з мэтавай аўдыторыяй у афлайне — напрыклад, з людзьмі з інваліднасцю ці людзьмі сталага веку, — былі вымушаны пачынаць карыстацца новымі інструментамі, каб не прыпыняць сваю дзейнасць з-за самаізаляцыі.






*«Трэба бегчы з усяе моцы, каб толькі заставацца на месцы, а каб кудысьці трапіць, трэба бегчы як мінімум удвая хутчэй!».*

Гэта быў неабходны, але, разам з тым, дабравольны крок і выбар «абараніць адзін аднаго ад інфекцыі». Таму, калі раней праца ў анлайне была не больш чым індывідуальным рашэннем, заснаваным на шэрагу фактараў: прыцягненне ўвагі або эксперымент, — цяпер выйсця не было, бо пандэмія каронавіруса падштурхоўвала мяняцца.



**Валерыя Валкагонава, мэнэджэрка прэктаў Офіса еўрапейскай экспертызы і камунікацыі, трэнерка нефармальнай адукацыі:**
*«Мы былі крыху падрыхтаванымі да сітуацыі, якая склалася. Яшчэ ў снежні 2019 наша каманда зрабіла анлайн-курс і чэлендж, таксама некаторыя нашыя планёркі і сустрэчы праводзіліся ў zoom, але ўсё гэтыя рэчы былі эпізадычнымі і не асноўнымі. Канешне, у той час гэтыя першыя анлайны здаваліся крыху дзіўнымі і нязграбнымі, але цяпер я магу з упэўненасцю сказаць, што менавіта тады мы пачалі вучыцца карыстацца інструментамі, якія пазней нам спатрэбіліся».*

Але неабходная «міграцыя» ў анлайн не заўсёды





праходзіла гладка. Бо шматлікія каманды былі наўпрост не гатовыя да татальнай лічбавай транфармацыі. Таму казаць пра нейкую комплексны і паспяховы «пераход» нельга. Былі спробы, але пакуль супольнасць НДА так і не знайшла нейкага ўніверсальнага, адэкватнага і зручнага механізму, які б быў раўнасільны афлайну.

Сёння, для таго каб застацца «ў полі», прыцягнуць увагу і захапіць аўдыторыю, мэнэджэры і мэнэджэркі павінны быць больш гнуткімі і асвойваць сучасныя медыямеханізмы (падкасты, відэа, апытанкі), карыстацца візуальнымі і інтэрактыўнымі інструментамі, спрабаваць новыя прадукты, вывучаць публіку, каб будаваць зразумелыя і яркія сувязі, ды вымушана канкураваць з буйнымі пастаўнікамі забаўляльнага кантэнту. Такім чынам, перад НДА адкрылася ніша, якая актуалізавала патрэбнасць у развіцці медыя- і камп'ютарнай-пісьменнасці, патрэба ў пошуку асобных спецыялістах і спецыялістак.






**Андрэй Сушко, Human Constanta, праваабаронца:**
*«Лічбавая трансфармацыя і пераход у анлайн — гэта не інструментальны пераход, — гэта не пра zoom і папулярныя анлайн-інструменты, — гэта пра пераасэнсаванне працэсаў: унутранай і знешняй камунікацыі, мэнэджмэнта, працы з мэтавай аўдыторыяй. Мне падаецца, што цяпер мы спрабуем гэта рабіць, і не толькі мы, але я не бачу нейкага якаснага пераходу. Гэта, умоўна, як школа, якая робіць дыстанцыйныя заняткі: тыя самыя ўрокі толькі з камерай. Не. Трэба правесці комплекс задач па змене методыкі, інструментаў і падыходаў. Трэба цалкам пераасэнсаваць працэс, а не проста ўключыць камп'ютар».*

Разам з тым, сыход у анлайн апынуўся добрай глебай для фарміравання бяспечнага асяродку, новых супольнасцей і камунікацыйных прастор (без бюракратычных перашкод, дазволаў, арэнды). Арганізатарам і арганізаткам сёння не трэба думаць, як прыцягнуць на мерапрыемствы ўдзельнікаў і ўдзельніц з іншых гарадоў, бо цяпер вельмі проста сабрацца разам перад кап'ютарамі і не марнаваць час на «дарогу».

**Валерыя Валкагонава:**
*«У мяне няма адназначнага адказу, ці будзе анлайн зручным заўсёды. Напрыклад, з моладдзю немагчыма працаваць у анлайне ўвесь час. Тут неабходна шукаць комплексныя падыходы, дынаміку, бо афлайн робіць адчуванне еднасці і прычынення да чагосьці агульнага,*

# Грамадскія арганізацыі асвойваюць анлайн

*плюс, афлайн мерапрыемствы дапамагаюць наладзіць нефармальныя сувязі і робяць атмасферу больш лаяльнай. Так, ёсць праекты, дзе анлайн нават дапамог арганізацыям сабраць аўдыторыю, але таксама існуюць прыклады, калі людзі не прымалі ўдзел у мерапрыемствах, бо не валодалі анлайн-інструментамі, з-за чаго адчувалі сябе ізгоямі, ці не маглі абмяркоўваць нейкія пытанні дома».*

Важнай асаблівасцю пераходу НДА ў анлайн стала хуткае перафарматаванне дзейнасці і адэкватны адказ на выклікі: арганізацыі сталі больш якасна выкарыстоўваць механізмы SMM і медыя, з’явіліся яркія ініцыятывы (напрыклад, культурніцкі цэнтр «Корпус», разам з Беларускім нацыянальным моладзевым саветам «РАДА» і Radio Plato зрабілі праект экстранай дапамогі для сацыякультурных арганізацый COvision, які дапамагаў рабіць якасны аўдыё- і відэакантэнт, у сваю чаргу adukacuja. info запусціла праект «Пазакласная гадзіна» для навучальных установ і арганізацый трэцяга сектара), а актывісты і актывісткі пачалі дапамагаць адзін аднаму. Так каманда Офісу еўрапейскай экспертызы і камунікацыі адна з першых пачала дапамагаць калегам і каляжанкам, прапаноўвала новыя механізмы працы. Але пытанне, наколькі тэхналогіі дапамагаюць палепшыць (ці захаваць) эфектыўнасць, да гэтага часу застаецца адкрытым.

Пакуль невядома, як будзе складвацца сітуацыя з каронавірусам і палітычнымі абставінамі, але ўжо цяпер зразумела, што грамадскія арганізацыі, нават калі і вернуцца ў афлайн, будуць працягваць карыстацца анлайнам, шукаць баланс і выбіраць зручны для задач фармат.

**Валерыя Валкагонава:**
*«Спачатку шмат людзей не хацелі сыходзіць у анлайн. А думалі перачакаць, але вось прайшоў год і скептыкаў усё меней. Напэўна гэта звязана з рознай хуткасцю рэакцыі, з асаблівасцямі асобных НКА, іх механізмамі працы і мэтавымі аўдыторыямі. І тут ніхто не лепшы і ніхто не горшы, кожная арганізацыя сама робіць высновы, пераглядае місію і падыходы».*

**Андрэй Сушко:**
*«Для мяне, як для чалавека, які працуе з лічбавай трансфармацыяй, бачна, што спачатку ўсім падавалася, што анлайн — гэта на некалькі месяцаў. І вельмі класна сядзець дома і ўдзельнічаць у розных мерапрыемствах, запрашаць гасцей, цікавых спікераў і спікерак. Але хутка гэта адчуванне сышло, людзі стаміліся ад бясконцых стрымаў, анлайн-прадуктаў і івэнтаў, і, калі трэба было вырашыць, у чым удзельнічаць, вырашалі не ўдзельнічаць наогул. Бо ўсё змазалася ў адзін вялікі zoom. Што рабіць з гэтым? Даследаваць аўдыторыю, шукаць падыходы, бо ў Беларусі яшчэ ніклі не было столькі людзей, якіх б цікавіла праца трэцяга сектару».*

COvision

# Выбух актыўнасці лакальных супольнасцей

Калі раней сацыёлагі і ўрбаністы казалі пра заняпад мясцовых супольнасцей і адзначалі стрыманае і насцярожанае стаўленне грамадзян да лакальных ініцыятыў і гарызантальных актыўнасцей, то цяпер назіраецца выхад людзей за рамкі звыклага шаблону «дом-праца-дом». Жыхары больш не хочуць аддаваць прэрагатыву «штосьці вырашаць» і «несці за гэта адказнасць» ЖЭСам і іншым дзяржаўным структурам, а самі намагаюцца ўплываць на тое, што адбываецца. Мясцовая супольнасць перастала быць расплывістым і малафункцыянальным паняццем, а факт прыналежнасці да яе стаў відавочным і важным.



**Марыша Корж, актывістка:**
*«Звычайна ў мясцовых супольнасцях было толькі некалькі дзейных людзей, якія хацелі зменаў. НДА прыходзілася працаваць менавіта з імі, каб пасля гэтыя актывісты і актывісткі, ведаючы лакальныя асаблівасці, самі мадэлявалі мясцовую супольнасць: запрашалі суседзяў на сустрэчы, распавядалі, што адбываецца і што можна зрабіць разам. Але не заўсёды штосьці атрымлівалася, бо людзі, у асноўным, былі вельмі раз'яднаныя — тыя самыя шматпавярховікі без таварыстваў уласнікаў. Таму тое, што здарылася ў 2020-м — гэта суперкрута. Цяпер на актывістаў і актывістак не глядзяць, як на тых, каму больш за ўсіх трэба, наадварот, з'явіўся трэнд на актывізм. Трэнд клапаціцца аб сваёй тэрыторыі і адзін пра аднаго».*



*Дваровыя канцэрты з кавай і цукеркамі ды лекцыі пра правах чалавека, пратэстныя акцыі і лакальная самаідэнтыфікацыя — выбух актыўнасці мясцовай супольнасці ў 2020 годзе стаў сапраўдным маркерам фармавання грамадзянскага сектара ў Беларусі. І справа тут не толькі ў тым, што «людзі нарэшце пазнаёміліся са сваімі суседзямі», а ў агульным разуменні магчымасці пераменаў у краіне, якія пачынаюцца з салідарнага аб'яднання «на месцах» і залежаць ад кожнага чалавека.*



Выбух актыўнасці дваровых супольнасцей так ці інакш звязаны адразу з некалькімі фактарамі. Па-першае, важную ролю адыгралі падзеі, якія адбываліся ў Беларусі пасля 9 жніўня, калі палітычныя пытанні выйшлі на шырокую аўдыторыю і закранулі амаль кожнага чалавека. Па-другое, з'явіліся незалежныя і незаангажаваныя каналы для камунікацыі і абмену інфармацыі — тыя самыя тэлеграм-чаты, суполкі ды боты. Таксама людзей аб'ядноўвала жаданне зменаў і адчуванне салідарнасці, якой не было раней. У грамадстве знікла стыгма, што «зрабіць нешта знізу немагчыма», наадварот, замест страху і пэўнай






абыякавасці нарадзілася пачуццё ўласнай значнасці.

**Марыша Корж:**
*«Было бачна, што грамадства аб'яднаў агульны боль, які хутчэй быў звязаны з праблемамі ўсёй краіны, а не толькі з мясцовымі праблемамі. Менавіта тады людзі вырашылі, што Беларусі патрэбныя змены, і не «касметычныя» змены, а агульныя рэформы».*

Першымі прадвеснікамі будучага ўсплёску актыўнасці стаў адказ мясцовых супольнасцей на лакальныя выклікі (напрыклад, на праблемы з пітной вадой у Мінску ў чэрвені 2020-га, калі людзі дапамагалі пацярпелым раёнам і не чакалі падтрымкі ад гарадскіх уладаў) і на агульнасусветныя праблемы, у прыватнасці, пандэмію каронавіруса. Бо менавіта тады многія ўпершыню пачалі клапаціцца пра тых, хто жыве побач: друкаваць плакаты з парадамі бяспекі, шыць і распаўсюджваць маскі, хадзіць па прадукты для людзей сталага веку.



Але асноўнымі рысамі развіцця мясцовых супольнасцей, безумоўна, сталі дваровыя актыўнасці: людзі па ўсёй краіне пачалі збірацца па вечарах разам, абмяркоўваць актуальныя падзеі, піць гарбату, арганізоўваць канцэрты, лекцыі і імпрэзы. А музыкі, гісторыкі, пісьменнікі, пісьменніцы, актывісты і актывісткі сталі дапамагаць людзям ладзіць гэтыя лакальныя мерапрыемствы. Такім чынам, дзякуючы новым пляцоўкам для камунікацыі адбылася шырокая актывізацыя і салідарызацыя грамадства.

НДА таксама падтрымалі лакальныя актыўнасці. Напрыклад, «Экадом» і «Мінская ўрбаністычная платформа» прапанавалі грамадзянам свае напрацоўкі, а «Лятучы ўніверсітэт», назіраючы за тым, як жыхары двароў шукаюць спікераў і спікерак на сустрэчы, правёў «Лятучыя лекцыі» — адкрытыя размовы з вядомымі навукоўцамі, экспертамі і эксперткамі. Мерапрыемствы сталі водгукам інтэлектуальнай супольнасці на абуджэнне грамадскай актыўнасці ў краіне. У сваю чаргу, кампанія «Годна» збірала інфармацыю пра тое, што патрэбна дварам, і дапамагала тэхнічным абсталяваннем. Вялікі ўнёсак, безумоўна, зрабілі і асобныя актывісткі і актывісты, якія ўжо мелі арганізацыйны вопыт і з задавальненнем ім дзяліліся.



**Настасся Долюшка, актывістка:**
«Мы, як прадстаўнікі і прадстаўніцы НДА, адчулі вялікі запыт на тое, што робім. Было зразумела, што, нарэшце, мы выйшлі на аўдыторыю, якой было цікава амаль усё. І не таму, што людзі нечага не ведалі

# Выбух актыўнасці лакальных супольнасцей

і былі неадукаванымі, наадварот, адчувалася вялікая прага да новай інфармацыі, творчы ўздым, які выліўся ў кантакт паміж грамадствам і НДА».

Але дзейнасць лакальных супольнасцей не скончылася на канцэртах і каве, хутка фармат вулічных сустрэч пераўтварыўся ў адзін з галоўных лакаматываў пратэстнай актыўнасці. Людзі пачалі падтрымліваць палітвязняў, пісаць лісты ў турмы, рабіць акцыі салідарнасці са зняволенымі, затрыманымі і забітымі (напрыклад, стыхійныя мемарыялы Раману Бандарэнка, акцыі салідарнасці з Арцёмам Сарокіным і журналісткай Кацярынай Барысевіч).

**Настасся Долюшка:**
*«Пасля смерці Рамана Бандарэнка быў вельмі напружаны час. Нават выхад у свой двор мог скончыцца затрыманнем, бо тады ўжо быў уведзены так званы «падзел на актыўныя зоны» (туды ўвайшлі Плошча Перамен, плошча Марыі Калеснікавай, ЖК «Каскад» і інш). Канешне, дварам у той час было зусім не да канцэртаў, бо месца сцэны цяпер займалі стыхійныя мемарыялы па забітым».*

**Марыша Корж:**
*«Улада робіць вялікую памылку, бо з-за рэпрэсій людзі сталі больш узаемадзейнічаць і перасталі баяцца. Узгадаю нават выпадак, калі жыхары Плошчы Перамен хавалі незнаёмых людзей у сваіх кватэрах. На фоне бесперапыннага ціску з боку ўладаў, людзі пачалі шырэй выкарыстоўваць даступныя прававыя механізмы: прымаць агульныя рашэнні, адклікаць дэпутатаў. Пачалі давяраць адзін аднаму, не ігнараваць тыя самыя дваровыя чаты, а наадварот, шукаць іх, і гэта цікавы феномен, які трэба даследаваць. Думаю, у будучыні, мясцовыя супольнасці пачнуць больш фармалізавацца і будуць выбудоўваць новыя правілы ўзаемадзеяння, але, безумоўна, сталай камунікацыі паміж імі ўжо не атрымаецца. Мяркую, што застанецца супрацоўніцтва, але эмоцыі і энергія сціхне».*
Відавочна, што нягледзячы на прэсінг з боку ўлады, лакальныя супольнасці не знікаюць, а наўпрост змяняюць формы актыўнасці і сыходзяць у анлайн.

**Марыша Корж:**
*«Я думаю, што НДА змогуць быць мадэратарамі паміж удзельнікамі розных мясцовых супольнасцей. Верагодна, нават можа з'явіцца новая арганізацыя, якая будзе іх аб'ядноўваць. Калісьці праводзілася даследаванне, падчас якога задавалася пытанне мінакам: «Хто павінен вырашаць мясцовыя праблемы?». Тады толькі 7-10% адказалі, што гатовыя самі прымаць рашэнні. Але цяпер сітуацыя змянілася, і трэба рабіць новую апытанку».*

# Краўдфандынг і (ня) устойлівасць арганізацый



Для многіх арганізацый трэцяга сектара 2020 год быў падобны на палёт у самалёце, які трапіў у зону турбулентнасці. Трэсла так, што казаць даводзілася ўжо не пра рэалізацыю задуманых праектаў і планаў, а наогул пра магчымасць працаваць далей. Эпідэмія каронавіруса, палітычны крызіс, закрыццё краўдфандынгавых пляцовак і змены ў заканадаўстве так ці інакш ударылі па фінансавай устойлівасці некамерцыйных арганізацый (НКА). Аднак новыя выклікі — гэта вопыт, а любы вопыт трэба асэнсаваць для поспехаў у будучыні.

*Летась значна змяніўся стан фінансавай устойлівасці НКА. Калі коратка - усё стала горш. Прычым не толькі ва ўмоўных «аб'ёмах» сродкаў, але і ў дасяжнасці крыніц фінансавання, а таксама ў інфраструктуры для легальнага збору грошай. Беларускі краўдфандынг, які яшчэ ў пачатку 2020 мог пахваліцца сваёй эфектыўнасцю, напрыканцы года практычна знік.*

Азіраючыся назад, бачна, што першым выклікам, які прадвызначыў развіццё грамадзянскай супольнасці, стаў каронавірус. З пачаткам пандэміі значная плынь донарскай, прыватнай і нават дзяржаўнай падтрымкі пайшла на пераадоленне наступстваў COVID-19. Барацьба з вірусам як прыярытэт, а таксама агульны спад эканамічнай актыўнасці паўплывалі на зніжэнне фінансавых паступленняў для арганізацый трэцяга сектара. Таксама паменшылася падтрымка ад бізнесу. У выніку многія НКА былі не ў стане рэалізоўваць запланаваную дзейнасць.

Разам з тым, каласальны поспех дэманстравалі ініцыятывы экстранай дапамогі. Напрыклад, BYCOVID-19, якая вясной 2020-га збірала рэкордныя сумы ахвяраванняў для медыкаў, што дазволіла грамадзянскай супольнасці зрабіць вялікі ўнёсак у пераадоленне наступстваў першай хвалі пандэміі.



**Юры Чавусаў, палітолаг:**
*«У першай палове 2020 года, калі выбухнула пандэмія, краўдфандынгавыя пляцоўкі прадэманстравалі высокую аператыўнасць, здольнасць хутка і гнутка рэагаваць на новыя патрэбы. Рэакцыя з боку прыватных і дзяржаўных крыніцаў фінансавання была менш аператыўная, яны відавочна не паспявалі за надзвычайнай патрэбай вельмі хутка пераразмеркаваць бюджэты. Донары, нават у пандэмію, былі больш інертнымі і менш мабільнымі. Апроч таго, адбыўся сусветны спад эканамічнай дзейнасці — сродкаў на рахунках прадпрыемстваў стала менш, адпаведна, яны сталі аказваць менш спонсарскай дапамогі».*

У цені поспеху краўдфандынгавых пляцовак засталіся многія







дабрачынныя арганізацыі і сацыяльныя ініцыятывы. Дзяржава не спяшалася падтрымліваць эканоміку ў перыяд пандэміі, а ўсе бонусы і льготы (у выглядзе зніжэння кошту арэнды або падаткаў для камерцыйных арганізацый) апынуліся недаступнымі для НКА.

Другі выклік - гэта палітычны крызіс, адным з вынікаў якога стала блакіроўка і закрыццё паспяховых краўдфандынгавых пляцовак «MolaMola» і «Ulej». Гэтыя сэрвісы былі тварам таго буму краўдфандынгу, пра які раней казалі ў Беларусі. Асаблівай папулярнасцю карыстаўся «MolaMola», які дэманстраваў вялікі рост на пачатку пандэміі COVID-19, дазваляючы збіраць сродкі на праекты ва ўмовах неспрыяльнага заканадаўства.

Краўдфандынг з унутраных крыніц, які ў апошнія гады стаў важным складнікам фінансавай устойлівасці арганізацый грамадзянскай супольнасці, у другой палове года знік як сістэмны інструмент.

**Юры Чавусаў:**
*«Тэматычны пераход збораў ад кавіда да палітычных пытанняў заняў прыкладна паўтара месяца. Ужо ў ліпені мы апынуліся ў новай рэчаіснасці. Фактычна гэта паўтара месяца ад вялікіх краўдфандынгавых поспехаў да поўнай ліквідацыі «MolaMola» і «Ulej». Краўдфандынгавая пляцоўка «Талака» квола спрабуе аднаўляцца, але цяпер яна ўжо не грае значнай ролі. А праект новай краўдфандынгавай пляцоўкі ад Белгазпрамбанка «Выстаўленне рахункаў» значна менш прасунуты, чым страчаныя сэрвісы».*



Разам з тым, у культурніцкім сектары назіраўся каласальны ўздым, які стаў рэакцыяй на падзеі, якія адбываліся ў краіне. Палітычныя абставіны сталі трыгерам да з'яўлення стыхійных праектаў, якія ўзнікалі, каб хутка вырашаць кропкавыя пытанні з дапамогай новых тэхналогій і крэатыўнага падыходу. Для такіх праектаў грошы можна сабраць і без дадатковых пляцовак, але важна паказаць, што нешта ўжо робіцца і без сродкаў.



**Павел Белавус, каардынатар грамадскай кампаніі «Годна»:**
*«Калі ёсць пэўная аўдыторыя і аўтарытэт, то нават праз персанальныя старонкі можна знайсці донараў і спонсараў. Галоўнае — шукаць альтэрнатыўныя каналы фінансавання. Напрыклад, цяпер шмат падзей робяцца ў анлайне, таму і збор сродкаў часцяком адбываецца ў анлайне. Напрыклад, мы, калі запускаем нейкі канцэрт, то далучаем спецыяльны сэрвіс данатаў. Так глядач можа літаральна «набыць квіток» на мерапрыемства, якое ўжо адбываецца».*

Развіццё і ўзмацненне палітычнага крызісу прывяло да таго, што ў краіне пачалася новая хваля збору сродкаў, цяпер грошы збіралі ўжо на дапамогу людзям, якія пацярпелі

# Краўдфандынг і (ня)устойлівасць арганізацый

ад рэпрэсій і парушэнняў правоў чалавека. Важнай асаблівасцю стала тое, што ўсё ажыццяўлялася праз замежныя пляцоўкі і сацыяльныя сеткі (Фэйсбук) з дапамогай беларускіх ініцыятываў, якія знаходзяцца за мяжой. Улада дыскрэдытуе гэтыя механізмы, а ў шэрагу выпадкаў прыватныя банкаўскія рахункі грамадзян, якія атрымлівалі дапамогу, былі заблакаваныя. Але грамадскія праекты не перастаюць шукаць новыя шляхі пошуку фінансавання.

**Павел Белавус:**
*«У «Годна», напрыклад, мы спрабуем абсалютна розныя накірункі па збору сродкаў: Фэйсбук-данаты, спонсарскія падпіскі ў Youtube. Апошнія, хоць і прыносяць мала грошай, але з'яўляюцца абсалютна легальным механізмам. Краўдфандынг — гэта ж тыя самыя прыватныя ахвяраванні, аформленыя ў прыгожы кейс. Тое самае можна рабіць і на асабістых старонках з дапамогай прэзентацый і далучэння сэрвісаў па збору сродкаў».*

Стабільна кепскім застаецца доступ да замежнага фінансавання для НКА: новая рэдакцыя дэкрэту № 3 «Аб замежнай бязвыплатнай дапамозе» пакінула сістэму, калі любая замежная дапамога трэцяму сектару патрабуе рэгістрацыі ды абкладаецца падаткам, а сродкі можна атрымоўваць толькі на абмежаваны пералік мэтаў. А многія НКА сутыкнуліся з праверкамі з боку профільнага Дэпартамента па гуманітарнай дзейнасці, МУС і падатковых органаў.

Таксама ў маі 2020 года былі ўнесеныя папраўкі ў закон аб барацьбе з адмываннем грошай і фінансаваннем тэрарызму, якія абавязваюць грамадскія аб'яднанні і фонды публікаваць справаздачы аб сваёй дзейнасці і аб сваіх бюджэтах.

**Юры Чавусаў:**
*«Увядзенне публічнай фінансавай справаздачнасці для НКА можна было б вітаць, калі б яно адбывалася ў звычайных умовах, а не на фоне шматлікіх крымінальных справаў і праверак НКА. Ужо ў 2020 годзе некаторыя арганізацыі сутыкнуліся з праверкамі з боку ўладаў, іншыя абвінавачваюцца ў парушэннях датычна атрымання альбо расходавання фінансавых сродкаў: дабрачынная арганізацыя «Палеская дабрыня» (у выніку была ліквідаваная), Гарадзенскі дзіцячы хоспіс, Офіс па правах людзей з інваліднасцю, Прэс-клуб. Калі абагульняць, то ўмовы існавання і фінансавая ўстойлівасць арганізацый цягам 2020 года пагоршыліся. На гэта паўплывалі і фінансава-эканамічны крызіс, і пандэмія каронавіруса, і палітычныя ўмовы. Інструментаў для збору грошай стала менш, а замежныя інструменты могуць быць таксічныя і павялічваюць рызыкі для арганізацый. Тым НКА, якія хочуць развівацца, варта падумаць над дыверсіфікацыяй крыніцаў фінансавання, абапіраючыся на ўнутраныя ахвяраванні, спонсарскую дапамогу, паступленні ад аказання паслугаў».*

**Павел Белавус**:
*«У мяне няма песімізму. Бо галоўнае — гэта не грошы, а чалавечы рэсурс. Калі ў цябе ёсць добрая ідэя і цікавы праект, то ты знойдзеш падтрымку, якая дапаможа рэалізаваць задуманае. Апошнія 20 год паказалі, што ў Беларусі ёсць вельмі таленавітыя людзі, але, на жаль, таксама існуе і сістэма, якая намагаецца задавіць усе альтэрнатыўныя памкненні і актыўнасці. Таму цяпер нам трэба трымаць галаву свежай і не паддавацца на правакацыі, станавіцца больш разважлівымі і не даваць страху перамагчы».*

# Культурная салідарнасць

Адным з выклікаў стала першая хваля COVID-19 у пачатку 2020 года. Шматлікія ўстановы былі вымушаныя браць паўзу ў працы, галерэі часова зачыняліся для наведвальнікаў, мерапрыемствы і імпрэзы пераносіліся на невядомы тэрмін, але менавіта каронавірус стаў своеасаблівым «трамплінам» для развіцця культурніцкай салідарнасці.

Практычна адразу ў Беларусі пачалі з'яўляцца ініцыятывы, актывісты і актывісткі, якія працягнулі руку дапамогі незалежнай культуры. У межах кампаніі салідарнасці з культурнымі праектамі «Арт-праязны» праз краўдфандынг збіраліся грошы на падтрымку арганізацый і праектаў, якія пацярпелі ад вымушанага карантыну, а адмысловыя суполкі і старонкі ў сацыяльных сетках сталі месцамі продажу прац мастакоў і мастачак, а таксама пляцоўкамі новых форм камунікацыі паміж удзельнікамі (кампанія «Арт на каранціне», суполка «123»).

Асобна можна сказаць пра тое, як незалежныя культурніцкія ініцыятывы і арганізацыі дапамагалі грамадству падчас пандэміі каронавіруса. Напрыклад, галерэя сучаснага мастацтва «Ў» бясплатна перадала сваё памяшканне пад склады для валанцёрскай ініцыятывы ByCovid19, якая збірала



*Беларуская культура, якая ў апошнія гады знаходзілася ў стане перманентнай стагнацыі, у 2020 годзе сутыкнулася адразу з двума вялікімі выклікамі — пандэміяй каронавіруса і грамадска-палітычным крызісам, які ўзмацніўся пасля прэзідэнцкіх выбараў у жніўні. Здавалася б, паўсюднае закрыццё пляцовак і галерэй, рэпрэсіі ды прэсінг у адносінах да дзеячаў і дзеячак мастацтва, павінны былі канчаткова разбурыць культурнае поле краіны, аднак усё атрымалася якраз наадварот. Праблемы аб'ядналі людзей і сталі своеасаблівым каталізатарам для з'яўлення феномену «культурнай салідарнасці» у Беларусі.*




дапамогу для беларускіх медыкаў: на некаторы час карціны і інсталяцыі замянілі скрынкі з маскамі і рэспіратарамі. Мастакі і мастачкі таксама не засталіся ў баку і правялі анлайн-аўкцыён «Дзякуй» у падтрымку ўрачоў. У сваю чаргу музыкі зладзілі шэраг анлайн-канцэртаў па збору сродкаў для пацярпелых ад пандэміі, напрыклад, гурт Naviband дапамагаў людзям з дамоў-інтэрнатаў. А культурніцкі цэнтр «Корпус» разам з Беларускім нацыянальным моладзевым саветам «РАДА» і Radio Plato запусцілі праект COvision — афлайн-пляцоўку, якая дапамагала сацыякультурным арганізацыям зрабіць якасны аўдыё- або відэакантэнт.







**Валянціна Говар, арт-менеджэрка:**
*«Гэта быў цэлы трэнд першай хвалі каронавіруса — набываць мастацтва. Выкажу меркаванне: з-за таго, што ўсе сталі сядзець дома, культура спажывання пацярпела змены і мастацтва раптам стала карыстацца попытам у тых людзей, якія раней не заўважалі яго. Так, гэтаму спрыялі новыя пляцоўкі і дыджыталізацыя ў падыходзе да распаўсюду інфармацыі, але і аўдыторыя стала больш успрымальнай да такога кантэнту».*

Але 2020-ы характэрызуецца яшчэ і палітычнымі абставінамі, якія значна паўплывалі на культурніцкае поле краіны.

Водападзелам паміж двума хвалямі культурніцкай салідарнасці можна лічыць арышт мастацкай калекцыі «Белгазпрамбанка». Акцыі, такія як выстава QR-кодаў «Здабытак» («Достояние») замест арыштаванай калекцыі, публічныя выказванні і актыўнасці, якія адбыліся адразу пасля арышту, не спыніліся на цішотках з выявай «Евы» Хаіма Суціна, а наадварот, сталі чарговым вітком у справе аб'яднання грамадскасці.



**Валянціна Говар:**
*«2020 год можна адзначыць таксама як год усплёску крэатыўнасці. Вельмі шмат з'явілася незалежных праектаў, доўгатэрміновых або кароткатэрміновых (у асноўным кароткатэрміновых, многія з якіх з'явіліся рэакцыяй на падзеі вакол), у асноўным акцыяністскіх, якія сталі адказам на ўсё тое, што адбываецца ў нашай краіне».*

Падзеі жніўня і палітычны крызіс толькі павялічылі градус супрацьстаяння знешнім выклікам. Людзі пачалі наноў адкрываць для сябе беларускую культуру і далучацца да яе - праз дваровыя канцэрты ды небывалую раней хвалю пратэстнага крэатыву з яго плакатамі, вершамі, крычалкамі, песням і вобразамі.

Усё гэта неверагодна прастымулявала творчы патэнцыял і ўнутраную свабоду грамадзянскай супольнасці. Бо, калі параўноўваць, за апошнія 10 год не ствáралася столькі разнастайнага кантэнту, колькі з'явілася цяпер, і які можа лічыцца маркерам развіцця незалежнага мастацтва.



**Сяргей Будкін, кіраўнік Беларускага фонда культурнай салідарнасці:**
*«Усе гэтыя падзеі дазволілі беларусам адчуць саміх сябе беларусамі. Цяпер дакладна зразумела, што большасць не ведала саміх сябе і існавала збольшага ў расійскім культурным полі. Але пасля жніўня ва ўсіх з'явілася*

# Культурная салідарнасць

*цікавасць да айчыннага кантэнту і айчынных артыстаў. Напрыклад, калі на вулічных канцэртах людзі дзякавалі музыкам і казалі, што ўпершыню даведаліся пра іх, а гуртам, што выступалі, больш за 5-10 год, то гэта добра дэманструе, што раней беларуская культура вельмі часта існавала па-за інтарэсамі шырокай публікі».*

Прэсінг з боку ўладаў таксама стаў прыступкай да развіцця культурніцай салідарнасці ў Беларусі. Пасля закрыцця ОК16, фактычнага знішчэння Купалаўскага тэатра і ціску на арганізацыі, шматлікага сыходу дзеячаў культуры з дзяржаўных арганізацый, шмат актораў, акторак, менеджараў і менеджэрак засталіся без сродкаў да існавання, але разам з тым апынуліся ў сітуацыі, калі можна пачынаць рабіць нешта самастойна.

Так з'явіліся, напрыклад, незалежныя і папулярныя праекты — «Купалаўцы», «Чын-Чын Чэнэл», «Маляваныч», «Артысты Перамогі», — якія сталі своеасаблівым адказам на тое, што адбываецца ў дзяржаве. У некаторым сэнсе культура змяніла вектар спажывання — знаходзячыся ў хісткім становішчы, яна, перайшоўшы ў інтэрнэт, здолела прыцягнуць да сябе новую аўдыторыю, а дзеячы і дзяячкі культуры пачалі актыўна падтрымліваць адзін аднаго. Ды і самі людзі паступова перастаюць думаць пра культуру, як пра нешта сумнае і, часцей за ўсё, бясплатнае. Калі раней людзі былі не гатовыя плаціць, укладацца і дапамагаць, то цяпер сітуацыя змянілася.

**Валянціна Говар:**
*«Наогул, культурніцкая супольнасць вельмі згуртавалася. Як ніколі проста стала звярнуцца па дапамогу да калег і каляжанак. Але калі вакол некаторых падзей сёння можна бачыць вялікую салідарнасць, ёсць і тыя падзеі, якія ніхто не заўважыў. Цяпер мы ў той кропцы, калі кепска ўсё татальна. А змены, адмены і пераносы — гэта знакавыя словы для 2020-га. Шмат што ў культурніцкім жыцці не адбылося, бо мы самі змяняем фокус і кажам: «Цяпер не час. Цяпер трэба вырашаць іншае пытанне».*

**Сяргей Будкін:**
*«Пасля вялікага ўздыму культуры ў 90-я, безумоўна, былі розныя перыяды, але ў цэлым інтарэс быў даволі роўным. А вось са з'яўленнем сацыяльных сетак інтарэс да беларускай культуры стаў знікаць, наша культура проста не вытрымлівала канкурэнцыі з тымі ж самымі расійскімі прадстаўнікамі. Таксама не забывайцеся, што ў нас даволі мала кантэнту для дзяцей. І наогул, няма добрых спонсараў, якія б укладаліся і дапамагалі «раскруціцца». Спадзяюся, хутка гэта сітуацыя памяняецца і нацыянальны культурны рынак адбудзецца. Цяпер жа мы са спазненнем праходзім шлях, па якому ішлі амаль усе краіны былога СССР, калі атрымалі незалежнасць».*

Асобна можна адзначыць працу Фонда культурнай салідарнасці, які намагаўся розным чынам прыцягнуць увагу да існуючых праблем і спрыяць салідарнасці. Каманда Фонду ладзіла канцэрты, лекцыі, анлайн-аўкцыёны ў падтрымку дзеячоў культуры, звязвалася з міжнароднай супольнасцю, каб распавесці пра тое, што адбываецца ў Беларусі, развівала новыя медыя і аказала наўпроставую дапамогу больш за 360 дзеячам і дзяячкам культуры.

*«Новая культура ствараецца тут і цяпер, проста на нашых вачах. Ад беларусаў сыходзіць неймаверная стваральная энергія, якую немагчыма згасіць рэпрэсіямі. І мы бачым сваёй мэтай падтрымаць творцаў, даць адчуць ім самім сваю запатрабаванасць, спрыяць генераванню ідэй, развіваць міжнародную супрацу і прасоўваць беларускую культуру як унутры, так і па-за межамі нашай краіны».*

# Актыўнасць людзей спорту




Мадэль існавання беларускага спорту да 2020-га складалася, за выключэннем нешматлікіх прыватных клубаў, толькі з двух складнікаў: спартсменаў і дзяржавы, прычым апошняя была безальтэрнатыўным манапалістам у пытаннях фінансавання. У такіх умовах спартовая сістэма станавілася даволі ідэалагізаваным месцам, дзе, для таго, каб атрымаць стыпендыю ці падтрымку, трэба было праяўляць лаяльнасць, а ўсе медалі і перамогі з'яўляліся не больш чым інструментам для прасоўвання іміджу «паспяховай» краіны.

Але ў 2020 годзе ўсё змянілася, вялікая група спартсменаў, нягледзячы на падпарадкаванае становішча, адважыліся выказаць сваё меркаванне адносна падзей, якія адбываліся ў Беларусі: фальсіфікацый, гвалту і палітычнага крызісу.

*Здавалася, што перанос Алімпіяды ў Токіа стане самай заўважнай падзеяй 2020 года, але беларускія спартсмены і спартсменкі здзівілі ўсіх так, што нават сусветнае спаборніцтва адышло на другі план. Прадстаўнікі і прадстаўніцы спорту часова забыліся пра супрацьстаянне і канкурэнцыю і, аб'яднаўшыся разам, адной камандай выступілі на абарону справядлівасці, годнасці ды правоў чалавека. Стаў актуальным такі тэрмін як «спартыўная салідарнасць». Што гэта? Аб усім па парадку.*



**Зміцер Панкавец, намеснік галоўнага рэдактара «Нашай Нівы»:**
*«Шмат хто пацярпеў ад таго, што пачаў выказваць сваё меркаванне і пратэставаць. Самы яскравы прыклад - гэта звальненне фрыстайлісткі Аляксандры Раманоўскай, нават рэгаліі чэмпіёнкі свету не сталі перашкодай, каб пазбавіць яе працы. Таксама скасавалі стыпендыю Мікалаю Казека — аднаму з самых выбітных трэнераў фрыстайлістаў, чалавеку-глыбе, які дапамагаў прывозіць медалі з алімпіяд».*






**Валдзіс Фугаш, удзельнік каманды Human Constanta:**
*«20 гадоў жыцця ў сістэме сталі людзям папярок горла. Накапілася шмат крыўдаў, людзі цярпелі, але летам 2020-га пабачылі магчымасць нешта змяніць. Дзякуючы медыяпляцоўкам і ініцыятывам, спартсмены і спартсменкі здолелі пабачыць адзін аднаго. Акрамя таго, моцным каталізатарам сталі падзеі 9-13 жніўня, якія больш не дазвалялі знаходзіцца далёка ад палітыкі. Жудасць і тэрор адчуў кожны, і шмат хто сам пацярпеў ад катаванняў і прэсінгу».*






Спартсмены і спартсменкі пачалі выходзіць на мірныя акцыі і гуртавацца ў адмысловых чатах і на медыяпляцоўках. Людзі выходзілі на пратэсты, але таксама пачалі шукаць іншыя механізмы для выказванняў, напрыклад, быў створаны знакаміты «Ліст супраць гвалту», які аб'яднаў не толькі прадстаўнікоў спорту, але і спартовых менеджэраў ды экспертаў, а футбалісты Вышэйшай лігі запісалі відэа-зварот «Мы супраць гвалту». Праз гэта пачаўся працэс інстытуалізацыі, вынікам якога стала стварэнне Беларускага фонду спартыўнай салідарнасці.

**Зміцер Панкавец:**
*«Фонд спартыўнай салідарнасці, перш за ўсё, дапамагае спартсменам, якія апынуліся ў цяжкім становішчы. Напрыклад, бягунцы Святлане Кудзеліч, якую летась выкінулі са зборнай, Фонд аплаціў зборы ў Кеніі: цяпер Святлана можа рыхтавацца да марафону. І гэта не адзіны выпадак. Відавочна, Фонд падтрымліваюць актывісты, актывісткі і НКА, бо гэта ж новыя людзі ў грамадзянскай супольнасці і без дапамогі ім было б цяжка быць такімі эфектыўнымі».*




**Валдзіс Фугаш:**
*«Фонд спартыўнай салідарнасці — гэта цікавы прыклад таго, як людзі, якія ніколі не займаліся некамерцыйнай сферай, змаглі запусціць новае і эфектыўнае НКА, бо мелі неверагодны досвед каманднай працы і камунікацыі. Натуральна, іх праца крыху адрозніваецца ад звыклых нам механізмаў, але ўсё дзейнічае і ўжо цяпер Фонд стаў важнай часткай грамадзянскай супольнасці».*

Асобна трэба адзначыць заўзятараў. Бачна, што людзі, якія цікавяцца спортам, выкарыстоўвалі нестандартныя механізмы для выказвання сваёй грамадзянскай пазіцыі. Так, можна ўзгадаць футбольных фанатаў, якія адным з першых асудзілі гвалт і пераслед - аб'явіўшы байкот матчам чэмпіянату Беларусі, заўзятары адмовіліся падтрымліваць клубы і наведваць матчы Вышэйшай лігі, пакуль людзей несправядліва саджаюць у турмы і збіваюць.

**Валдзіс Фугаш:**
*«Узгадаю выпадак, калі на праспекце Незалежнасці «трапілі пад раздачу» гульцы ФК «Крумкачы». Тады фанаты пачалі салідарызавацца. На матчы «Крумкачы»-«Дынама» ўсё трыбуны былі забітыя, бо ўсё прыйшлі заўзець за «Крумкачоў» ды і самі футбалісты зрабілі своеасаблівы перфоманс — каманда выйшла на размінку ў кашульках «Супраць гвалту», а пасля пачатку матчу гульцы 30 секунд не рухаліся — такім чынам спартсмены падтрымалі пацярпелых і затрыманых. Нешта падобнае адбылося і ў Салігорску, дзе падчас футбольнага*

# Актыўнасць людзей спорту

*матча тысячы прысутных заўзятараў пачалі скандаваць «Жыве Беларусь!». Зразумела, што хутка дзяржава адрэагавала і, узгадаўшы пра «кавід», цяпер праводзіць гульні амаль без гледачоў».*

Трыгерамі салідарызацыі таксама сталі затрыманні спартсменаў і спартсменак. Прынамсі, баскетбалісткі Алены Леўчанка і спартыўнай менеджэркі Вольгі Хіжанковай. Гэтыя падзеі выклікалі вялікую хвалю салідарнасці ў грамадстве і медыя. Людзі пачалі праводзіць флэшмобы і актыўна падтрымліваць пацярпелых у сацыяльных сетках. Прычым да гэтага далучыліся не толькі беларусы і беларускі, але і сусветна вядомыя «зоркі»: Алену Леўчанка падтрымаў баскетбаліст з Турцыі Энес Кантэр, гулец зборнай Італіі Гіоргія Соттана, чэмпіёнка Турцыі Эбоні Хофман, бельгійка Джулі Алеманд і яе суайчынніца Эма Місеман.

**Зміцер Панкавец:**
*«Але не ўсе спартсмены і спартсменкі аб'ядналіся разам супраць гвалту. Добры прыклад — гэта гісторыі лёгкаатлета Максіма Недасекава і параалімпійца Аляксея Талая, якія кажуць, што «нічога ў краіне не адбываецца», або Анастасіі Міронччык-Івановай, якая была абраная ў Прэзідыум Усебеларускага народнага сходу. Таксама цяпер дакладна вядома пра ціск на тых, хто не падпісваў праўладны ліст спартсменаў — некаторым пагражалі звальненнем і «войскам» — таму цяжка сказаць, што «там» існуе нейкі сталы ідэалагічны падмурак. Падаецца, усё, за рэдкім выключэннем, робіцца пад прымусам. Карацей, усе «ўсё разумеюць».*

**Валдзіс Фугаш:**
*«Праўладны ліст» — гэта чарговая нагода, каб кпіць і салідарызавацца. Нават фанаты гэта разумеюць, і кажуць, што тыя, хто падпіша ліст, заплямяць сваё імя. Ды і наогул, думаю, шмат хто проста не бачыць нейкай альтэрнатывы, бо быў узрошчаны ў сістэме, таксама шмат хто застаецца лаяльным, бо жыве на стыпендыі і наўпрост баіцца страціць працу».*

Не застаўся ў баку і аматарскі спорт, які, відавочна, не скаваны ніякімі абавязкамі, кантрактамі і стыпендыямі. Таму аматарам прасцей прасоўваць свабоду. ФК «Аўтазак», ФК «Крумкачы», футбольныя трэніроўкі Human Constanta — гэта толькі некаторыя прыклады спартыўных і каляспартыўных аб'яднанняў, якія папулярызуюць салідарнасць, дэмакратыю і правы чалавека.

**Зміцер Панкавец:**
*«Справа, відавочна, не толькі ў спартсменах ці заўзятарах, а ва ўсім грамадстве, якое адчула іншае стаўленне да сітуацыі і да сябе, убачыла працэсы, якія пачалі адбывацца вакол. Раней, напрыклад, таксама не выказваліся лекары, а цяпер і іх рух вельмі яскравы. Таму тое, што сёння мы бачым у спорце — гэта частка агульных змен, што адбываюцца ў Беларусі».*

# Масавыя акцыі




Два дзесяцігоддзі таму, 24 сакавіка 1996 года, тысячы людзей выйшлі на традыцыйны марш да Дня Волі. Свята праходзіла напярэдадні падпісання першых інтэграцыйных пагадненняў з Расіяй і вылілася ў серыю масавых акцый. Пазней гэтыя акцыі назавуць «Мінскай вясной», а 1996-ты доўгі час будуць лічыць самым пратэстным годам у гісторыі незалежнай Беларусі. Некаторыя аналітыкі нават казалі, што такога больш ніколі не паўтарыцца, але 2020-ты даказаў, што яны памыляліся.

У 2020 годзе змяніўся і фармат акцый, нараўне з ужо «класічнай» плошчай Бангалор і Курапатамі, сталі выкарыстоўвацца новыя лакацыі - стэла «Мінск — горад-герой», Камароўскі рынак, а таксама новыя зместы: дваровыя актыўнасці, канцэрты, флэшмобы (напрыклад, актывізацыя жанчын вакол арыштаванай карціны «Ева» Хаіма Суціна), і анлайны. Павялічылася выкарыстанне нацыянальнай сімволікі, а яшчэ паўсталі іншыя пратэстныя сімвалы - вышэй узгаданая «Ева», стужкі, кветкі, белыя бранзалеты і плакаты. Беларусь захліснула беспрэцэдэнтная хваля крэатыву і салідарызацыі ў грамадстве ды, на жаль, непрапарцыйны адказ улады на факты мірнага выкарыстання сваіх правоў.

Ланцугі салідарнасці, неверагодныя па колькасці ўдзельнікаў і ўдзельніц маршы, пікеты і «прагулкі», у якіх удзельнічалі прадстаўнікі і прадстаўніцы практычна ўсіх слаёў насельніцтва. Пенсіянеры, урачы і настаўнікі аб’ядналіся, каб разам удзельнічаць у мірных сходах і паказаць, што ў іх ёсць уласны голас ды ўласная грамадзянская пазіцыя.






**Наталля Сацункевіч, праваабаронца цэнтра «Вясна»:**

*«Калі параўноўваць 2019 і 2020 гады, то самае відавочнае адрозненне ў геаграфіі мірных сходаў: сёлета акцыі праходзілі не толькі ў буйных гарадах, а нават у мястэчках і вёсках. Акрамя таго, у разы павялічылася і колькасць пратэстаў. Напрыклад, толькі ў жніўні ў адным Мінску магло адбывацца больш за пяць розных акцый за дзень. Безумоўна, змянілася і рэакцыя ўлады. У 2019-ым мы амаль не бачылі крымінальных спраў за ўдзел у мірных сходах, а ў 2020-ым такіх спраў тысячы, і я яшчэ не кажу пра незлічоныя штрафы, суткі, выкарыстанне вадамётаў, гумавых куль і светашумавых гранат».*







**Вольга Шпарага, філосафка:**

*«Беларускае грамадства змянілася, прычым усім стала відавочна, што гэтыя змены выспявалі на працягу апошніх дзесяці гадоў, але раней у грамадзян не хапала салідарызацыі і рашучасці, каб заявіць пра гэта ў публічнай прасторы. І вось у 2020 годзе ўсё склалася. Найважнейшай перадумовай, нароўні з эрозіяй сацыяльнай дзяржавы і*

*арміраваннем невялікай праслойкі актыўнага сярэдняга класа, стала з'яўленне новых лідараў і лідарак, якія адрозніваліся ад папярэдніх прадстаўнікоў апазіцыі. А яшчэ калектыўных (аб'яднаны жаночы штаб і жаночыя маршы) і індывідуальных стратэгій — напрыклад, увасобленых у постацях Ніны Багінскай, Марыі Калеснікавай ці Вольгі Хіжанковай».*

Трыгерамі масавых акцый у Беларусі былі, у першую чаргу, эканамічныя праблемы і сітуацыя з каронавірусам. Дзяржава, праігнараваўшы эпідэмію, зрабіла так, што людзі пачалі разлічваць на свае сілы і зразумелі, што дзеля нейкіх змен трэба варушыцца. Таксама ў грамадстве ўзнікла адчуванне несправядлівасці і жаху ад жорсткасці ўлады.



У краіне спрацаваў новы фармат барацьбы за свае правы: «большасць можа зрабіць змены». Таксама пачалі актыўна выкарыстоўвацца дзіджытал-інструменты: тэлеграм-чаты, боты, пшто дапамагалі адсочваць празрыстасць выбараў, і пляцоўкі, напрыклад, анлайн-платформа «Сумленныя людзі», якая аб'яднала велізарную колькасць грамадзян разам і дала ім магчымасць уключацца ў палітычны працэс.

Усё гэта ўзмацніла ідэю салідарызацыі і разуменне таго, што толькі мірны пратэст павінен стаць рабочым механізмам для актывізацыі грамадства.

**Наталля Сацункевіч:**

*«Цяпер мы, як дзеці, якія вучацца хадзіць, вучымся прымаць удзел у мірных сходах, разумець і рэалізоўваць свае грамадзянскія правы. Гэта яшчэ раз гаворыць пра натуральнасць пратэстаў, бо да іх*

*далучаюцца людзі з розных сацыяльных груп. Калі раней у акцыях прымалі ўдзел актывісткі, актывісты, студэнты, студэнткі, так званыя «праціўнікі дэкрэта аб дармаедах», індывідуальныя прадпрымальнікі і прадпрымальніцы, то цяпер мы бачым, што разам, і нават асобнымі блокамі, выйшлі пратэставаць жанчыны, медыкі, супрацоўнікі дзяржаўных структур, спартсмены, пенсіянеры і людзі з інваліднасцю. Бясспрэчна, значную дапамогу аказаў трэці сектар, які паспрыяў таму, што людзі масава даведаліся пра свае правы і тыя інструменты, якімі іх можна рэалізоўваць, дапамаглі ў папулярызацыі нацыянальнай культуры і самасвядомасці. Думаю, НКА маглі б стаць*

*медыятарамі ў перамовах паміж пратэстоўцамі і ўладай, але ўлада, на жаль, не жадае ісці на дыялог».*

**Вольга Шпарага:**
*«Безумоўна, у масавых акцыях актыўна ўдзельнічалі грамадскія актывісты і актывісткі, а таксама НКА, але яны не былі рухавіком пратэсту, а хутчэй выступалі як пасярэднікі. Маючы назапашаны вопыт, грамадзянская супольнасць дзялілася ім: аказвала кансультацыйную і праваабарончую дапамогу, складала спісы затрыманых, запускала праекты падтрымкі, прапаноўвала кантэнт для дваровых актыўнасцей».*

Вынікам выбуху масавых акцый у Беларусі стала змена стану грамадства, якое, ужо не з'яўляецца раздробленым, а разумее значнасць узаемадзеяння і гарызантальных сувязяў. Пратэсты паказалі, што беларусы і беларускі гатовыя змагацца за дэмакратычныя каштоўнасці і пабудову свабодных палітычных інстытутаў. Акрамя таго, была выяўлена разнастайнасць грамадства, і, вядома, неверагодная актыўнасць і кампетэнтнасць жанчын: жаночыя маршы і жаночыя ланцугі сталі асобным калектыўным суб'ектам, які заявіў пра сябе як пра сілу і падкрэсліў важнасць барацьбы за гендарную роўнасць.

**Вольга Шпарага:**
*«Каб жанчыны змаглі ў поўнай меры ўдзельнічаць у палітычных працэсах, іх павінны падтрымліваць. Мы ўсведамляем, што гэта важна, бо дазваляе ўзбагачаць грамадства, выкрываць новыя праблемы, завастраць увагу на розных формах гвалту. Канешне, жанчын шмат у грамадска-палітычнай сферы, але яны, па розных прычынах, застаюцца на другасных ролях. Шмат хто да гэтага часу жыве ў схеме, дзе жанчыны «не хочуць» ці «не могуць» быць лідаркамі. І калі зараз гэтыя схемы разбураюцца, мы бачым, як развіваецца грамадства. Цяпер з'яўляюцца новыя актывісткі і лідаркі, якія, верагодна, сталі б адмаўляць, што яны феміністкі (адсюль і розныя ідэнтыфікацыі сябе, як «маці» ці «жонкі»). Думаю, яны проста да канца не разумеюць, што фемінізм — гэта таксама і пра жаночы ўдзел у грамадскіх працэсах. Мне здаецца, наперадзе нас чакае вялікая праца па асэнсаванню таго, што значыць існуючая актывізацыя».*



# ЗМЕСТ АГЛЯДУ

# ЗМЕСТ АГЛЯДУ

